19Ик
2379

# НАШ ПРАМЕНЬ

## ЧАСОПІСЬ ПАСТУПОВАГА СТУДЭНЦТВА

Выданьне непэрыядычнае

ПРАГА ЧЭРВЕНЬ 1927 № 1.

*Д.*

### ТЭСТАМЭНТ.

У мурох сырых, за рашоткай,
Змагар за праўдзівасьць канаў —
Сярод мовы, к суседу, кароткай,
Чуваць было часта стагнаў.

І стогн гэты рэха хапала,
І ў мурох насіла яго,
Па сьценах глухіх адбівала,
Узбудзіўшы зненацку каго.

Азваўся, як быццам з магілы,
Сусед з няжывой ціхаты:
«Я чую цябе, брат мой мілы,
Кажы, што сказаць хочаш ты!»

І ён, як-бы раптам аджыўшы,
Карватны пашчупаў замок,
І вусна к яму прылажыўшы
У сьцяну закрычаў сколькі мог:

«Таварыш!.. бывай!.. паміраю!..
Ты ў вёску зайдзі пагасьціць —
Як выйдзеш на волю — я раю —
Хутчэй там усім абвясьціць: —

Ня доўга ўжо ім застаецца
Ад белых цярпець палачоў,
Што сьцяг наш чырвоны узаўецца
Пад звон пралетарскіх мячоў.

Я віджу, я чую наўкола
Грамадзкі уздыймаецца рух —
Я сьмерць спатыкаю вясела!...»
І з гэтым ён вызяхнуў дух.

1926 г. *Вільня-Лукішкі.*



бд 5300
0е105

*М. Віленскі.*

## Сусьветнае „разбраеньне“.

Ад самага канца сусьветнае вайны гэроі II Інтэрнацыяналу і пацыфісты розных коляраў ня пераставалі і не перастаюць крычаць аб тым, што капіталістычныя дзяржавы можна прымусіць да самаахвотнага разбраеньня Самі крыкуны бязумоўна ў такое разбраеньне ня верылі і ня вераць, але-ж трэба супакоіваць пралетарыят, каб даць магчымасьць імпэрыялістычным хіжаком вясьці сваю чорную працу, сьціраваную проці інтарэсаў працоўных

Для пасьпешнейшага абаламучаньня працоўных, буржуазія разам са сваімі лёкаямі, сацыял-патрыётамі, стварыла міжнародную установу — Лігу Нацыяў, якую ахрысьціла установай сусьветнага міру. Ліга Народаў бязупынна «працуе» ўжо некалькі год і нарэшце настолькі збанкрутавала, што нават сама буржуазія прызнала гэтае банкрутцва.

Колькі часу ўжо патрачана на абгаворваньня пытаньня разбраеньня, а рэзультату ніякага. «А воз и ныне там» — як кажа расейскі Крылоў.

У той час, як ідуць гутаркі ў Жэнэве аб разбраеньні, ўсе вялікія і малыя капіталістычныя дзяржавы вядуць няупынную працу па павялічэньню і здасканаленьню вызбраеньня. Цэлы сьвет зьяўляецца арэнай гарачкавай чыннасьці імпэрыялістых у галіне ваеннага вызбраеньня. Імпэрыялістычныя дзяржавы адпускаюць аграмадныя часткі сваіх бюджэтаў на зьвялічэньне свае ваеннае сілы і здаканаленьня ваеннае тэхнікі ў-ва ўсіх яе галінах.

Вышэйсказанае сьведчыць, што сучасны мамэнт шмат чым напамінае нам час перад сусьветнай імпэрыялістычнай вайной. Праца Лігі Народаў па разбраеньню не дала жадных высьледкаў, але дзейнасьць вялікіх імпэрыялістычных дзяржаў, правадыроў Лігі, па павялічэньню ваеннага вызбраеньня дала дужа страшныя рэзультаты.

Ваенны бюджэт чатырох сьвятовых дзяржаў — Англіі, Францыі, Італіі і Злуч. Штат. Паўночнае Амэрыкі — ў 1913 г. перад вайной, быў 993 мільн. даляраў. У 1926 г. ваенны бюджэт гэтых чатырох дзяржаў узрос да 1.768 мільн. дал. — зьвялічыўся амаль на 80%. Сухапутнае войска гэтых-жа чатырох дзяржаў у 1913 г. налічвала 1.413.000 чалавек, а ў сучасны мамэнт войска іх зьвялічылася да 1.821.000 чал. Самалётаў у-ва ўсіх чатырох дзяржавах у 1913 г. было 150, а цяпер — 3.550. Праўда, трэба адзначыць, што авіацыя атрымала сваё развіцьцё толькі пад час сусьветнае вайны. Але прыведзеныя лічбы самалётаў не даюць нам поўнае карціны росту авіацыі. Неабмежаныя прадукуючыя магчымасьці эўрапейскіх дзяржаў і Амэрыкі ў галіне авіацыёнай прамысловасьці, а таксама надзвычайнае развіцьцё вопытнай і канструктарскай працы і запас гатовых самалётаў кажуць аб безупынным росту сродкаў паветранай барацьбы.

Калі-ж цяпер зірнём у галіну марскога вызбраеньня, дык

убачым той-жа самы малюнак. Ня гледзячы на пастановы вашынгтонскай канфэрэнцыі аб скарачэньні, ляпей аб урэгуляваньні марскога вызбраеньня на аснове акрэсьляных прапорцыяў між дзяржавамі па будаваньню лінейных караблеў, марскія бюджэты ня зьменьшваюцца, а наадварот, растуць. Дзяржавы, удзельніцы вашынгтонскай канфэрэнцыі, ня зьвяртаючы увагі на свае заявы аб міру, цягам зьвялічваюць свае марскія ваенныя сілы. Толькі замест будаваньня лінейных караблёў, будаваньне якіх у Вашынгтоне абмежана, імпэрыялістычныя дзяржавы шпарка будуюць г. зв., лёгкі флёт — крэйсэры і падводныя лодкі.

Так, Брытанская Імпэрыя за час, з 1922—23 г.г. па 1932—33 г.г., зьвялічвае свае «лёгкія» марскія сілы — надводныя — на 54%, падводныя — на 45%, Злуч. Штат. Пауноч. Амэрыкі зьвялічваюць адпаведна на 24.5% надводныя, а на 14% падводныя сілы, Японія — на 80% надводныя і на 72% падводныя, Францыя — на 300% надвод. і на 200% падводныя, Італія — на 115% надвод. і на 122% падводныя.

А калі прыняць пад увагу дасягненьні тэхнікі ў сэнсе зьвялічэньня выкану і вызбраеньня «лёгкіх» марскіх сіл, дык атрымаем поўнае пацьверджаньня аб росту вызбраеньня на моры.

Адсюль вывад такі, — што ў сучасных умовах ніякія кафэрэнцыі і трыбуналы ня ў сілах спыніць шалёнага супрацоўніцтва капіталістычных дзяржаў па падрыхтоўцы да новае сусьветнае бойні.

Ня меньш важным паказчыкам бязупыннага росту ваеннага вызбраеньня зьяўляецца рост ваенна-прадукуючых магчымасьцяў вялікіх дзяржаў — Францыі, Зл. Шт. Пауноч. Амэрыкі, Англіі і Японіі. Ваенна-прадукуючы выкан Францыі ў параўнаньні з 1917—18 г.г. вырас на 50—60%, а Злуч. Шт. Паун. Амэрыкі на 40—50%. Разьвіцьцё і пашырэньне хімічнай прамысловасьці, а разам з гэтым зьвялічэньне вырабу і здасканаленьне атрутных газаў у-ва ўсіх капіталістычных дзяржавах кажа нам аб тым, што імпэрыялістычныя разбойнікі гатуюць хімічную вайну.

Вось гэтак выглядае разбраеньне вялікіх імпэрыялістычных дзяржаў, ад якіх у ваенным вызбраеньні нічолькі не адстаюць і малыя капіталістычныя дзяржавы.

Напрыклад, агульная лічба войска дзяржаў, мяжуючых з СССР. — Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Польшчы і Румыніі — была ў 1923 г. — 479.000, а да 1927 г. войска гэтых дзяржаў зьвялічылася да 556.000. Да гэтага трэба прылажыць яшчэ лічбу ваенных (фашысцкіх) саюзаў, якія фактычна нічым не адрозьніваюцца ад арганізаванага войска. Саюзы гэтыя ў 1923 г. налічвалі 295.000 чалавек, а да 1927 г. яны зьвялічыліся да 715.000. Лічба самалётаў у гэтых-жа дзяржавах у 1923 г. была 260, а цяпер — 560 (гутарка ідзе аб тых самалётах, якія знайходзяцца ў страі, а не аб рэзэрвовых і запасных). Апрача гэтага трэба сказаць, што Польшча і Румынія за час з 1923 г. па 1927 г., свае ваенна-прадукуючыя магчымасьці зьвялічылі ў два-тры разы.

Такім чынам бачым, што ня толькі вялікія, але і малыя капіталістычныя дзяржавы гатуюцца да вайны. З кім-жа імпэрыялі-

стыя хочуць ваяваць? Супроць каго ськіроўваецца гэтае вызбраеньне? Добра вядома, што сусьветная вайна зьнішчыла і зруйнавала рынкі і мільёны людзей, але ня вырашыла супярэчнасьцяў між імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Наадварот, гэтая вайна выклікала да жыцьця новыя ўгрупаваньні і новыя змаганьні імпэрыялістычных хіжакоў. Барацьба за рынкі ў сучасны мамэнт зьяўляецца больш упартай, чым была ў 1913 г. Кожнае згуртаваньне імпэрыялістычных драпежнікаў дужа уважна сачыць за сваімі канкурэнтамі, будучы прыгатаваным у любы мамэнт памерацца сілай са сваім праціўнікам.

Пытаньне новага разьдзяленьня сьвету, якое падымае Італія і Нямеччына, а таксама няспыняючыяся ваенныя канфлікты і інтрыгі на Балкане, яскрава нам кажуць, што на «шыпцы» сьвятовага імпэрыялізму ня ўсё спакойна.

Але ня гледзячы на ўсе свае ўнутрашнія супярэчнасьці імпэрыялістычныя дзяржавы ў адным пункце свае палітыкі сходзяцца, маюць супольны інтарэс, а гэта — ў паваленьні СССР.

Існаваньне Савецкага Саюзу выклікала магутнае прабуджэньне каленіяльных і паўкаленіяльных народаў, асабліва Кітаю, дзе мы бачым, як з кождым днём расьце і мацнее рэвалюцыйны фронт, сьціраваны ў першу чаргу супроць сьвятовага імпэрыялізму. Дзеля гэтага кожнаму ясна, што вызбраеньне імпэрыялістычных дзяржаў перадусім накіроўваецца проці Кітаю і СССР. Пры сучаснай сітуацыі ў Кітаі найбольш можа страціць ангельскі гандлёвы капітал, дзеля чаго ролю правадыра-ката ўсіх імпэрыялістычных дзяржаў у акцыі па задушэньню кітайскай рэвалюцыі ўзяла на сябе Англія. Але каб пасьпешна павесьці барацьбу проці рэвалюцыі ў Кітаі, неабходна зьнішчыць саюзьніка рэвалюцыйна-вызвольных рухаў каленіяльных і паўкаленіяльных народаў наагул, а кітайскай рэвалюцыі ў прыватнасьці — першую дзяржаву працоўных — СССР, апору ўсіх эксплёатаваных ў іх барацьбе супроць эксплёататараў. Для перавядзеньня сваіх мэтаў Англіі патрэбен адзіны процісавецкі фронт усіх капіталістычных дзяржаў. «Анёлак міру» Чэмбэрлен ужо некалькі год вядзе «міравую» палітыку, якая палягае ў тым, каб дзяржаву работнікаў і сялян — СССР абкружыць моцным жалезным ланцугом капіталістычных дзяржаў і пры першым спрыяючым выпадку задушыць гэты цэнтр рэвалюцыйных рухаў працоўных. Фашысцкі пераварот у Польшчы і Літве і імкненьне пагадзіць між сабою ўспомненыя дзяржавы — зьяўляецца толькі нязначнай часткай ангельскай палітыкі па абкружэньню ды ізаляцыі СССР. Але Англія дужа дабра ведае, што ані Польшча, ані Румынія, ані другія мяжуючыя з СССР дзяржавы ня змогуць даць задавальняючай зарукі ангельскаму імпэрыялізму аб паспешным нападзе на Савецкі Саюз. Толькі удзел наймацнейшай ваеннай сілы ў Эўропе, г. ё. Францыі зможа забясьпечыць ангельскай рэакцыі пасьпешнае перавядзеньне ваенных плянаў проці Савецкае Дзяржавы. Апошняе найлепш сьцверджваюць нядаўныя «адведзіны» Чэмбэрлена Брыянам. Лёнданская размова гэтых двох патэнтаваных Нобэляўскіх гэрояў «міру»

неабмежавалася толькі «сяброўскімі» камплімэнтамі. Яна (размова) перадусім таркалася супольнага катаўскага поступу проці кітайскай рэвалюцыі, а таксама каваньня адзінага фронту капіталістычных дзяржаў для нападу на рэспубліку працы — СССР.

Бязупыннымі правакацыямі СССР ангельскія імпэрыялістычныя хіжакі хочуць уцягнуць работніцка-сялянскую дзяржаву ў вайну, па якой яны ўвесь час так смагнуць. Хунгузкі напад і растрэлы ў Пэкіну, абляганьне кансуляту ў Шанхаі і разбойніцкі напад на «Аркос» — зьяўляюцца найлепшым доказам міровай палітыкі Савецкага Саюзу. Толькі дзяржава працоўных патрапіла захаваць шмат разоў агрожываемы сусьветны мір. Цяперашні разрыў гандлёвых і дыплёматычных зносінаў паміж Англіяй і СССР ёсьць ня чым іншым, як першым крокам ваеннага паходу ангельскага імпэрыялізму проці дзяржавы працоўных.

Гэткім чынам, у сучасны мамэнт на сьвятовай аблозе мы бачымо два сьцягі, ваюючыя адзін супроць другога — сьцяг вайны, які нясуць імпэрыялістыя ўсіх дзяржаў на чале з ангельскімі кансэрватарамі і сьцяг міру, які моцна трымае ў сваіх руках работніцка-сялянская дзяржава — СССР. Перамога сьцягу міру зьяўляеццца неадкладным і чарговым заданьнем працоўных мас усяго сьвету.

---

## Палітычнае жыцьцё ў Зах. Беларусі.

Розьніца між палітычным жыцьцём у Зах. Беларусі некалькі гадоў назад і сёньнашнім аграмадная. Калі раней у беларускім нацыянальным табары панавала якаясь неазначанасьць і блытаніна, дык у сучасны мамэнт мы бачым поўную афармленасьць. З кождым днём беларускі рух пад Польшчай прыймае ўсё большую і большую форму рэвалюцыйна-клясавай барацьбы, выкрысталізоўваецца ў моцны фактар сацыяльнай рэвалюцыі, які прызначаны штурмаваць цьвярдыні буржаузна-шляхоцкай Польшчы.

Ранейшы нацыянальны табар Зах. Беларусі прадстаўляў сабой нейкі рамантычны адзіны беларускі фронт, складнікі якога нібыта мелі супольны інтарэс у імкненьні да «незалежнасьці» Беларусі. Але ў сутнасьці гэты адзіны фронт ня меў жадных акрэсьляных мэтаў, ня меў свайго дзённага парадку; ён увесь час плутаўся ў хвасьце зах.-эўрапейскае буржуазнае дэмакратыі і разам з апошняй, расчыніўшы адныя і тыя-ж ноты, пяяў, аж захліпаўся, песьні ськіваваныя супроць працы, якая рабілася мазолістымі рукамі работнікаў і сялян на Усходзе. Чытаньне і перачытваньне буржуазна-вільсонаўскіх пунктаў «самаазначэньня» (чытай пагвалчаньня) нацыяў, кабінэтныя пратэсты і абіваньне парогаў імпэрыялістычнай Лігі Нацыяў — вось да чаго зводзілася клапатлівая «праца» адзінага фронту «незалежнікаў». Неазначанасьць, расплывучатасьць, хныканьне і нарэшце поўнае

адарваньне ад шырокіх беларускіх працоўных мас — характэрныя рысы быўшага беларускага адзінага фронту.

На соймавых выбарах 1922 г. беларусы выступілі таксама адзіным нацыянальным фронтам і, як апазыцыйна настроеныя супроць панскае Польшчы, дасталі большасьць галасоў беларускага насельніцтва, якое праз паслоў спадзявалася палепшыць сваё цяжкое становішча. Але практыка некалькіх год паказала, што «апазыцыйныя» прамовы паслоў з соймавай трыбуны ня ў сілах прынесьці палепшаньне ў жыцьцё працоўных мас, дзеля чаго апошнія пачалі шукаць новых формаў барацьбы з буржуазна-абшарніцкай уладай, такіх формаў, якія-б прывялі да паваленьня буржуазіі і абшарнікаў, да ўтварэньня работніцка-сялянскае улады — гэтай адзінай вызваліцельніцы працоўных мас з пад сацыяльнага і нацыянальнага гвалту і ўціску капіталістычна-шляхоцкіх паразытаў. Чэсны і рэвалюцыйны элямэнт адзінага беларускага пасольскага клюбу пайшоў на спатканьне гэтым дамаганьням і голасу шырокіх працоўных мас, залажыўшы Беларускую Сял.-Работ. Грамаду, якая паставіла сваёй мэтай аб'еднаньне работнікаў места і сялян вёскі ў моцны рэвалюцыйны фронт барацьбы за работніцка-сялянскую ўладу. Другія-ж групкі беларускага пасольскага клюбу на гэтую акцыю адклікнуліся проціакцыяй, стварыўшы г. зв. беларускі «дэмакратычны» табар, які і далей цьвічыцца ў кісла-салодкіх прамовах з соймавай трыбуны, далей вядзець лёяльную «апазыцыю» супроць польскага фашысцка-буржуазнага ураду. Беларускі «дэмакратычны» табар, які складаецца з чорна-сутаніцкіх «дэмакратаў» з «Крыніцы» і «дэмакратаў» з антысялянскага саюзу, які па непаразуменьню назваўся сялянскім, дужа ваража паставіўся да аб'еднаньня работнікаў і сялян у адналіты фронт барацьбы з буржуазіяй і абшарнікамі за сваю работніцка-сялянскую ўладу. Нашы «дэмакраты» павялі самую заядлую працу па разьбіцьцю фронту працоўных. Сельсаюзьнікі і хадэкі ўсімі спосабамі стараліся нацкаваць сялян на работнікаў, падкрэсьліваючы ўвесь час у сваіх часопісях розьніцу (?) інтарэсаў работнікаў і сялян. Але гэтай дэмагогіі не хапала. «Грамада» шпаркім тэмпам расла і пашырала свае уплывы на сялянства ўсёй Зах. Беларусі. Такім чынам фронт рэвалюцыі мацнеў і магутнеў з кожным днём. Ад гэтага росту процікапіталістычнага фронту працоўных на паноў «демакратаў» напаў вялікі страх, які аканчальна іх зьбіў з панталыку. Беларускія «дэмакраты» ня ведалі за якое аружжа ім трэба ўхапіцца, каб хоць трошкі прадоўжыць сваё існаваньне, каб хоць дзе-які час пратрымацца на сваіх антынародных пазыцыях. Аб тым, як трымаліся і змагаліся з «Грамадой» беларускія «дэмакраты» найлепш скажуць органы Полацкай вуліцы — «Крыніца» і «Сялянская Ніва», дзеля чаго дамо ім слова.

У часопісі хадэкаў «Крыніца» (№ 35 — 1926), прачытаўшы артыкул пісакі Дудара, мы пабачым поўную перапуджанасьць беларускіх клерыкалаў ад магутнага росту «Грамады». Клеры-

калы, якія дзякуючы сваёй веры (?) ў магутнасьць крыжа, мусілі-б быць заўсёды аптымістычна настроенымі, упалі нараз у поўны пэсымізм. Зусім будзе слушна, калі да іх прыстасуем біблейскі сказ, зьмяніўшы толькі для беларускіх абставін — вавілонскія на віленскія — «на рэках віленскіх седохом і плакахом», ды яшчэ «ізрэкахом» — усе пайшлі ў «Грамаду». Работнікі і сяляне разам сталі ў шчыльных радох «Грамады». Ніяк ня можна зразумець, што «Грамада» са сваім сацыялізмам, адпавядаючая толькі (?) інтарэсам работнікаў места, захапіла ў свае рады беларускае сялянства? Пасьля такіх гарачых і безнадзейных слёз пан Дудар зьбіраецца з духам і пачынае «аналізаваць» прычыны, якія спрычыніліся росту «Грамады». Ад гэтага «аналізу», як кажуць, аж у пяткі коле. «Аналітык» кажа, што росту «Грамады» дужа спрыялі клерыкалы, якія сваёй няўпыннай легальнай і падпольнай (?) працай падгатавалі ў беларускіх масах грунт гэтага росту. Але рост гэты, кажа клерыкальны пісака, часовае зьявішча, бо сялянства пабачыўшы сацыялізм «Грамады» ізноў вернецца (?) ў лоно хрысьціянай дэмакратыі.

Мімахоць скажаш — якая недарэчнасьць! —

Хіба-ж крыж, які зьяўляецца процілежнасьцю чырвонага сьцягу, можа служыць пераходным зьвяном да апошняга? Хіба-ж партыя хадэкаў, якая імкнецца ўсыпіць клясавую сьвядомасьць працоўных, якая пнецца замазаць клясавыя супярэчнасьці, якая намагаецца зьліквідаваць рэвалюцыйную барацьбу, можа падрыхтоўваць масы да прыняцьця навукі чырвонага сьцягу, — навукі клясавага ўсьведамленьня і сацыяльна-рэвалюцыйнай барацьбы? Праўда, існаваньне табару крыжа-дэмакратаў са сваімі антысацыяльнымі формамі барацьбы, прысьпешае атрафіраваньне дэмакратычных ілюзіяў у масах і гэткім чынам прыскорвае пераход працоўных на бок рэвалюцыі. Але-ж гэта ня зьяўляецца рэвалюцыйнай падрыхтоўкай мас. Да рэвалюцыйнай падрыхтоўкі тут так далёка, як ад зямлі да неба.

Ня больш ня меньш, як самаабманам, зьяўляецца беспадстаўнае цьверджаньне «аналітыка», што ў будучыне сяляне папоўняць пустыя шэрагі клерыкалаў. Сяляне цяпер пачалі разумець, што пад крыжам у магіле яшчэ можна ляжаць (тады ўсёроўна), але пад крыжам аб'ядновацца для барацьбы за свае правы азначае — вечна гібець у ярме капіталістычна — абшарніцкага уціску і няволі.

Спынімся цяпер на «сястрыцы» «Кгуnісу» «Сялянскай Ніве». Паглядзімо, аб чым пашісваюць паны дабрадзеі з «Сялянскага Саюзу»? — Якую тактыку яны выпрацавалі для пасьпешнага разьбіцьця работніцка-сялянскага рэвалюцыйнага фронту? — Якія мэтады ужывалі яны для барацьбы з арганізацыяй працоўных — «Грамадой»? —

У «Сялянскай Ніве» (№ 34 — 1926 г.) сельсаюзнікі, узяўшыся ў бокі, як хварсістыя хлапчукі, ганарыста заяўляюць: — наша партыя «Сялянскі Саюз» шмат лявейшая і радыкальнейшая (?), чым «Грамада». Сваю «лявізну» і радыкалізм» сельса-

юзьнікі аргумэнтуюць наступным: мы («С. С.») ня супрацоўнічаем з польскімі рэвалюцыйнымі партыямі, а наадварот, змагаемся з такім супрацоўніцтвам, мы ня можам быць урадовай партыяй пры работніцка-сялянскай уладзе (Sic!). Яшчэ толькі паны сельсаюзьнікі не дапісалі аднаго свайго «важнага» аргумэнту (якога напэўна ня ўжылі толькі таму, што абрыдла яго ужываць амаль у кожным нумары свае газэты) — разьбіцьцё адзінага фронту працоўных, фронту работнікаў і сялян. Вось дзе сьмярдзючы букэт здрады, прыпаднесяны дабрадзеямі з «Сялянскага Саюзу» пад відам свае лявізны і радыкалізму. Хіба-ж можа быць больш мядзьвежжае і незграбнае хаваньне здрадніцкага аблічча? — Такое яўное здрадніцтва ня можа ня выкрыць самы забіты і цёмны селянін, не гаворачы ўжо аб людзях больш меньш сьвядомых і хоць трошкі крытычна думаючых. Ну і запраўды-ж, усё найбольш страшнае для буржуазіі і абшарнікаў — адзіны фронт рэвалюцыйных партыяў, адзіны фронт работнікаў і сялян, работніцка-сялянская улада — сельсаюзьнікі мала таго, што адкідаюць, але яшчэ супроць гэтага вядуць упартую барацьбу. Можа сельсаюзнікі скажуць, што яны змагаюцца за перадачу зямлі без выкупу сялянству. Але-ж каго паны з «Сялянскага Саюзу» хочуць абаламуціць гэтай сваёй пустой і голай фразай, якая ня мае жадных падстаў, а толькі зьяўляецца маскай, закрываючай іх здрадніцкае абліччa, невядома. Хіба-ж можна гаварыць аб надзеле зямлёй сялянства, стоячы адначасна за буржуазную уладу, абароньніцу інтарэсаў, як буржуазіі, так і абшарнікаў? Хіба-ж не зьвязаны прамысловы капітал моцнымі ніткамі праз банкі з аграрным капіталам? Біць па абшарніках, знача біць па наймацнейшым саюзьніку буржуазіі. Буржуазія добра разумее, што канфіскацыя абшарніцкай зямлі мела-б за насьледак падрыў яе эканамічнай і палітычнай сілы, дзеля чаго на падобнае харакіры яна ніколі ня пойдзе. Адпор буржуазіі можна быць зламаны толькі рашучай барацьбой, толькі ў бязлітаснай рэвалюцыйнай бойцы. Толькі ськінуўшы буржуазію атрымае сялянства зямлю. Ськінуць панаваньне капіталістаў, а тым самым здабыць сабе зямлю, сялянства зможа толькі тагды, калі пойдзе рука ў руку з пралетарыятам места. Супольны рэвалюцыйны фронт работнікаў і сялян — *першая* і неабходная умова пасьпешнае барацьбы за зямлю для сялянства. «Сялянскі Саюз» нацкоўваючы сялян на работнікаў стараецца разьбіць адзіны фронт працоўных, гэтую неабходную перадумову перамогі, а знача і зьдзейсьненьня дамаганьняў сялян. Процістаўлячы інтарэсы сялянства інтарэсам пралетарыяту, — стаўлячы яго ў шэраг эксплёататараў, на адну дошку з капіталістымі і абшарнікамі, «Сялянскі Саюз» тым самым хоча пераканаць сялян у тым, што пралетарыят зьяўляецца, калі ня ворагам, дык у кожным выпадку і ня прыяцелям. Пан Ярэміч у «Сялянскай Ніве» (№ 6 — 1926)., спачатку пнецца даказаць лічбамі (?), што работнікі эксплёатуюць сялян, але потым, пабачыўшы што лічбы не гавораць у яго карысьць, пачаў карыстацца самай чыстай і непадробленай ма-

ной. Дабрадзей Ярэміч піша, што сяляне ў БССР, дзе пануе работніцка-сялянская улада, таксама не атрымалі зямлі, а калі і атрымалі, дык дужа мала, бо ўся выўласьненая зямля перайшла да дзяржаўных гаспадарак г. зв. саўхозаў. У каго Ярэміч пазычыў вочы, каб напісаць такія ілжывыя радкі, нам вядома з народнае прыказкі. Хіба-ж можна голай фразай закрыць усім працоўным добра вядомы факт, што толькі работніцка-сялянская улада БССР зябясьпечыла і перадала бяз выкупу зямлю сялянству? Апошняе мы сьцьверджываем лічбамі, а не голымі славамі, як гэта робіць Ярэміч. Лічбы паказваюць, што ў БССР уся зямля належыць сялянству, апрача *трох працантаў*, якія належаць саўхозам (гл. арт. «Зямельныя адносіны на Беларусі). Брахлівы-ж крок «лідэра» Ярэміча нам кажа толькі адно, што правадыры «Сель. Саюзу», прыпертыя сялянствам у кут задам, як той Крылоўскі воўк, каб закрыць сваю здрадніцкую працу і ападстатніць свае антысялянскі пазыцыі, змушаны карыстацца чысьцюсенькай маной.

*Другой* перадумовай паваленьня буржуазна-абшарніцкай улады зьяўляецца адзіны фронт рэвалюцыйных работнікаў і сялян усіх нацыяў, насельваючых сучасную Польшчу. Толькі ў такім выпадку забясьпечана перамога працоўных. Усякі шчыры барацьбіт за правы працоўных бязумоўна пойдзе толькі па шляху, аб'ядныва̀ючым усе рэвалюцыйныя сілы для штурмаваньня цытадэлі польскай фашысцка-капіталістычна-шляхоцкай рэакцыі. Як ставяцца да гэтага сельсаюзьнікі, мы ўжо ўспаміналі вышэй. Яны з пенай на губах намагаюцца перашкодзіць гэткай каардынацыі рэвалюцыйных сіл. Яны не саромяцца тут адкрыта выступіць у ролі абаронцаў буржуазнай улады. Для гэтага яны ўжываюць самыя нізкія і подлыя аргумэнты, каб толькі не дапусьціць да стройнага і згоднага поступу рэвалюцыйнае сілы ўсіх народаў, жывучых у сучаснай Польшчы. Ня будзем галаслоўнымі і прывядзём факты. Зяўзятая барацьба «Сялянскага Саюзу» супроць цеснага супрацоўніцтва беларускіх работнікаў і сялян, аб'еднаных у «Грамадзе» і рэвалюцыйных польскіх сялян, аб'еднаных у «Н.П.Х.», наяскравей паказваюць нам на чыю карысьць працуюць сельсаюзьнікі. Ня будземо прыводзіць тых брудных слоў і артыкулаў «С.Н.», якія сыпаліся па адрасу гэтага аб'еднанага фактару барацьбы за правы працоўных. Скажам толькі адно, што ў барацьбе супроць гэтага рэвалюцыйнага фронту, угадоўцы з «С.С.» не заставаліся пазаду польскага фашызму. Каб падмацаваць польскі фашызм у яго барацьбе проці рэвалюцыйнай партыі польскага сялянства, гэроі з «Сялянскага Саюзу» ухапіліся, як утапаючы за саломінку, за «абвінавачаньня» ў «правакатарстве», высунутыя пілсудчынай супроць правадыра Н.П.Х. Ваевудзкага. Паны сельсаюзьнікі аж са скуры лезьлі вон, каб толькі даказаць сваім пасьлядоўнікам, што польскі буржуазна-шляхоцкі урад, які пабудаваны і трымаецца на правакатарстве, які ўсе палітычныя працэсы асноўвае толькі на правакатарстве, які зьлегалізаваў і узяў пад сваю ахарону правакатарства, які



за нішчаньне правакатараў, бяз суду растрэльвае людзей, настолькі «маральны», што нават сваіх уласных правакатараў аддае (?) пад суд. Але хіба ж можна такім нязграбным адвакацтвам закрыць запраўдны твар авантуры пілсудчыны проці Ваевудзкага? Кожнаму, больш меньш крытычна думаючаму чалавеку, добра вядома, што польскі фашызм са сваімі беларускімі лёкаямі з «Сялянскага Саюзу» і польскімі прыхлебацелямі з сацыял-патрыятычных бярлог перасьледуюць Ваевудзкага за тое, што ён, парваўшы з пілсудчынай, перайшоў на бок працоўнага сялянства, якое пачаў арганізоўваць у Н.П.Х. для запраўднае рэвалюцыйнае барацьбы за сялянска-работніцкую ўладу. Ня гледзячы на перасьледаваньні з боку панскага ураду, Н.П.Х. з кождым днём захоплівала ў свае шэрагі ўсё шырэйшыя слаі польскага сялянства і гэткім чынам рабілася паважнай пагрозай для польскага фашызму, які, каб спыніць рост Н.П.Х. задумаў скампрамітаваць правадыра партыі, Ваевудзкага, аддаўшы яго пад г. зв. маршалкаўскі суд. Але на прэвялікі жаль пілсудчыны і беларускай угадоўшчыны маршалкаўскі суд, яўна клясава варожы і рэакцыйны, быў змушаны апраўдаць Ваевудзкага. Пасьля такога фіяска польскі фашызм зрабіў тое, што было ім задумана ад самага пачатку сваёй авантуры проці Ваевудзкага, г. ё. брутальна разагнаў Н.П.Х., як і Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду.

Гэтак выглядала «правакатарства» Ваевудзкага, прасьледаванае «маральным» польскім урадам. Кожному з нас дужа добра вядома, што буржуазна-демакратычная дзяржава тых людзей, якія клясава ўсьведамляюць працоўныя масы і арганізоўваюць гэтыя масы ў рэвалюцыйны фронт барацьбы з буржуазіяй, перасьледуе як найгоршых злачынцаў, а прадажнікаў, якія (напр. бел. сельсаюзнікі) імкнуцца падпарадкаваць працу капіталу, буржуазія бярэ пад сваю ахарону. Вось дзеля гэтага гоман і вэрхал, падняты «дэмакратамі» з «Сялянскага Саюзу» наўкола г. зв. «афэры» Ваевудзкага, зусім аналёгічны з крыкам віленскіх басякоў, якія каб зацерці свае зладзейскія сьляды і захараніцца ад перасьледаваньня, уцякаючы з пакражай і паказваючы пальцам на другіх, крычаць — Лаві! Трымай! і г. д.

Але можа хто-небудзь з чытачоў скажа, што сельсаюзьнікі вялікія нацыяналістыя (?), дзякуючы чаму ня могуць супрацоўнічаць з польскімі партыямі наагул, а з рэвалюцыйнымі ў прыватнасьці. Каб адказаць на гэта, хопіць толькі зьвярнуць чытачову увагу на сьвяткаваньне дзявятых угодкаў абвешчаньня г. зв. «Незалежнай БНР» Тут чытач знойдзе зусім вычэрпваючы адказ. У ліку чужых прадстаўнікоў, вітаючых «сьвяткаваньне» мы знойдзем чуць не афіцыяльнага заступніка правячых колаў сучасне фашысцкае Польшчы. Тэй Польшчы, якая гвалціць правы ня толькі беларускіх працоўных мас, але працоўных мас усіх народаў, якія жывуць ў Польшчы, ў тым ліку і польскіх. Паны «незалежнікі» з вялікім захопленьням чыталі «прывітальную» тэлеграму Акуліча і слухалі цынічную прамову прадстаў-

ніка сацыяльнага і нацыянальнага уціску і гвалту беларускіх працоўных мас. На першы пагляд гэта здаецца камічным, але, ляпей прыглядзеўшыся да гэтага, пабачым нешта іншае. Убачымо тое, аб чым пісаў «Kurjer Wilenski» у час залажэньня «Сялянскага Саюзу» і аб чым прадоўжвае пісаць і цяпер, што беларускія угадовыя партыі («С.С.» і «Хадэкі») заусёды пойдуць на угоду з польскай уладай, толькі трэба пачаць з імі перагаворы. Прачытаўшы перадавіцу № 8 — 1927 «Krynicy» аб паразуменьні з Польшчай і маючы факт сьвяткаваньня «незалежнікаў» разам з прадстаўнікамі польскага фашызму і з дэфэнзыўшчыкамі з «Беларускага Дню», можна судзіць, што акцыя дагоды ўжо распачалася. Вось якое «чыстае» нацыянальнае абліччa беларускіх «дэмакратаў». Яны нічога ня хочуць мець супольнага з польскімі рэвалюцыйнымі партыямі, аб'ядноўваючымі рэвалюцыйных работнікаў і сялян, якія змагаюцца за работніцка-сялянскую уладу, але з прадстаўнікамі польскае буржуазнай «дэмократыі» яны гатовы ісьці на угоду, гатовы пакаштаваць смачнай стравы сытых урадовых жолабаў.

Бязумоўна, што такія «канкурэнты» з яўна здрадніцкім абліччам ня былі фактычна канкурэнтамі «Грамады», якая выставіла сваім поклічам аб'яднаньне работнікаў і сялян, а таксама аб'яднаньне ўсіх рэвалюцыйных элямэнтаў сучаснае Польшчы для барацьбы за работніцка-сялянскую уладу. Дзякуючы гэтаму за кароткі час свайго існаваньня «Грамада» об'яднала ў сваіх радох да 100.000 работнікаў і сялян Зах. Беларусі. Гэтая статысячная армія працоўных зьяўлялася вялікай пагрозай ня толькі для беларускіх угадоўцаў, але і для моцных сучаснае Польшчы — буржуазіі і абшарнікаў. Бачачы, што «Грамада» фактычна ўзяла манаполь над сацыяльна-нацыянальна-вызвольным рухам у Зах. Беларусі, польскі фашызм, не асьмельваючыся адразу напасьці і пазачыняць нязлічныя гурткі «Грамады», якія пакрылі густой сеткай амаль усю Зах. Беларусь, наперад выпусьціў сваіх лёкаяў, вырасшых на беларускім грунце і згуртаваных каля «Krynicy» і «Сялянскай Нівы», каб яны, як бліжэй стаячыя да беларускага руху, падгатавалі «грамадзкую» апінію для зачыненьня «Грамады». Трэ' сказаць, што лёяльныя «апазыцыянэры» да польскага фашысцкага ураду, паны хадэкі і сельсаюзьнікі, былі тут незамянімымі памоцнікамі польскага фашызму ў яго подлым і гвалтоўным задушэньні наймацнейшае арганізацыі работнікаў і сялян Зах. Беларусі. «Сялянская Ніва» стаўшы на яўна правакатарскі грунт, пісала, што ў «Грамадзе» знайходзяцца людзі з маскоўскай чэкі, што «Грамада» цесна зьвязана з камуністычнаю партыяй, дзеля чаго была-б урадовай партыяй у СССР. Чаго-ж больш? Гэтага-ж правакатарства і трэ' было для польскіх абшарнікаў і буржуазіі, каб утапіць у крыві змаганьне працоўных мас Зах. Беларусі за свае правы. Хіба-ж ня гэта самае пісала манархістычнае віленскае «Slowo»? Чым вытлумачыць такую дэфэнзыўную пісаніну «Сялянскага Саюзу», калі ня службай на карысьць польскага фашызму, калі не адкрытай здрадай

беларускіх працоўных мас, калі ня поўным банкруцтвам беларускай здрада-угадоўшчыны? Пасьля такога папярэдняга гэнэральнага абстрэлу арганізацыі беларускіх працоўных мас, як з боку польскага фашызму, так і з боку стопрацэнтных «незалежнікаў» з «Сялянскага Саюзу» і «Хрышчонай Дэмакратыі», буржуазна-шляхоцкі урад Польшчы ўзяўся ў брутальны спосаб душыць рух беларускіх работнікаў і сялян. Фашысцкі урад у першую чаргу пастараўся заарыштаваць правадыроў Бел. Сель.-Работ. Грамады ў асобах яе паслоў на Сойм, якія нібыта па законам польскае «дэмакратыі» карысталіся правам нятыкальнасьці. Але хіба-ж на гэтыя законы, якія сама пісала, раз'юшаная буржузна - абшарніцкая бэстыя будзе глядзець, калі заходзіць справа аб пагрозе яе эканамічна-клясавым інтарэсам? Падобныя законы нятыкальнасьці асобаў паслоў яна бязумоўна пісала не для сябе, а для тых сваіх паслугавачоў, на манэр беларускіх сельсаюзнікаў і хадэкаў, якія разявіўшы рот і стукаючы сабе ў грудзі на ўсіх крыжаватках беларускіх дорог крычаць і бароняць буржуазную дэмакратыю супроць работніцка-сялянскай улады, кажучы, што толькі «дэмакратыя» можа забясьпечыць правы працоўных. Мы, кажуць беларускія «демакраты», ворагі ўсякай (?) дыктатуры. Не, панове угадоўцы, дазвольце тут вам не паверыць. Што вы процi дыктатуры падаўляючай большасьці працоўных над нязначнай кучкай крывавых экспёататараў, дык гэта факт, але што вы за дыктатуру купкі буржуазна-абшарніцкіх паразытаў над працоўнымі, дык таксама факт. Бо хто-ж найлепш бароніць шырму буржуазна-абшарніцкай дыктатуры, г. зв. дэмакратыю, як ня вы, прадстаўнікі угадовых бярлог? Хто-ж як ня вы, паадзяваўшы хвартухі «апякуноў» беларускага працоўнага люду, баламуціце «дэмакратыяй» працоўныя масы, стараючыся ім даказаць, што і пры існаваньні буржуазіі можна дабіцца сваіх правоў. Але жалезны ход гістарычных падзеяў бязлітасна агаляе здрадніцкі аблічай угадоўшчыны і гэткім чынам усьвядамляе самыя цёмныя і забітыя працоўныя масы.

Апошнія падзеі ў Зах. Беларусі найяскравей паказалі ілжывасьць і абман пасьлядоўнікаў «дэмакратыі». Брутальны і вераломны разгон легальнай работніцка-сялянскай арганізацыі, зацверджанай самім-жа урадам, а таксама масавыя арышты правадыроў «Грамады» і культурных дзеячоў, найлепш ілюструюць нам «дэмакратыю», васьпеваемую угадоўцамі ўсіх масьцяў, у тым ліку і беларускімі з «С.С.» і Хр. Дэмакратыі. Тая цынічная перапіска між Мэйштовічам і Ратаем, што вялася пад час арыштаў беларускіх паслоў, а таксама перапіска між Ратаем і «пратэстантамі» супроць парушэньня польскае канстытуцыі, паказала, што буржуазная дэмакратыя зьяўляецца ня чым іншым, як дыктатарскім аружжам буржуазіі. Трэ' было для буржуазіі зьнішчыць свайго небясьпечнага ворага, — яна не паглядзела ні на якія параграфы сваёй канстытуцыі, арыштаваўшы і пасадзіўшы ў турму нявінных людзей. Тая дыскусыя, што вялася ў Сойме аб выдачы паслоў паказала, што пракуратура не прадставіла ніякіх фактыч-

ных дадзеных па абвінавачаньню паслоў. Пракурор толькі прыпускаў, што паслы супрацоунічалі (?) з камуністычнай партыяй, што яны шпіёнілі (?) на карысьць суседняй дзяржавы, што яны хацелі рабіць паўстаньне (?) і інш. ні на чым неабгрунтаваныя «доказы» (прыпушчэньні). Вось вам і акт абвінавачаньня, — толькі адны прыпушчэньні! Усёткі, ня глядзячы на гэта Сойм выдаў паслоў, якіх з Лукішскай турмы перавезьлі ў цэнтральную турму ў Вронках, дзе іх трымаюць бяз суду і да гэтага часу, — відаць не пасьпела яшчэ дэфэнзыва сфабрыкаваць дакумэнтаў «здрады дзяржаве».

Цяпер для нас цікава ведаць, як у час гэтае куцярмы наўкола арыштаў і выдачы паслоў, захаваліся беларускія угадовыя партыі («С.С.» і «Х.Д.»). Тыя партыі, якія ў змаганьні з «Грамадой» ужывалі тых самых правакатарскіх мэтадаў, што і польская дэфэнзыва. Трэба адзначыць, што тут угадоўцы праявілі сябе поўнымі «гэроямі» і «абаронцамі» беларускіх нацыянальных інтарэсаў. У сваёй абароньніцкай ролі паны «незалежнікі» у поўным сэнсе нападобліваліся Крылоўскай мусе, якая, седзячы ў вала на рогах, на запыт свае кумпаніі — адкуль, адказала — «мы пахалі». Нарэшце нам важна прасьлядзіць і прааналізаваць тыя абставіны, пры якіх былі змушаны і ранейшыя пракуроры польскай буржуазіі «С.Х.» і «Х.Д.» па абвінавачаньню «Грамады» выступіць з «пратэстам» супроць разгрому беларускага руху пад Польшчай. Перадусім трэба адзначыць, што пры ўсім жаданьні схаваць «нос у хварост» сельсаюзнікі і хрышчонікі не маглі, бо гэта-б азначала страціць назаўсёды і тую нязначную лічбу сваіх прыхільнікаў, якія ім яшчэ вераць. Ніяк ня можна было замаўчаць такога дзікага гвалту і нячуванага тэрору фашысцка-буржуазна-абшарніцкай банды проці руху беларускіх працоўных мас. Калі з такім гвалтам не згадзіўся нават пасол Хамінскі, прадстаўнік урадовай фашысцкай партыі «Працы», які ў знак пратэсту выступіў з партыі; калі задушэўны саюзьнік польскага фашызму П.П.С. Лібэрман «пратэставаў» супроць незаконных дзеяньяў ураду, — дык не маглі-ж беларускія сельсаюзьнікі і хадэкі ня пусьціць кракадзілячай сьлязы, каб гэткім чынам закрыць перад сваімі пасьлядоўнікамі здрадніцкі аблічай. Яны добра ведалі, што такія «пратэсты» усяроўна, што гарох аб сьценку, а нацыянальны капіталец на гэтым можна скалаціць, дзеля гэтага, — пратэстуй! Як выглядалі гэтыя «пратэсты» найлепш відаць з прамоў п. п. Ярэміча і Рагулі, ў якіх, апошнія выступілі не як барацьбіты проці ураду нячуванага гвалту і ўціску, але як дахтары гэтага ураду, як параднікі гэтага ураду, які па іхняму так не абдумана ідзе на самагубства. Замест таго, каб вывярнуць навонак усю ілжывасьць буржуазнай дэмакратыі і заклікаць працоўныя масы да барацьбы за работніцка-сялянскую уладу, гэтую адзіную ахароньніцу інтарэсаў працоўных, сельсаюзьнікі, лічачы сябе абаронцамі інтарэсаў сялянства, стараліся як мага застанавіць ад рызыкоўнага кроку польскую буржуазію, бо, маўляў, і мы там ужо ня зможам памагчы вам (бур-

жуям) прытупіць рэвалюцыйныя тэндэнцыі працоўных. Пан Рагуля з соймавай трыбуны, зьвяртаючыся да прадстаўнікоў крывавага тэрору, угаварываў іх, каб яны дзейнічалі асьцяражней, бо, кажа, сваім рэзкім паступаваньнем вы самі гатуеце пятлю для сябе, вы самі заганяеце ў табор рэвалюцыі ўсё чэснае і актыўнае, вы самі створваеце такую сытуацыю, пры каторай уся гімназіяльная молодзь ідзе ў камсамол і г. д.

Вось вам здрадніцтва ў поўным сваім харастве! Агэнт буржуазіі, як агэнт. Клапоціцца не аб інтарэсах працоўных, а дрыжыць і турбуецца з-за таго, што буржуазна-абшарніцкай зграі пагражае небясьпека ад усё растучага і мацнеючага фронту сацыяльнай рэвалюцыі. Здрада-угадоўцы думаюць, што, калі ўдасцца ім уламаць хоць троху сваіх патронаў (буржуазію) на якую небудзь рэформу ў справе нацменьшасьцяў, дык рэвалюцыйная пагроза там будзе зьліквідавана. Але жорстка памыляюцца паны угадоуцы, калі яны нат' так і думаюць. Як ня можна аднэй лыжкай мёду засаладзіць аграмадную бочку дзёгцю, так і нейкай куртатай рэформай ня можна загаіць балючыя сацыяльныя і нацыянальныя раны беларускіх працоўных мас. Памыляюцца паны сельсаюзнікі, калі яны лічаць, што ўзнаўшы матуры беларускіх гімназіяў і дазволіўшы ўступ абітур'єнтам беларускіх гімназіяў у вышэйшую школу, польскі буржуазна-абшарніцкі урад гэткім чынам спыніць пераход вучачайся моладзі ў лягэр рэвалюцыі. Марная надзея паноў прыслужнікаў! Вучачаяся моладзь дужа добра разумее, што буржуазная дэмакратыя ніколі не запясьпечыць усіх іх дамаганьняў. Яна (моладзь) разумее, што толькі сацыяльная рэвалюцыя, прывёўшы да улады работнікаў і сялян, зможа цалком задавольніць іх дамаганьні і жаданьні, аб чым найяскравей сьведчыць прыклад усходніх братоў, куды так масава эмігруе вучачаяся моладзь Зах. Беларусі. Вось чаму барацьба за школу мусіць быць цесна зьвязана з агульнай барацьбой за сацыяльныя і нацыянальныя правы беларускіх працоўных мас. Моладзь гэта пачынае ўсведамляць, пачынае разумець, дзякуючы чаму становіцца на бок рэвалюцыі, на бок упартай і няўпыннай барацьбы за работніцка-сялянскую уладу. Дзеля гэтага ніякія выпрашаныя угадоўцамі ў польскіх паноў падачкі ня змогуць ніколі нат' трошкі заспакоіць шырокія беларускія працоўныя гушчы, у тым ліку і вучачуюся моладзь. І рацэпт паноў з логава беларускае угадоўшчыны застанецца толькі рацэптам, а не канкрэтным лекам для буржуазна-абшарніцкай улады ў яе перадсьмяротнай хваробе. Такі зьмест і характар насіў «пратэст» беларускіх «незалежнікаў» з соймавай трыбуны.

Але апрача пратэстаў — рацэптаў, выходзячых з соймавай трыбуны ад беларускіх угадовых паслоў, былі і запраўдныя пратэсты, пратэсты-пагрозы для буржуазіі, выйходзячыя з пад саломеных стрэх і з курных хат. Апошнія пратэсты вырываліся з вуснаў тых, хто беспасярэдна, на сваёй уласнай скуры зносіць усе салодкасьці панскае «ласкі». Пратэсты шырокіх працоўных мас былі страшныя для валадароў сучаснае Польшчы, бо ў гэтых

пратэстах, як у люстэрцы, бачыла буржуазна-абшарніцкая шэльма сваю блізкую гібель. Дзеля гэтага фашысцка-капіталістычная банда павяла крывавую расправу з абязброеннымі сялянамі, выступаўшымі бараніць сваю арганізацыю «Грамаду», зацьверджаную нават самімі брутальнымі гвалтаўнікамі. Крывавае Косава будзе доўга жыць у памяці працоўных. Кроў, пралітыя ў Косаве, будзе служыць моцнай спойкай паміж усіх эксплёатаваных; яна загартуе працоўных у іх цяжкой барацьбе проці эксплёататараў. Косаўская крывавая лазьня будзе зьяўляцца стымулам далейшай барацьбы за сваё вызваленьне беларускіх працоўных мас, аж да аканчальнай перамогі над сваім заклятым клясавым ворагам, — аж на глебе, обмытай крывёй Косаўскіх барацьбітоў, вырасьце дрэва свабоды і вызваленьня працоўных.

Які вывад з усяго вышэйсказанага? Якія пэрспэктывы на будучыну мае беларускі рух пад Польшчай? Сёньня мы бачым, што польскаму фашызму ўдалося разграміць беларускія работніцка-сялянскія арганізацыі і пасадзіць правадыроў іх за турэмныя краты, але гэта яшчэ ня значыць, што польскай буржуазна-абшарніцкай рэакцыі ўдалося ў корні зьнішчыць вызваленчы рух беларускіх працоўных мас. Арыштамі і фашысцкім фізычным нішчаньнем праціўніка можна зьліквідаваць толькі кабінэтныя арганізацыі, якія далей, як за сьцены сваіх будоў ня выходзяць, але для зьнішчаньня масавай арганізацыі, якая налічвала дзясяткі тысячаў сяброў, спаяных між сабой клясавай сьвядомасьцю, няма жаднае сілы. Як бы пілсудчына не старалася фізычнай расправай пакончыць з беларускім сацыяльна-нацыянальным вызваленчым рухам, ёй ніколі ня ўдасцца гэтага зрабіць, ня гледзячы на тое, што мае ў сваіх руках цэлыя легіёны яўнай і тайнай паліцыі, а таксама сваіх агэнтаў сярод саміх беларусаў у асобах сельсаюзьнікаў і хадэкаў. Нячуваным тэрорам і гвалтам толькі на час можна спыніць напор рэвалюцыйных мас. Разьбіўшы першую хвалю беларускага рэвалюцыйнага мора, польская рэакцыя толькі можа супакоіцца да таго часу, пакуль прыдзе новая народная хваля. Але мы добра ведаем, што каждая паўторная хваля мае ўсё большую і большую сілу, дзеля чаго з каждым сваім паўтарэньнем будзе мацней і мацней страсаць карабель фашысцка-капіталістычна-абшарніцкай польскай дзяржаўнасьці да таго часу, пакуль аканчальна яго не разаб'е ў трэскі і тым самым не паложа канец нячуванаму сацыяльнаму і нацыянальнаму уціску і гвалту працоўных. Сёньня яшчэ цешацца і трыумфуюць крывавыя каты, маючыя пакуль што на сваёй старане фізычную сілу, але гістарычнае заўтра зламае гэтую сілу і выкапае глыбокую магілу сёньняшнім трыумфатарам.

І гэтак, галоўнай характэрнай рысай сучаснага палітычнага жыцьця ў Зах. Беларосі зьяўляецца шпаркі рост актыўнасьці шырокіх працоўных мас і імкненьне гэтых мас да самаарганізацыі, ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія ставяцца польскім паліцэйскім рэжымам.

Трэба канстатаваць, што беларускі селянін і работнік пере-

стаў спадзявацца на кагосьць трэцяга, хто-б прыйшоў і вызваліў яго з буржуазна-абшарніцкага ярма. Працоўныя масы Зах. Беларусі перасталі абмяжоўвацца толькі сымпатыямі ў бок работніцка-сялянскай улады на Усходзе, а распачалі барацьбу за гэткую ўладу, узялі свой лёс у свае ўласныя рукі. Хоць шлях, на які ўступілі работнікі і сяляне Зах. Беларусі, даўгі і цярністы, але проці шматмільённага волата ня могуць устаяць і наймацнейшыя цьвярдыні буржуазна-шляхоцкай дзяржавы — у гэтым запарука перамогі працоўных.

Для паспешнае барацьбы супроць польскай рэакцыі, першачарговым заданьнем рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі зьяўляецца ўнутрашняя кансалідацыя разьбітых польскім фашызмам рэвалюцыйных сіл і арганізацыя гэтых сіл у адзіны стройны, маналітны цэлак, які-б ня толькі мог весьці барацьбу за штодзенныя пякучыя патрэбы шырокіх працоўных мас, але ў спрыяючы для рэвалюцыі мамэнт, мог бы уступіць у адкрыты гэнеральны бой з капіталістычна-абшарніцкімі паразытамі. Каб сарганізавацца ў адзіны моцны рэвалюцыйны фронт, працоўныя масы Зах. Беларусі перадусім мусяць павесьці самую бязлітасную барацьбу проці беларускіх угадовых партыяў — «Сялянскага Саюзу» і «Хрысьціянае Дэмакратыі», гэтых фактычных агэнтаў польскага фашызму ўнутры беларускага вызвольнага руху. Працоўныя масы на сваім вызвольным шляху мусяць паралізаваць нездаровы нарост угадоўшчыны на рэвалюцыйным целе беларускага руху, абмежыўшы прастор дзейнасьці сельсасьнікаў і хадэкаў на рэдакцыйныя пакоі іх газэт — «Сялянскае Нівы» і «Krynicy». Толькі вымяўшы жалезнай мятлой з сваіх шэрагаў беларускую угадоўшчыну, якая ўвесь час фліртуе з заклятым клясавым ворагам працоўных, рэвалюцыйна-вызваленчы фронт беларускіх працоўных мас пазбавіцца ворагаў у сваім тылу і гэткім чынам забясьпечыць перамогу сацыяльнай рэвалюцыі.

Дык да працы!

За цесны саюз работнікаў места і сялян вёскі!

За цеснае супрацоўніцтва рэвалюцыйных працоўных мас усіх народаў, насельваючых сучасную Польшчу!

За работніцка-сялянскую Уладу!

---

*А.*

## Аб справаздачы Ураду Савецкае Беларусі на сэсіі ЦВК. СССР.

Масква. Асяродак, мозг усясьветнае рэвалюцыі. Разам з тым сталіца першага ў сьвеце вольнага Саюзу звольніўшыхся ад вякавога ўціску народаў. У былым царскім палацы, ў агромнай Андрэяўскай салі, дзе раней маглі хадзіць толькі людзі «галубое» крыві, зараз бачым работнікаў і сялян з найдалейшых куткоў

дзяржавы працоўных — СССР, якія заступаюць мільёны такіх-жа, як і яны.

Дзень 14 лютага 1927 г. — вялікае сьвята для ўсіх працоўных Савецкае Беларусі. Сягоньня яе Урад ў асобе яго старшыні — Я. Адамовіча робіць перад прадстаўнікамі ўсяго сьвету даклад аб дасягненьнях Сав. Беларусі за час яе існаваньня.

Гладка выгаленыя эўрапейскія дыплёматы з зацікаўленасьцю слухаюць даклад Ураду новае для іх дзяржавы. Для іх не зразумела, як гэта можа народ, аб якім перад 10 гадамі яны нават ня чулі, за кароткі час пры Савецкай Уладзе дайсьці да такіх велічэзных здабыткаў.

На гэта ім адказвае даклад Адамовіча.

Толькі Кастрычнікавая Рэвалюцыя дала магчымасьць дасягнуць да сучаснага поўнага нацыянальнага міру. Кастрычнікавая Рэвалюцыя зьнішчыла прыгнетальнікаў і вызваліла прыгнечаных.

«У нас цяпер няма малых і вялікіх нацыянальнасьцяў, у нас усе нацыянальнасьці роўныя» — казаў Адамовіч. Дзякуючы правідловай палітыцы Сав. Улады, Беларусь аб'яднала зараз большасьць беларускага насельніцтва на савецкай тэрыторыі. З дзяржавы ў 1,500.000 чалавек, дзякуючы далучэньню Віцебшчыны, Гомельшчыны і часткі Смаленшчыны, Беларусь стала дзяржавай з 5 мільёнамі насельніцтва.

Самы факт нядаўнага далучэньня Гомельшчыны паказвае, што толькі Савецкая Улада бяз войнаў, антаганізму і нацыянальнай варожасьці можа правільна, на падставе жаданьняў і імкненьняў працоўных, вырашыць нацыянальнае пытаньне. Гэтая палітыка Савецкае Улады мае велічэзнае значаньне і уплыў на працоўных усяго сьвету. Якраз зараз польскі фашысцкі урад, зьнішчваючы беларускія грамадзкія, культурныя і гаспадарчыя арганізацыі, абвінавачывае іх у тым, што яны быццам зьяўляюцца агэнтамі Масквы і Менску. Але гэта проста сьмешна. Аднэй агітацыяй нічога зрабіць нельга.

За савецкі лад найбольш агітуе савецкая нацыянальная і эканамічная палітыка, якая накіравана на палепшаньне становішча работнікаў і сялян. Да рэвалюцыі на Беларусі толькі 46% зямлі належала сялянам, а 54% былі ўласнасьцю абшарнікаў, манастыроў і інш. Большая палова ўсяе зямлі належала да 3.000 буйных абшарнікаў. Такое становішча, бязумоўна, стварала рэвалюцыйныя настроі сярод сялянства. За час рэвалюцыі Савецкая Улада разьмеркавала сярод сялян каля 1.5 мільн. дзесяцін абшарніцкай зямлі. Мяжа Савецкае Беларусі з фашысцкай Польшчай цягнецца праз 700 вёрст. Беларускія сяляне Зах. Беларусі ня могуць ня ведаць аб тым, што побач з імі ў Сав. Беларусі дзеляць панскую зямлю і праз крэдыт дапамагаюць сялянам паднімаць сваю гаспадарку. Усё гэта зьяўляецца прычынай рэвалюцыйнага настрою сялян у Зах. Беларусі. Польская буржуазія і шляхта ня змогуць задушыць рэвалюцыйны рух у Зах. Беларусі да таго часу, пакуль і ў іх не пачнуць дзяліць панскую зямлю.

Савецкая беларуская дзяржава забясьпечвае поўную роўна-

праўнасьць усіх нацыянальнасьцяў і імкнецца абслужыць усе нацыянальнасьці на іх роднай мове. У галіне практычнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня пераводзіцца беларусізацыя савецкага апарату і вышэйшых навучальных устаноў. Тысячы беларускіх пачаткавых школ даюць асьвету дзецям працоўных у іх роднай мове. Арганізоўваецца і ўзмацняецца праца Інстытуту Беларускае Культуры. Калі ў 1914 г. лік дзяцей узростам ад 8 да 12 гадоў, абнятых школьнай сеткай, складаў 44%, то ў 1927 г. гэты процант дасягае ўжо 70%. Гэта ўжо вялікае культурнае дасягненьне. Да 1934 г. Савецкая улада спадзяецца ажыцьцёвіць усеагульнае навучаньне. За гады рэвалюцыі створана некалькі вышэйшых навучальных устаноў, якіх да рэвалюцыі на Беларусі ня было зусім. Зараз ёсьць Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-гаспадарчая Акадэмія, Вэтэрынарны Інстытут, Камуністычны Унівэрсытэт. У апошні час для вывучэньня і адшуканьня шляхоў аднаўленьня сельскае гаспадаркі на асновах навуковых дасягненьняў створаны Інстытут Сельскае Гаспадаркі.

У галіне выданьня кніг, газэт і інш. на беларускай мове да вайны амаль нічога ня было. Зараз ёсьць беларускія кнігі і падручнікі, на якіх навучаюцца ў тэхнікумах, вышэйшых і пачатковых школах. Зараз выдаецца ў 15 разоў больш літэратуры, чым у 1921-22 г. Дзякуючы такім здабыткам, беларуская інтэлігэнцыя шчыра перайшла да спаўпрацы з Савецкаю Уладай.

Што-ж тычыцца беларускай прамысловасьці, то трэба сказаць, што яна параўнаўча слабая. Беларусь пераважна краіна земляробчая. Мястовага насельніцтва ў ёй толькі 16%. Але месты Сав. Беларусі за апошнія гады растуць, тады як Вільня вымірае.

Зараз пачынаецца паступовая індустрыялізацыя прамысловасьці Сав. Беларусі.

Заўважваецца таксама і агульны ўзрост эканамічнага дабрабыту.

Праўда, беларускія буржуазна-нацыяналістычныя элямэнты заграніцай кажуць, што нібы-та Беларусі ня выгадна ўваходзіць у Сав. Саюз. Але нават з пункту гледжаньня буржуазнага эканаміста Беларусь зацікаўлена у СССР.

Так, яна дастае вялікую дапамогу ад Сав. Саюзу на пакрыцьцё бюджэтнага дэфіцыту, а таксама крэдытаў, выдадзеных на аднаўленьне гаспадаркі Беларусі. Толькі помач Сав. Саюзу дала магчымасьць паступова загаіць раны, нанесяныя беларускай народнай гаспадарцы капіталістычным панаваньням, войнамі і акупацыяй. Бюджэт Сав. Беларусі з году ў год усё больш і больш накіроўвае сродкі на вытворчыя патрэбы, на ахову здароўя і інш., і ўсё меньш і меньш трациць на адміністрацыйныя выдаткі.

Дзякуючы такому буйнаму нацыянальнаму, культурнаму і эканамічнаму ўзросту ня дзіва, што Сав. Беларусь стала Пьемонтам адраджэньня для ўсяго беларускага народу.

Што-ж у гэты самы час робіцца ў Зах. Беларусі, якая пакутуе пад брутальнай пятой польскага пана?

Там няма ніводнае беларускае школы. Якія і былі ў невялі-

кім ліку, і тыя польская улада пазачыняла. Усе урадовыя установы працуюць выключна на польскай мове, незразумелай для мясцовага беларускага жыхарства. Усе урадоўцы — прыезджыя з Кангрэсуўкі альбо з Галіцыі. Беларуская інтэлігэнцыя ня можа знайсьці сабе працы. Аб вышэйшых школах і беларускім тэатру ня прыйходзіцца нават і гутарыць.

Таму і ня дзіва, што самае існаваньне Сав. Беларусі зьяўляецца магутным рэвалюцыйным фактарам.

Зараз у Зах. Беларусі, стогнучай пад уладай абшарнікаў і капіталістых, здыймаецца магутная рэвалюцыйная хваля, ў якой цесна, рука ў руку, плячо ў плячо, ідуць разам на барацьбу, як работнікі і сяляне, так і працоўная інтэлігэнцыя. Гэтая хваля разам з рэвалюцыйнымі работнікамі і сялянамі ўсяе Польшчы зьмяце, ўрэшце рэшт, адвечных экспляататараў і настоліць такую самую уладу працоўных, якая зараз існуе ў СССР!

---

Л.

6д 5300

## Народная гаспадарка Б.С.С.Р.

Маем перад сабой невялікую кнігу «Контрольные цыфры народного хозяйства БССР на 1926—1927 г.», издание Госплана БССР.

Гэтая праца, па заяве старшыні Дзяржпляну Карпа, зьяўляецца «першай спробай» у справе плянаваньня народнае гаспадаркі БССР на год уперад.

Аўтары і рэдактары гэтае працы шматкроць падкрэсьліваюць цяжкасьці гэтае працы і арыентацыйны характар яе вывадаў — і тым ня меняй — ня можам ня прызнаць вялічэзнага значаньня гэтае працы для пляніроўкі гаспадаркі БССР.

Па першае, — гэтая праца мае ў сабе шэраг усебаковых дадзеных аб гаспадарцы БССР, у дынамічным іх руху, за апошнія некалькі гадоў, — дадзеных, якія даюць магчымасьць меркаваць аб тэндэнцыях разьвіцьця розных галін гаспадаркі БССР.

Па другое — як бы ня былі арыентацыйнымі вывады і пляны гаспадарчага будаўніцтва БССР на 1926—27 г. — гэтыя вывады і пляны пабудаваны на падліку тэндэнцый разьвіцьця гаспадаркі БССР, на падліку матэрыяльных магчымасьцяў рэспублікі, у сьвятле шырокага кругавіду сацыялістычнага разьвіцьця БССР агулам — даюць досыць цьвёрдую базу для рэальнай гаспадарчай палітыкі бліжэйшых днёў.

Якія-ж тэндэнцыі разьвіцьця і дасягненьні гаспадаркі БССР?

Дазволім сабе навесьці з успомненае працы толькі некаторыя найбольш істотныя ведамасьці і дадзеныя:



### *I. Сельская гаспадарка.*

I. Структура засеўнай плошчы:

| Культуры | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Зярнавыя | 82,7 | 82,2 | 79,1 | 78,3 |
| Картопля | 11,4 | 10,3 | 11,3 | 11,7 |
| Тэхнічныя культ. | 3,1 | 3,4 | 4,6 | 4,6 |
| Засеў траў | 2,8 | 4,1 | 5,0 | 5,4 |
| | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

2. Структура валавое прадукцыі паляводзтва (у %%):

| Культуры | 1923—24 г. | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г |
|---|---|---|---|---|
| Зярнавыя | 41,8 | 50,5 | 47,4 | 43,7 |
| Картопля | 25,2 | 24,2 | 24,2 | 27,0 |
| Тэхніч. культуры | 5,8 | 7,9 | 8,6 | 9,2 |
| Салома і інш. | 27,2 | 17,4 | 19,9 | 20,0 |

З наведзяных двух табліц бачым вачавіста, што як у аднашаньні засеўнае плошчы, так і ў аднашаньні валавое прадукцыі *у паляводзтве БССР пачынаецца працэс нарастаньня элямэнтаў інтэнсыўнае гаспадаркі* (зьніжэньне зернавых культур і рост тэхнічных культур), г. зн., што *паляводзтва БССР падымаецца* паступова *на больш высокі ступень.*

### *II. Жывёлагадоўля.*

Выгляд нарастаньня і гэтага інтэнсыўнага фактару сельскае гаспадаркі мы можам пабачыць з наступнае табліцы:

(у %% да папярэдняга году; 1923 г. прыймаецца за 100)

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Коні | 102,7 | 112,9 | 102,8 |
| Вялікая рогатая жывёла | 106,0 | 118,2 | 100,6 |
| Авечкі | 102,0 | 121,1 | 95,8 |
| Сьвіньні | 116,9 | 129,3 | 106,3 |
| | 106,2 | 121,1 | 100,5 |

Як бачно з гэтае табліцы мы маем у БССР сыстэматычны і непарушны рост статку з некаторай стабілізацыяй яго ў 1926 г.

Прычыны гэтае стабілізацыі хаваюцца, па пагляду Дзяржпляну БССР, з аднаго боку ў зьменьшаньні росту авечак (зьява для БССР прагрэсыўная), а з другога боку — прывядзеньнем стада БССР да суналежнасьці з другімі элямэнтамі сельскае гаспадаркі БССР.

Надзвычай важна адцеміць, што ўтвараючы аснаўныя галіны сельскае гаспадаркі БССР, *паляводзтва і жывёлагадоўля ў абсалютным выразе вартасьці растуць з году ў год*, што ізноў паказвае на адбываючыйся працэс кансалідацыі і інтэсыфікацыі сельскае гаспадаркі БССР.

*Тэмп разьвіцьця* гэтых галоўных галін сельскае гаспадаркі БССР лепш за ўсе відаць з наступнае табліцы:

(у %% да папярэдняга году; кожны папярэд. год прыймаецца за 100)

| Галіны гаспадаркі | 1924—25 | 1925—26 | 1926—27 |
|---|---|---|---|
| Паляводзтва | 134 | 151 | 99 |
| Жывёлагадоўля | 128 | 117 | 113 |

Жывёлагадоўля БССР мае вялікае значаньне: 60% таварнае часткі прадукцыі сельскае гаспадаркі робяць прадукты жывёлагадоўлі.

Гэтая акалічнасьць, зусім вачавіста, у значнай ступені адзначае і пэрспэктывы будучага разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР.

У ўмовах таварнае вытворчасьці адзначаючым мамэнтам зьяўляецца не валавая прадукцыя, а ступень таварнасьці сельскае гаспадаркі.

Дынаміка таварнае часткі прадукцыі сельскае гаспадаркі відаць з наступнае табліцы:

| Гады | У тыс. руб. | У %% да папярэд. году. |
|---|---|---|
| 1923—24 | 47.750.— | — |
| 1924—25 | 66.240.— | 142 |
| 1925—26 | 82.833.— | 125 |
| 1926—27 | 87.556.— | 106 |

З гэтае табліцы зусім вачавіста відзен працэс нясупыннага нарастаньня таварнае часткі сель. гаспадаркі — ізноў-ткі адзнакі інтэнсыфікацыі сель. гаспадаркі.

Мы ня маем ніякае мыгчымасьці навесьці яшчэ цэлы шэраг цікавых дадзеных і лічбаў, якімі Дзяржплян БССР характарызуе стан сель. гаспадаркі БССР, за недахопам мейсца.

Рэзультатныя вывады на 1926—27 г. гэткія:

1. Агульнае пашырэньне засеўнае плошчы на 3,8%,
2. Прырост засеву картоплі (7·6%), засеваў траў (30·7%) і тэхнічных расьлін (5·5%) за кошт зернавых культур.
3. Затрманы, але ідучы ўперад рост статку.
4. Рост валавое прадукцыі сель. госпадаркі і выпераджаючы рост таварнасьці яе.
5. Прагрэсуючае павялічэньне таварнасьці інтэнсыўных культур і жывёлагадоўлі пры адносным упадзе значаньня зернавых культур.

*Гэтыя вывады кажуць самі за сябе: яны кажуць ня толькі аб адбудове сель. гаспадаркі БССР, але і аб тых новых шляхох, якімі пойдзе вольная праца вольнага селяніна БССР у бліжэйшыя гады — і гэтыя шляхі — шляхі тэхнічнага поступу і культуры.*

Мы ня маем магчымасьці абрысаваць паасобна другія галіны прамысловасьці цесна спалучаныя з сель. гаспадаркаю (лясная гаспадарка, паляваньне, рыбалоўства), а абмяжоўваемся толькі паказаньнем на агульны рост валавое прадукцыі ўсяе с. гаспадаркі БССР у цэлым:

| Гады | Валавая прадукцыя (у даваенных руб.) |
|---|---|
| 1924—25 | 358·7 мільн. руб. |
| 1925—26 | 364·7 ,, ,, |
| 1926—27 | 392·0 ,, ,, |

І тут вывады ясныя. Па меры росту і інэнсыфікацыі — расьце прадукцыя сельскае гаспадаркі — а *гэта ў умовах Савецкага існаваньня — роўнацэнна росту сытасьці і дабрабыту беларускага селяніна.*

## *III. Прамысловасьць Б.С.С.Р.*

Дынаміка цэнзаве*) прамысловасьці БССР выяўляецца ў наступным выглядзе:

(у %% да 1913 г. = 100)

| Галіны прамысловасьці | 1923—24 | 1924—25 | 1925—26 | 1926—27 |
|---|---|---|---|---|
| Сілікатная | 25,7 | 37,6 | 61,4 | 76,4 |
| Металаабрабляючая | 16,5 | 42,2 | 87,9 | 120,3 |
| Тэкстыльная | 23,0 | 32,9 | 83,7 | 124,2 |
| Скураная | 228,2 | 280,4 | 465,3 | 587,8 |
| Хімічная | 7,6 | 10,6 | 17,3 | 18,6 |
| Харчавая | 49,2 | 53,4 | 88,9 | 105,3 |
| Дрэваапрацовачная | 47,7 | 58,6 | 84,3 | 100,9 |
| Папяровая | 30,0 | 57,8 | 74,3 | 103,3 |
| Паліграфічная | 213,5 | 352,0 | 648,6 | 973,0 |
| Электрычнасьць і вада | 54,2 | 81,6 | 115,3 | 181,6 |
| Разам па ўсей цэнз. прам. | 44,6 | 58,8 | 94,0 | 120,1 |

Такім чынам, апрача сілікатнай і хімічнай прамысловасьці, *усе другія галіны прамысловасьці ў 1926—27 г. дасягаюць роўня, які перавышае даваенны — у некоторых галінах у шмат разоў.*

Калі ўзяць асобна ўграмадзкаванаю дзяржаўную прамысловасьць (якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Вышэйшага Савета Народнае Гаспадаркі БССР) і цэнзавую недзяржаўную, дык суадносіны іх росту відаць з наступнае табліцы:

(у %% да папярэдняга году — па даваеным цэнам).

| Галіны прамысловасьці | 1924—1925 г. | 1925—1926 г. | 1926—1927 г. |
|---|---|---|---|
| Прамысловасьць ВСНГ | 150 | 147 | 130,5 |
| Іншая цэнз. прамысл. | 106 | 186 | 123,5 |
| Уся ценз. прамысл. | 132 | 160 | 128,0 |

З гэтых кароткіх лічбаў бачно:

1) Прамысловасьць ВСНГ у 1926—27 г. дае прырост у 30·5% — г. ё. выпераждае нават рост усесаюзнае прамысловасьці.

2) Рост цензавае недзяржаўнае прамысловасьці ў адносіньні да дзяржаўнае адзначаецца значным затрыманьнем (23·5% проці 30.5%).

Пры ацэнцы гэтых дадзеных, трэба яшчэ мець на ўвазе, што ў склад недзяржаўнае цэнзавае прамысловасьці ўвайходзяць

*) У цэнзавую прамысловасьць увайходзяць прадпрыемства, якія маюць ня меньш 19 работнікаў пры мэханічным рухачы ці 30 работ. бяз мэханічнага рухача.

ня толькі прыватныя прадпрыемства, але і значная колькасьць трудкалектываў, якія павінны быць далучаны не да прыватна-капіталістычнага, а да сацыялістычнага сэктару гаспадаркі БССР (як напр. трудкалектыўная тэкстыльная фабрыка ў Дуброўне з 600 рабочымі).

Валавы зварот усяе прамысловасьці БССР на 1926—27 г. мяркуецца ў суме 101·1 мільн. руб.

Надзвычай цікава адцеміць два мамэнты прамысловага жыцьця БССР — гэта пытаньне заработнае платы і прадуктыўнасьці — як яны намячаюцца Дзяржплянам.

На 1926—27 г. назначана агульнае павышэньне зарплаты ў прамысловасьці ВСНГБ на 9%, якое мусіць пашарыцца, галоўным чынам, на галіны з адсталым роўнем зарплаты.

Прадуктыўнасьць-жа працы на гэты-ж 1926—27 г. назначана з павялічэньням на 18%.

Гэта, вядома, ні ў якай ступені не азначае разрыў паміж зарплатай і *інтэнсыўнасьцью працы*, таму што павышэньне *прадуктыўнасьці* працы мусіць быць рэзультатам, галоўным чынам, капітальных укладаў папрэдніх гадоў, рацыяналізацыі вытворчасьці, кваліфікацыі рабочае сілы і г. д.

*Рост прадуктыўнасьці працы далей ня спыніць росту працуючых у прамысловасьці работнікаў:* на 1926—27 г. прырост работнікаў у дзяржаўнай прамысловасьці мяркуецца ў 12%.

Капітальныя выдаткі прамысловасьці БССР на 1926—27 г. вызначаны ў разьмеры каля 8 мільн. руб. (проці 4.3 мільн. у 1925—26 г.), зыск назначаны ў разьмеры 8 мільн. руб., сабевартасьць прадукцыі мусіць прыпушчальна зьменьшыцца да 3%.

Цікава яшчэ будзе паказаць тое мейсца, якое занімае ў цэнзавай прамысловасьці прыватны капітал. Гэта відаць з наступнае табліцы:

Дынаміка валавога звароту дзярж., каапэрат. і прыватнае цэнзавае прамысловасьці БССР.

(У тысяч. даваен. руб.) (у скобках паказаны %% адносіны)

| Галіны прамысловасьці | 1923—1924 г. | 1924—1925 г. | 1925—1926 г. | 1926—1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўная . . | 16.785 (88.2) | 22.871 (91.2) | 36.430 (90.8) | 46.627 (91.6) |
| Каапэратыўная | 726 (3.8) | 703 (2.8) | 1.195 (3.0) | 1.406 (2.8) |
| Прыватная . . . . | 1.527 (8.0) | 1.515 (6.0) | 2.475 (6.2) | 2.830 (5.6) |

Гэта табліцы яскрава паказвае, што роля прыватнага капіталу ў цэнзавай прамысловасьці, мізэрная сама па сабе, выяўляе паступовую тэндэнцыю да поўнага заняпаду, аддаючы сваё мейсца ўграмадзкаванай дзяржаўнай прамысловасьці.

### *III. Суадносіны сельскае гаспадаркі і прамысловасьці БССР (Індустрыялізацыя БССР).*

Працэс індустрыялізацыі СССР не пакінуў незакранутай і БССР — рэспубліку Саюза, якая мае параўнаўча мала шансаў, дзякуючы цэламу шэрагу прыродных умоў, у кароткі тэрмін ператварыцца з аграрнае ў прамысловую краіну.

Імпэрыялістычная і грамадзянская войны, пад час якіх Беларусь была арэнаю жорсткіх боек, амаль зусім зьнішчылі прамысловасьць Беларусі.

З 1923 г. пачынаецца інтэнсыўнае адбудоўваньне і рост прамысловасьці БССР, які прывёў за кароткі тэрмін, 3— гады, ня толькі да поўнага адбудаваньня яе, але і да росту паасобных галін прамысловасьці, які далёка выперадзіў нормы 1913 г., як гэта было ўжо вышэй паказана.

Працэс індустрыялізацыі БССР ідзе далей і атрымлівае свой асабліва яскравы выраз у паступовым росту удзельнае вагі прамысловасьці ў агульным бюджэту прадукцыі ўсяе гаспадаркі БССР.

Гэтае цьверджаньне дасканальна ілюструецца ніжэйшымі дадзенымі:

(у адносным %% адношаньні і ў даваен. цэнах)

| Галіны прамысловасьці | 1923—24 г. | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Сельская гаспадарка .... | 82.5 | 81.7 | 77.7 | 76.4 |
| Прамысловасьць ...... | 17.5 | 18.3 | 22.3 | 23.6 |

Удзельная вага прамысловасьці ў агульнай гападарцы БССР і далей яшчэ застаецца параўнаўча нязначнай (23·6% супроць прыблізна $^1/_3$ у СССР), але працэс індустрыялізацыі БССР ідзе няўхільна і нясупынна з года ў год і стварае новыя перадумовы і новую базу для ўмацаваньня, як гаспадаркі, так і Савецкае улады БССР.

### *IV. Таваразварот (гандаль) БССР.*

Раней за ўсё навядзём некалькі дадзеных, якія характарызуюць дынаміку гандлёвага звароту БССР за некалькі апошніх гадоў:

*Гандлёвы зварот БССР.*

(у тыс. руб.)

| Галіны гандлю | 1923—24 г. | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Дзярж. гандаль ........ | 28.062 | 44.887 | 67.484 | 74.233 |
| Каапэрац. спажыўч. .... | 31.012 | 70.354 | 126.129 | 147.949 |
| Каапэрацыя с. г. ...... | 5.944 | 15.487 | 16.894 | 19.901 |
| Прыватны гандаль ...... | 66.464 | 79.708 | 95.136 | 109.601 |
| Нелегальны гандаль (кантрабанда) .......... | 9.036 | 4.144 | 1.234 | 1.234 |

Гэтыя дадзеныя дазваляюць зрабіць шэраг надзвычай важных вывадаў, а ўласьне:

1) Зварот дзяржаўнага гандлю БССР за 4 гады павялічыўся амаль у тры разы, спажывецкае каапэрацыі — у пяць разоў, сель. гаспадарчае каапэрацыі больш чым у тры разы.

2) Адначасна з ростам дзяржаўнага і каапэратыўнага гандлю расьце і прыватны гандаль і за тыя-ж 4 гады пасьпеў павялічыць свой зварот амаль у два разы.

3) Рост нелегальнага гандлю (кантрабанды) — гэтага, у некаторым сэнсе, паразыта гандлёвага жыцьця БССР — усё паменьшваецца, скараціўшыся за чатары гады ў 8 разоў.

4) Калі параўняць звароты дзяржаўнага і каапэратыўнага гандлю у 1923—24 г. у суме 65 мільн. руб. з прыватным і кантрабандным гандлям у тым-жа годзе, у суме 75 мільн руб., дык *у 1923—24 г. дзяржаўны і каапэратыўны гандаль рабіў толькі 40% усяго таваразвароту БССР*. Калі-ж узяць тыя-ж лічбы *за 1926—27 г.*, *дык дзяржаўны і каапэратыўны гандаль павінны абхапіць ужо больш 68% усяго гандлёвага звароту БССР.*

Агульны вывад можа быць толькі адзін: ня гледзячы на параўнаўчае павялічэньне прыватна-гандлёвага звароту, *дзяржаўны і каапэратыўны гандаль ідзе наперад з вялікай выперадажаючай перевагай, паступова крок за крокам выпіхаючы прыватны капітал з найбольш упэўненых яго пазыцыі — з гандлю.*

## *V. Бюджэт Б.С.С.Р.*

Дынаміка даходнае часткі бюджэту БССР ілюструецца наступнаю табліцаю, якая дае матэрыял для цэлага шэрагу вывадаў: (глядзі стар. 27.)

Якія вывады можна зрабіць з наведзяных дадзеных?

Гэта вывады, вачавіста, наступныя:

1) *Даходная частка бюджэту БССР няўхільна расьце* і за чатыры гады больш чым утроілася (75 мільн. руб. у 1926—27 г., замест 24 мільн. руб. у 1923—24 г.).

2) Нясупыннае затрымліваньне тэмпа росту даходнае часткі бюджэту, што паказвае на пэўную ступень дасягнутае *стабілізацыі народнае гаспадаркі, увайход яе ў пэрыяд арганічнага разьвіцьця.*

3) Значнае аднсснае павялічэньне долі даходаў БССР супроць даходаў агульнасаюзнага характару (73.3% у 1926—27 г. супроць 42·6% у 1923 г.).

Гэта азначае рост *самастойнасьці і незалежнасьці бюджэту БССР, робіць больш акрэсьленымі і размежаванымі бюджэтныя ўзаемаадносіны паміж СССР і БССР.*

4) Рост удзельнае вагі непадаткавых даходаў над падаткавымі даходамі (42.5% у 1926—27 г., супроць 24% у 1924—25 г.).

*Агульны вывад: даходная частка бюджэту БССР набывае ўсе больш самастойнасьці, расьце з года ў год, удасканальваючыся ў сваёй структуры і ідучы нароўні з усёй гаспадаркай БССР, стабілізуецца на роўні, які адпавядае арганічнаму развіцьцю вытворчых сіл рэспублікі.*

Паглядзім цяпер, як стаіць справа *з выдаткавай часткай* бюджэту БССР?

Рэспубліканскі і мяйсцовы бюджэт (акругоў) у выдаткавай

частцы за 1926—27 г. аблічаны ў суме 66.833 тыс. руб. (35.197 т. р. па рэспубліканскаму і 31.636 т. руб. па мяйсцоваму бюджэту).

Агульны даход па рэспубліканскаму і мяйсцоваму бюджэтам, калі выключыць даходы на карысьць Саюза г. ё. па агульным і аб'еднаным камісарыятам, раўняецца 55.315 т. руб.

Гэткім чынам БССР мае бюджэт у 1926—27 г. з дэфіцытам больш чым у 11 мільн. руб.

Гэты дэфіцыт мяркуецца пакрыць суцэльна за кошт СССР, а ўласьне некаторымі адлічэньнямі на карысьць БССР ад агульных гэрбавых збораў (больш 5 мільн. руб.), узьмяшчэньнем выдаткаў па вайсковаму ведамству (каля 800.000 руб.) і нарэшце простай датацыяй Саюза ў суме больш 5½ мільн. руб.

Агульна — выдаткі па рэспубліканскаму і мяйсцоваму бюджэтам БССР, параўнаўча з 1925—26 г., у 1926—27 г. павялічваюцца на 23·7%.

Калі ўзяць пад увагу, што даходы па гэтым-жа рэспубліканскаму і мяйсцоваму бюджэтам у 1926—27 г. павялічваюцца на 30%, дык ясна будзе, *што БССР усё больш і больш асвабаджаецца ад дэфіцытнага свайго бюджэту і ў галіне бюджэту таксама становіцца на пэўную базу здаровага арганічнага росту.*

Ня меньшае значаньне, вядома, мае *структура* выдаткавае часткі бюджэту, г. ё. самыя разьдзелы выдаткаў і іх адноснае значаньне ў бюджэту.

Па мяйсцоваму бюджэту мы маем на 1926—27 г. наступныя дадзеныя:

*Мяйсцовы бюджэт Б.С.С.Р. у тыс. руб.*

| Прадмет выдаткаў | 1923—24 | 1924—25 | 1925—26 | 1926—27 |
|---|---|---|---|---|
| Грамадз. адмн. установы | 1.517.9 | 1.666.8 | 3.663.9 | 3.664.0 |
| Ахова грам. парадку | 922.9 | 1053.5 | 1.420.1 | 1.334.0 |
| Юстыцыя | 225.7 | 290.3 | 454.6 | 454.0 |
| Ваенвед | 147.3 | 701.4 | 906.0 | 1.000.0 |
| Народная асьвета | 3.243.0 | 5.551.1 | 9.220.7 | 10.880.0 |
| Народ. аховы здароў'я | 1.472.2 | 2.013.0 | 3.370.6 | 4.280.0 |
| Сац. забясьпячэньня | 240.1 | 484.6 | 735.9 | 809.0 |
| Сельск. гаспадарка | 115.8 | 565.8 | 1.057.3 | 1.636.3 |
| Камуналь. гаспадарка | 1.213.4 | 1.361.1 | 1.850.6 | 2.322.0 |
| Шляховае бадаўніцтва | 157.4 | 436.5 | 1.112.6 | 1.600.0 |
| Адлікі у спэц. сродкі | — | — | 61.3 | 460.0 |
| Выдаткі не належ. агалош. | — | 615.4 | — | — |
| Выдат. па фінанс. прамысл. | — | 595.2 | 600.0 | 750.0 |
| Асоб. фонд Акр. Вык. Ком. | — | 357.7 | — | — |
| Пазыкі | — | — | — | 400.0 |
| Выплата бягучае задоўжан. | — | — | — | 251.0 |
| Выдат. па беспрац. | — | — | — | 400.0 |
| Сельск. гаспадар. крэдыт | — | — | 1.475.0 | 200.0 |
| Паі камун. банкаў | — | — | — | 300.0 |
| Іншыя | 1.223.5 | 1.365.2 | — | — |
| Рэзэрва на утачненьне бюдж. | — | — | — | 846.0 |
| | 10.479.2 | 17.377.6 | 25.928.6 | 31.646.3 |

У гэтым выдаткавым каштарысе мяйсцовага бюджэту зьвяртае на сябе увагу шэраг акалічнасьцяў.

| ДАХОДЫ | 1923—24 год | | | | 1924—25 год | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Дзяржбюд. СССР | Дзяржбюд. БССР | Мяйсц. Бюдж. | Усяго | Дзяржбюд. СССР | Дзяржбюд. БССР | Мяйсцовы Бюдж. | Усяго |
| Падаткавыя ........ | 11.775.7 | 109.6 | 5.408.0 | 17.293.3 | 15.433.5 | 6.035.0 | 8.664.5 | 30.133.0 |
| у тым ліку: | | | | | | | | |
| а) простыя ........ | 6.068.0 | 6.8 | 5.408.0 | 11.482.8 | 5.531.3 | 5.786.2 | 8.664.5 | 19.982.0 |
| б) укосныя ........ | 5.707.7 | 102.8 | — | 5.810.5 | 9.902.2 | 248.8 | — | 10.151.0 |
| Непадатк. .......... | 364.8 | 1.689.6 | 3.269.1 | 5.323.5 | 68.4 | 3.788.0 | 6.479.4 | 10.335.8 |
| Надзвыч. .......... | 2.100.7 | — | — | 2.100.7 | 1.885.2 | 38.5 | 546.3 | 2.470.0 |
| Усяго .... | 14.241.2 | 1.799.2 | 8.677.1 | 24.717.1 | 17.387.1 | 9.861.5 | 15.690.2 | 42.938.8 |

| ДАХОДЫ | 1925—26 год | | | | 1926—27 год | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Падатковыя ........ | 17.219.9 | 8.384.2 | 10.547.9 | 37.142.0 | 19.210.0 | 9.337.0 | 13.577.0 | 42.124.0 |
| у тым ліку: | | | | | | | | |
| а) простыя ........ | 1.270.2 | 6.849.2 | 10.547.9 | 18.667.3 | 70.0 | 6.926.0 | 13.577.0 | 20.573.0 |
| б) укосныя ........ | 16.949.7 | 1.525.0 | — | 8.474.7 | 19.140.0 | 2.411.0 | — | 21.551.0 |
| Непадатк. .......... | 34.0 | 12.306.2 | 11.049.0 | 23.389.2 | 45.0 | 17.618.4 | 14.390.8 | 32.054.2 |
| Надзвыч. .......... | 733.0 | 10.7 | 320.0 | 1.063.0 | 750.0 | 11.5 | 381.0 | 1.132.5 |
| Усяго .... | 18.986.9 | 20.691.1 | 21.916.9 | 61.594.9 | 20.005.0 | 26.966.9 | 28.348.8 | 75.320.7 |

Па першае, варта увагі, што выдаткі па кіраўніцтву на 1926—27 г. прадбачаны з некаторым паменьшаньнем супроць 1925—26 г. (на $86\frac{1}{2}$ тыс. руб.) — гэта значыць, што *апарат кіраўніцтва робіцца танейшым, эканомнейшым.*

Па другое — зьвяертае на сябе увагу, што выдаткі на абарону па мяйсцоваму бюджэту застаюцца стабільнымі. Гэта зьяўляецца найлепшым адказам на *крыкі варожага СССР друку, быццам на заходняй граніцы СССР, г. ё. БССР адбываюцца якіясь вайсковыя прадрыхтоўваньні, амаль не мабілізацыя*, бо зразумела, каб і былі такі падрыхтоўваньні, яны-б нямінуча адбіліся на мяйсцовым бюджэту ў сэнсе павялічэньня выдаткаў на армію.

Далей, па разьдзелу сацыяльна-культурныя выдаткі, г. ё. *народнае асьветы, аховы зароў'я і сац. забясьпячэньня мы маем на 1926—27 г. павялічэньне выдаткаў больш чым на 20%*, што даволі азначае ўсю пабудову і ўсе імкненьні запраўды «культурнага бюджэту» БССР.

Мы ня можам застанаўлівацца на дэтальным разглядзе ўсіх разьдзелаў выдаткаў мяйсцовага бюджэту БССР, аднак, лічбы па фінансаваньню прамысловасьці, помачы беспрацоўным і г. д. досыць кажуць, што ня толькі БССР агулам, але і кожная частка яе, яе «мейсцы» зьвяртаюць усю увагу ў сваіх бюджэтах на інтарэсы народа — на інтарэсы работнікаў і сялян.

Аналёгічнае пабудаваньне выяўляе і агульнарэспубліканскі бюджэт БССР: і тут мы маем павялічваньне выдаткаў на сацыяльна-культурныя мэты на 30.3%, а выдаткі па фінансаваньню гаспадаркі на 47.5%. Надзвычай важна яшчэ адцеміць выдаткі бюджэту БССР на капітальныя выдаткі па гаспадарцы БССР.

На 1926—27 г. гэтыя выдаткі мяркуюцца ў размеры звыш 50 мільн. руб. па наступным галінам гаспадаркі:

| | |
|---|---|
| Сельская гаспадарка ..................... | 26.078 т. руб. |
| Прамысловасьць ......................... | 14.119 ,, ,, |
| Электрыфікацыя ......................... | 3.130 ,, ,, |
| Будаўніцтва (камуналь. і кватэрнае) ........ | 5.900 ,, ,, |
| Каап. і дзярж. гандаль ..................... | 800 ,, ,, |
| Разам ................. | 50.027 т. руб. |

У пакрыцьці гэтых капітальных выдаткаў удзельнічаюць, як бюджэт БССР і мяйсцовыя бюджэты акругоў, так і агульнасаюзныя датацыі, крэдыты і, нарэшце, сродкі самога насельніцтва.

З разьмеркаваньня капітальных выдаткаў па паасобным галінам бачно, як *гарманічна назначаецца рост розных частак гаспадаркі Б.С.С.Р., суадносна прыродным умовам Б.С.С.Р. з аднаго боку* (найбольшы ўклад у сель. гаспадарку) *і патрэбы БССР у прамысловасьці, тэхнічным прагрэсу і дабрабыту мест з другога боку* (уклады ў прамысловасьць, камунальнае і кватэрнае будаўніцтва).

## VI. *Агульныя вывады.*

Вось якія дадзеныя і плянавыя разьлічэньні дзяржаўнае плянавае камісіі БССР.

Гэтыя дадзеныя кажуць ня толькі *аб шпаркім адбудоўваньні гаспадаркі* БССР, *але і аб перарастаньні яе за даваенныя нормы і на зусім новых падвалінах — падвалінах дзяржаўнае сацыялістычнае гаспадаркі.*

І запраўды. Мы бачым, што цэнзавая, г. ё. найбольш кіруючая частка прамысловасьці на 95% знаходзіцца ў руках дзяржавы і каапэрацыі. Мы бачым з якой хуткасьцю дзяржаўны і каапэратыўны гандаль выпераджаюць прыватны, абхопліваючы ўжо цяпер амаль 70% усяго таваразвароту. Мы бачым нарэшце, як няўпынна і шпарка расьце каапэраваньне насельніцтва, як спажыўцоў, так і прадуцэнтаў: ужо больш 20% усяго насельніцтва БССР абхоплена каапэрацыяй у горадзе і вёсцы.

Сялянская гаспадарка, на базе сельскагаспадарчай і спажыўчай каапэрацыі, усё больш і больш успрыймае калектыўныя формы вытворчасьці і паволі ўцягваецца ў агульны працэс калектывізацыі ўсяе гаспадаркі БССР.

Далейшы рост і заданьні гаспадаркі БССР зусім ясны і з зусім вычэпваючай паўнатой вызначаны ў рэзалюцыі X зьезду Камун. Партыі Беларусі, дзе мы чытаем гэктія дырэктывы:

... «Умацаваньне удзельнае вагі прамысловасьці ў экономіцы БССР, далейшае пашырэньне і разьвіцьцё прамысловага будаўніцтва, у першую чаргу, на падвалінах выкарыстаньня мяйсцо вых энергітычных рэсурсаў і сырцовых запасаў*).

Разам з гэтым неабходна і далей трымаць напрамак на разьвіцьцё прамысловасьці, перарабляючай прадукты сель. гаспадаркі і вытвараючай сель. гаспадарчыя прылады, прысьпешваючы, гэтым самым, працэс інтэнсыфікацыі сель. гаспадаркі.

Разам з гэтым разьвіцьцё вытворчых сіл у сель. гаспадарцы мусіць адбывацца на каапэратыўных асновах»...

... «Зьвярнуць асаблівую увагу ўмацаваньню і рацыяналізацыі дзяржаўнае прамысловасьці, увесьці больш пляновасьці ў разгортваньні мяйсцовай прамысловасьці, паднімаючы яе тэхнічны ровень, сыстэматычна палепшаць якасьць прадукцыі і зрабіць больш танейшай яе вартасьць шляхам падняцьця прадуктыўнасьці працы, рацыяналізацыі вытворчасьці, зьмяньшэньнем накладных выдаткаў»...

... «У галіне сель. гаспадаркі і далей неабходна ўмацняць напрамак на разьвіцьцё вытворчых сілаў вёскі, што ў сваю чаргу, забясьпечыць магчымасьць хутчэйшага разьвіцьця прамысловасьці=усяе народнае гаспадаркі. Неабходна ў практычнай працы адносна сялянскае гаспадаркі весьці далей палітыку, якая сьціравана на разьвіцьцё тэхнічных культур, мэханізацыі сель. гаспадаркі, разьвіцьцё галоўных для БССР відаў сель. гаспа-

*) Маецця на увазе торп.

дарчае каапэрацыі, разьвіцьцё калхознага будаўніцтва; неабходна непаслабна весьці працу па зямляўпарадкаваньню, мэліарацыі, аказваючы і далей эканамічную помач бядноце, стаўлячы ў цэнтр гэтае працы каапэраваньне бядноты і эканамічную ўзаемапомач; умацняць лясную гаспадарку, павялічыць працу па торпадабываньню і па агнетрываламу будаўніцтву»... «Робячы далей працу па зьніжэньню цэн на прамтавары, уважна вывучаць запраўдныя рэзультаты гэтага зьніжэньня, выпіхаць прыватніка з таваразвароту, асабліва з галіны гандлю сель. гаспадарчымі прадуктамі агулам і з апэрацыі па збыту і задавальненьню сялянскае гаспадаркі і саматужнікаў»...

Пэрспэктывы і будучае разьвіцьцё БССР малюецца ў самых лепшых фрабах.

Ня можна не згадзіцца з заключным акордам аўтара кніжкі «Укрупненная Белоруссия» (Архангельский, «Укрупненная Белоруссия», издание Госплана БССР, Минск 1927.), які кажа:

... «Пачынаецца пэрыяд рэканструкцыі, пэрыяд пашырэньня і перабудоўваньня народнае гаспадаркі. Кастрычнікавая Рэвалюцыя, якая паставіла крыж над пахмурнай спадчынай былога, адчыняе перад намі новыя шырокія шляхі разьвіцьця эканамічнага і культурнага будаўніцтва БССР на падвалінах сацыялістычнае гаспадаркі.»

---

*Т. Г.*

## Зямельныя адносіны на Беларусі.

Беларусь — краіна тыпова аграрная: у ёй занімаюцца сельскай гаспадаркай каля 85% усяго насяленьня, а таму нам цікава разглянуць, як распадзялялася і распадзяляецца па ўласнасьці гэтае аснаўное жарало існаваньня сельскага насяленьня — зямля. Але перад гэтым варта сказаць дзе што і пра падзел усяе паверхні Беларусі па ўгодзьдзям, бо мы ведаем што ня ўсякая частка зямлі мае аднолькавае значаньне ў гаспадарцы, як прыкладам балота, лес ці гароды. Для скарочаньня гутаркі мы проста зьмяшчаем ніжэй дзьве дыаграмы, якія наглядна нам ілюструюць, як самы распадзел па угодзьдзям, так і зьмену іх, што зайшла за апошніх 30 гадоў, а сама з 1887—1917 г. (Глядзі ніжэй дыаграму № 1 і № 2.)

Як бачым пашырэньне сель.-гаспадарчае плошчы за рахунак лесу і балота ішло досыць шпаркім крокам. Праўда лес трошкі больш упіраецца, але затое балота скарацілася амаль на палову. Апошняе зьявішча з пункту гледжаньня народнае гаспадаркі ёсьць вельмі вітаным, бо на мейсца непраходнае дрыгвы, — царства жураўлёў ды дзікіх гусей, утворваецца найлепшы грунт, дзе бяз усялякага ўгнойваньня растуць агуркі, табака, «як лаза пшаніца» ды і усякія іншыя далікатныя расьліны.

У гэтым кірунку за апошні час вельмі шмат зроблена ў Савецкай Беларусі; у вадным толькі мінулым годзе было асушана больш як 10.000 дзесяцінаў. Там нат' распрацаваны праэкт,

**Дыаграма № 1.**




**Дыаграма № 2.**




▭ Сельска-гаспадарчае плошчы (ворная і сенажаці).
▨ Лес.
▨ Няпрыгоднай (балоты).
▭ Сады і агароды.

1. Распадзел па ўгодзьдзям у 1887 г.
2. Зайшла зьмена за апошніх 30 гадоў (з 1887—1917 г.)

**Дыаграма № 3.**




Распадзел усяго лесу на Беларусі па ўласнасьці ў %% адношаньні.

па якому ўсе балоты маюць быць асушаны за 5 гадоў. Але гэта справа будучага. Сёньня-ж яшчэ мы маем калі ня 9%, то прынамсі ня меньш 8% усяе плошчы пад балотамі, што ў дзесяцінах складае за 4 мільёны.

Цяпер-жа перайходзячы да распадзелу зямельнае плошчы па ўласнасьці, мы наўмысьля лес хочам разглянуць асобна, пасколькі апошні мае тэндэнцыю аддзяляцца ад сель. гаспадаркі ў асобную галіну народнае гаспадаркі г. зв. лясную прамысловасьць.

Для больш паўнейшае карціны зьмяшчаем табліцу, якая складзена і точна вырахаваны % згодна дадзеных А. Л. Бурбіса пададзеных у № 4 «Народное Хозяйство Белоруссии», як матэрыял для эканамічнае гэаграфіі нашага краю.

Мы ня будзем рабіць тут падробнага разбору і ўсякіх вынаўкаў з гэтае табліцы, апошняе пакідаем самому чытачу. А толькі хочам адзначыць жахлівую нераўнамернасьць што да распадзелу ўласнасьці, дзеля чаго, для большае наглядпасьці падкрэсьлянага падаецца дыяграма № 3. (глядзі стар. 31)

Ня шчасьлівейшым асталося сялянства аднесна і рэшты ў яе зямлі, што з прыведзенай ніжэй табліцы № 2 бачым.

Каб наглядней паказаць, як абшарніцтва сагнала столькі сялян на такі куток зямлі, у той час, як само раскашавалася на абшарах у 54·9% усяе плошчы Беларусі ніжэй прыводзім дыагр. № 4.

Вялікі квадрат нам паказвае лік сялян у %% адношаньні да ўсяго насельніцтва Беларусі (іх каля 80%), маленькі-ж уяўляе абшарнікаў, якія складаюць каля 4% ўсяго насельніцтва.

Супроцьлежныя квадратам сэктары азначаюць іх уласнасьць.

**Дыаграма № 4.**




Сялянства або 80% усяго насельніцтва Беларусі.
Абшарнікі або 4% усяго насельніцтва Беларусі.

Мала таго, абшарнікі шчэ' пазаймалі найлепшыя землі па іх прыроднай якасьці. Гэта добра бачно, калі прыглядзецца да 4 рубрыкі прыведзянае ніжэй табліцы. У б. Менскай губэрніі, якая вызначаецца найлепшай глебай у Беларусі, абшарніцкая ўласнасьць дасягае аж 64·9% усяе плошчы, проці 25·9% сялянскае і наадварот, у Горадзенскай, як найбольш пяшчанай, пераважае сялянская. Абшарнікі тут маюць 36·7%. (Гл. стар. 35).

Але апрача гэтага мы яшчэ добра ведаем з уласнага досьведу, што ў кожнай губэрніі паасобку і з тых лепшых ці горшых грунтоў, абшарнікі сабе пакінулі найлепшыя, сялян-жа пазаганялі на ўсякія ўзгоркі ды пяскі.

Што тычыцца царкоўна-дзяржаўнай, дык 8·9% усёй плошчы, ці іначай каля $2\frac{1}{2}$ мільёнаў дзесяцін трэба рахаваць цыфрай вельмі паважнай. Уласнасьць апошніх складае прыблізна чацьвёртую частку тэй зямлі, што мела ўсё беларускае сялянства разам (8·9% ад 36·2%%). Як бачым матэрыяльныя інтарэсы «духоўных айцоў» былі вельмі блізкімі да абшарніцкіх.

З прыведзеных табліц і дыаграм мы бачым, на якіх кавалачках зямлі жыла большасьць беларускага сялянства. Хоцькі ня хоцькі беларускі селянін, каб не памерці з голаду, мусіў ісьці да пана і браць у яго на адработак зямлю, хоць і на самых нялюдзкіх умовах. Гэткім чынам абшарнікі пачувалі сябе далёка лепш, чым калісьці ў часы адкрытае паншчыны (за «дзела»). Бо цяпер яны (абшарнікі) ня мусяць шчэ турбавацца за тое, як бы гэта раб-сіла была жывая і працаздатная, цяпер яны самі аб гэтым стараюцца і толькі прыносяць пэўны запас сваіх сіл да абшарніка, якому больш нічога і ня трэба, бо ня цікава-ж апошняму слухаць лемант і нэндзу іх сем'яў, дык хай сабе пехцяцца на сваіх загонах.

Знаходзячыся ў такіх цяжкіх эканамічных умовах, беларускае сялянства не магло ў сваёй падаўляючай большасьці не адчуць на сваёй уласнай скуры гэтых крычачых, гіпэрбаліцка-нераўнамерных сацыяльных адносін. Апошнім, а нічым іншым, тлумачыцца захоўваньне беларускага сялянства пад час рэвалюцыі 1917 г., калі сялянства Беларусі, выставіўшы ў першы чарод сацыяльныя вымогі, пайшло разам з Кастрычнікавай рэвалюцыяй, паралізуючы на сваім шляху ў самым зародку усе контр-рэвалюцыйныя наросты на сацыяльна-нацыянальным вызваленчым руху. Але, на вялікі жаль, Вялікі Кастрычнік упэўніўся не на цэльных абшарах Беларусі, дзякуючы чаму і становішча беларускіх сялян ня ўсюды аднолькава. Там (у БССР), дзе работнікі і сяляне ўтрымалі ўладу ў сваіх руках і гэткім чынам замацавалі здабыткі Кастрычнікавае рэвалюцыі, палажэньне сялян рэзка зьмянілася на карысьць апошніх. У другой-жа часцы Беларусі (пад Польшчай), дзе белы арол запусьціў свае кіпці ў жывое цела працоўных, становішча сялян ня толькі ня зьлепшылася, а наадварот, згоршылася па параўнаньню з перадрэвалюцыйнымі часамі.

Ніжэй наведзяныя дыаграмы № 5 і № 6 нам паказваюць, што сталася з абшарніцкай зямлёй у Савецкай Беларусі (бач. д. № 5).

На Сав. Беларусі мы тут ня будзем стрымліваццa па сколькі ёй у гэтым журналу прысьвячаецца асобны артыкул, а спынімся трошкі больш на Заходняй Беларусі.

Вось-жа, на першы пагляд здаецца, што і тут (у Зах. Беларусі) сялянам мусіла параскашнець, бо %% абшарніцкае ўласнасьці ўсёткі скараціўся, але гэта скарачэньне пайшло якраз не на карысьць нашых сялян, а абшарніцкім наймітам-асаднікам, якіх яны (абшарнікі) сабе прыцягнулі з Польшчы, як базу польскасьці на крэсах, як верную абарону «панствовых» інтарэсаў ад магчымае небясьпекі, што пагражае з боку беларускіх работнікаў і

**Дыяграма № 5.**






У Зах. Беларусі:
I. Сялянская зямля. (57·4%)
II. Абшарніцкая. (42·6%)

**Дыяграма № 6.**




У Савецкай Беларусі:
I. Сялянская зямля. (97%)
II. Дзяржаўныя гаспадаркі (3%).

сялян, якія нарэшце могуць пачаць расправуляцца з абшарнікамі па прыкладу сваіх усходніх братоў.

Толькі ў адным 1923 г. было разселена па Зах. Беларусі 8.700 вайсковых асаднікаў, а затым яшчэ 9.000 сем'яў не вайсковых, ды і да апошняга часу надзяляць нас такім «дабром» Польшча ня спынілася.

Зах. Беларусь, стаўшы калёніяй Польшчы, ня гледзячы на зямельны голад, мусіць задавальняць зямлёй тысячы панскіх наймітаў, тады, як беларускі селянін гібее на сваім вузкім загоне.

Пры гэтым мусім адзначыць, што зямельны голад больш адчуваецца ў Зах. Беларусі, чым у цэнтральнай Польшчы, што відаць з дыяграмы № 7 і № 8. (Гл. стар. 36).

З гэтых дыяграм бачым поўную аналёгію, што да распадзелу па колькасьці зямлі. Праўда, у «Конгрэсуўцы» сялян, што маюць да 2 гэктараў на 4·3% больш, таксама на 0,3% ад 2—5 гэкт., але

Табліца № 1 — Было лесу на 1 сьнежня 1915 г. пад даглядам лесаахароннае управы

| Губерніі | Дзяржаўнага | | Абшарніцкаго (двор-(дворнага) | | Сялянскага | | Царкоўн.-гарадзкога і інш. | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. дзес. | %% да ўсяе плошчы | Кольк. дзес. | %% да усяе плошчы | Кольк. дзес. | %% да усяе плошчы | Кольк. дзес. | %% да усяе плошчы | |
| Віленская | 261.554 | 28,8 | 618.163 | 68,1 | 18.252 | 2,0 | 910 | 0,1 | 908.779 |
| Віцебская | 175.326 | 17,6 | 818.920 | 82,1 | — | — | 3.120 | 0,3 | 997.366 |
| Горадзенская | 395.595 | 54,1 | 312.903 | 43,5 | — | — | 110.080 | 1,4 | 733.691 |
| Менская | 479.879 | 16,2 | 2.443.819 | 82,6 | 32.327 | 1,1 | 5.000 | 0,1 | 2.961.100 |
| Магілеўская | 108.973 | 11,2 | 656.436 | 66,9 | — | — | 203.632 | 20,9 | 982.981 |
| Смаленская | 82.528 | 7,9 | 819.936 | 78,8 | 119.025 | 11,5 | 18.544 | 1,7 | 1.041.531 |
| Чарнігаўская (4 паветы) | 17.159 | 5,6 | 270.304 | 86,6 | 16.568 | 5,3 | 7 946 | 2,5 | 311.977 |
| Па ўсей Беларусі | 1.521.014 | 19,4 | 5.940.481 | 74,0 | 186.217 | 2,6 | 250.232 | 3,2 | 7.937.425 |

Табліца № 2.

| Губерніі | Колькасьць усей зямлі | Абшарніцкай | | | Сялянскай | | | Царкоўна-дзярж | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Колькасьць зямлі | Лік уласьні-каў | %% да усяе плошчы | Колькасьць зямлі | Лікі гаспа-дарак | %% да усяе плошчы | Колькасьць зямлі | %% да усяе плошчы |
| Віленская | 3.177.762 | 1.532.794 | 10.796 | 48.2 | 1.278.677 | 94.420 | 40,3 | 366.291 | 11,5 |
| Віцебская | 4.054.223 | 2.134.517 | 12.366 | 56,6 | 1.593.147 | 138.566 | 39,3 | 326.559 | 8,1 |
| Горадзенская | 3.278.418 | 1.203.444 | 24.911 | 36,7 | 1.517.164 | 91.692 | 46,3 | 557.810 | 17,0 |
| Менская | 8.013.453 | 5.256.977 | 18.093 | 64,9 | 1.945.998 | 213.924 | 25,9 | 810.478 | 9,2 |
| Магілеўская | 4.104.805 | 2.303.740 | 17.964 | 56,1 | 1.619.346 | 198.283 | 39,5 | 181.719 | 4,4 |
| Смаленская | 3.519.896 | 2.074.863 | 19.061 | 55,6 | 1.243.194 | 142.571 | 39,4 | 171.909 | 5,0 |
| Чарніга ская (4 паветы) | 1.593.599 | 667.577 | 16.860 | 42,1 | 847.154 | 132.497 | 52,9 | 78,868 | 5,0 |
| Па ўсей Беларусі | 27.742.156 | 15.173.912 | 120.051 | 54,9 | 9.984.680 | 1.011.953 | 36,2 | 2.493.634 | 8,9 |

Прыметка: гэта табліцы складзена па тым самым крыніцам, як і табл. № 1.

гэта ня знача, што там % вясковага поўпралетарыята большы. Бо, калі мы прыймем пад увагу высокі % няўдобіцы на Зах. Беларусі, як балоты, што дасягае на Палесьсі да 86% усяе плошчы а ворная зямля ў сярэднім па ўсей Зах. Беларусі займае толькі каля 30%, у той час, як у цэнтральнай Польшчы ворнае месца

**Дыаграма № 7.** **Дыаграма № 8.**




7. Распадзел сялянскае ўласнасьці ў Зах. Беларусі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сялянскія гаспадаркі | да | 2 гэктараў | 21·7% |
| ,, ,, | ад | 2 да 5 гэкт. | 39·7% |
| ,, ,, | ад | 5 да 10 гэкт. | 28·1% |
| ,, ,, | ад | 10 да 20 гэкт. | 8% |
| ,, ,, | ад | 20 да 50 гэкт. | 2·5% |

8. Распадзел сялян. ўласнасьці ў Польшчы (Кангрэсуўка):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сялянскія гаспадаркі | да | 2 гэктараў | 26% |
| ,, ,, | ад | 2 да 5 гэкт. | 38% |
| ,, ,, | ад | 5 да 10 гэкт. | 26·5% |
| ,, ,, | ад | 10 да 20 гэкт. | 8% |
| ,, ,, | ад | 20 да 50 гэкт. | 1·5% |

да 52%. Затым горшая якасьць беларускае глебы, адсталасьць сельска-гаспадарчае тэхнікі, нізкая ураджайнасьць (у Зах. Беларусі сярэдня маем з дзесяціны ад 40 да 50 пуд. жыта, у Польшчы-ж ад 70 да 150) дык нам ясна, што зямельны голад у Зах. Беларусі ў шмат разоў вастрэйшы, чым у самой Польшчы.

Беларускі селянін пад Польшчай ня толькі не дастаў ніякае палёгкі, але ад яго адабралі тое, што ён меў да рэвалюцыі.

Так напр. на падставе закону 7 траўня 1920 г., а потым пастановай 8 чэрвеня 1925 г. сялянства было пазбаўлена сэрвітутаў, што мела вялікае значаньне, асабліва для дробных гаспадарак, бо давала ім права карыстацца выганам, апалам, зьбіраньнем грыбоў ды ягад у абшарніцкіх лясох. Селяніну цяпер шчэ больш давялося працаваць, адрабляючы абшарніку і за сэрвітуты і на бязлікія падаткі, што вырасьлі на ўтрыманьне новых ахаронцаў абшарніцкае улады — паліцыі і шпікоў.

Бязумоўна, што такое цяжкое становішча сялян у Заходняй Беларусі зьяўляецца самым моцным фактарам іх рэвалюцыянізаваньня і гуртаваньня іх разам з работнікамі каля рэвалюцыйных партыяў у непераможны фронт барацьбы за свае правы, за работніцка-сялянскую уладу. Ніякія перашкоды, ці то з табару польскага фашызму, ці то з табару беларускай угадоўшчыны (Сялянскі Саюз, Хрышчоная Дэмакратыя) на змогуць спыніць росту і ўзмацненьню рэвалюцыйнага фронту работнікаў і сялян — гэтага волата сацыяльнай рэвалюцыі, пры помачы толькі якой працоўныя масы змогуць пазбавіцца ад вызыску і уціску буржуазна-абшарніцкай зграі.

---

*К.*

## Сучасны стан Польшчы.

Сучасная буржуазна-шляхоцкая Польшча, якую стварыў штаб міжнароднае буржуазіі „Ліга Нацый“ і далучыў да яе 42% нацыянальных меньшасьцяў (беларусаў, украінцаў, літвіноў, немцаў) вось ужо восім гадоў намагаецца над тым, каб скансалідаваць сябе ў моцную, маналітную дзяржаўную адзінку. Аднак гэта кансалідацыя ня толькі не дасягнута, але наадварот, выявілася немагчымасьць гэтае кансалідацыі насьледкам супярэчнасьцяў, якія разрываюць кожную капіталістычную дзяржаву, а тым самым і Польшчу, якая ўваходзіць у саюз гэтых дзяржаў. Польшча ня зьяўляецца нейкай асамочанай выспай у капіталістычным сьвеце, але яна гаспадаруе і пераводзіць тую палітыку, якую ёй дыктуе міжнародная буржуазія. Вось-жа, разьбіраючы гаспадарчае і палітычнае становішча Польшчы ня можна стаць запыніцца перад асьвятленьнем сучаснага міжнароднага становішча капіталістычных дзяржаў, бо інакш ня можна зрабіць праўдзівае ацэнкі сучаснага становішча ў Польшчы, а адсюль зрабіць правідловы вывад. Таму мы пастараемся ў сваім артыкулу спачатку высьвятліць міжнароднае становішча, а потым перайсьці да спэцыяльных умоў Польшчы.

### *I. Міжнароднае становішча.*

Пасьля вайны гаспадарчыя адносіны ў сусьветным маштабу зьлепшыліся — настала часовая стабілізацыя капіталізму. Можна сказаць, што стан сусьветнае гаспадаркі дасяг амаль што даваеннага роўню. Але калі разгледзім разьвіцьцё сусьветнае гаспадаркі за 1926 г., дык можам сказаць, што: стабілізацыя капіталізму ўтрымалася, але не зрабіла кроку наперад. Прадукцыю цяжкое індустрыі можна ілюстраваць наступнымі статыстычнымі дадзенымі:

*Прадукцыя жалеза і сталі.*

(у тысячах тон.)

| Жалеза | Анг. | Бел. | Фран. | Нямеч. | Люксен. | Амэр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Месячная прадукцыя | | | | | | |
| ,, ,, 1913 г. | 869 | 207 | 434 | 1.609 | 212 | 2.601 |
| ,, ,, 1925 г. | 528 | 212 | 706 | 848 | 195 | 3.082 |
| Ліпень 1926 г. | 18 | 307 | 792 | 768 | 211 | 3.275 |
| Жнівень .. .. .. | 14 | 318 | 814 | 850 | 210 | 3.252 |
| Верасень .. .. .. | 13 | 313 | 785 | 880 | 215 | 3.212 |
| Кастрычнік .. .. .. | 13 | 320 | 816 | 935 | 223 | 3.388 |
| Лістапад .. .. .. | 13 | 310 | 790 | 983 | 216 | 3.288 |
| Сьнежань .. .. .. | 58 | — | — | 1.065 | 232 | 3.146 |
| **Сталь** | | | | | | |
| Месячная прадукцыя | | | | | | |
| ,, ,, 1913 г. | 649 | 205 | 396 | 1.568 | 101 | 2.564 |
| ,, ,, 1925 г. | 626 | 201 | 618 | 1.016 | 174 | 3.741 |
| Ліпень 1926 г. | 33 | 311 | 718 | 1.019 | 192 | 3.710 |
| Жнівень .. .. .. | 53 | 318 | 704 | 1.143 | 184 | 4.079 |
| Верасень .. .. .. | 97 | 312 | 706 | 1.144 | 189 | 3.994 |
| Кастрычнік .. .. .. | 94 | 317 | 742 | 1.174 | 195 | 4.158 |
| Лістапад .. .. .. | 98 | 309 | 714 | 1.257 | 194 | 3.782 |
| Сьнежань .. .. .. | 319 | — | — | 1.303 | 209 | 3.392 |

Прадукцыя вугля, дзякуючы забастоўцы ангельскіх гарнякоў, значна зьменьшылася; таксама зьменьшылася прадукцыя жалеза і сталі супроць 1925 г. Сьятовая-ж прадукцыя медзі, волова і цынку ў 1926 г. аднолькавая з 1925 г.

Сельска-гаспадрчую сьвятовую прадукцыю можна ілюстраваць наступнаю табліцаю:

| | 1926 | 1925 | 1920—24 | 1909—13 |
|---|---|---|---|---|
| **Пшаніца** | | | | |
| Эўропа (23 дзяржавы) ..........<br>Амэрыка, Азія, Афрыка, Аргэнтына (разам 42 дзяржавы) .... | 909 | 890 | 842 | 809 |
| **Жыта** | | | | |
| Эўропа (23 дзяржавы) ..........<br>Амэрыка (3 дзяржавы) ........ | 215 | 252 | 205 | 257 |
| **Сьвятовае жніво ў мільён. тон (бяз СССР)** | | | | |
| Авёс .......................... | 523 | 550 | 489 | 491 |
| Ячмень ...................... | 255 | 270 | 228 | 245 |
| Кукуруза .................... | 867 | 904 | 868 | 847 |

На падставе гэтых лічбаў можна канстатаваць, што эўрапейская прадукцыя ў 1926 г., як у сельскай гаспадарцы, так і ў цяжкой індустрыі меньшая, чым у 1915 годзе.

Міжнародны гандаль, які вайною быў цалком зьнішчаны, хоць яшчэ не дасяг перадваеннага роўню, але выяўляе пэўную тэндэнцыю росту.

Вось-жа, калі пагледзім на сусьветную гаспадарку, дык агульна мусім канстатаваць палепшаньне і набліжэньне да перадваеннага часу. Але адначасна з стабілізацыяй капіталізму маем шмат доказаў, якія сьведчаць пра агульнасьвятовы крызіс капіталістычнае гаспадаркі. Па першае гэта поўная неаргані-

заванасьць і анархія прадукцыі, доказам чаго зьяўляюцца частыя зьмены кан'юнктуры і частыя крызісы ў розных галінах прадукцыі.

Трэба таксама канстатаваць зьменьшаньне дамашняга спажываньня, бо стабілізацыя і рацыяналізацыя прадукцыі робіцца за кошт работніцкае клясы (збольшаньне рабочага дню, зьменьшаньне заработнае платы). Ізде барацьба за рынкі.

Далейшым доказам сьвятовага крызісу зьяўляецца сталая армія беспрацоўных. 1926 г. паказаў нам, што беспрацоўе стала хранічным зьявішчам эўрпаейскага капіталізму. Кольсасьць беспрацоўных у Эўропе канцом 1926 г. дасягла 6 мілн., а ў Амэрыцы амаль мільёну.

*Процант беспрацоўных арганізаваных у профсаюзах.*

| 1919—100 % | Анг. | Бел. | Галян. | Дан. | Нар. | Швец. | Нямеч. | Амэр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925 лістапад | 11 | 7 | 9 | 20 | 19 | 11 | 10 | 97 |
| 1926 ліпень | 13 | 2 | 6 | 17 | 20 | 8 | 17 | 93 |
| ,, жнівень | 13 | 4 | 7 | 17 | 22 | 8 | 16 | 94 |
| ,, верасень | 13 | 3 | 7 | 16 | — | 9 | 15 | 95 |
| ,, кастрычнік | 13 | 3 | 7 | 18 | 23 | 11 | 14 | 96 |
| ,, лістапад | 13 | — | — | 22 | — | 13 | 14 | 95 |
| ,, сьнежань | 12 | — | — | 32 | — | — | 17 | — |

Найбольш характарызуе сьвятовы крызіс капіталізму наступныя зьявішча:

1. Існаваньне Саюза Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік, дзяржавы пралетарскае дыктатуры, дзе ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія робяцца з боку міжнароднае буржуазіі, будуецца сацыялізм. Савецкі Саюз з кожным годам, як гаспадарча, так і палітычна стае мацнейшым і пэўнейшым. Сельска-гаспадарчы выраб зрабіў вялікі поступ. Адначасна з ростам прадукцыі злепшваецца з кожным годам дабрабыт пралетарыяту і дробных сялян і рацыяналізацыя прадукцыі ідзе на карысьць працоўных мас, тады як у капіталістычных дзяржавах рацыяналізацыя цягне за сабою згоршаньне матэрыяльнага стану шырокіх слаёў жыхарства.

2. Кітайская рэвалюцыя зьяўляецца ранаю сусьветнаму імпэрыялізму, асабліва ангельскаму, якому ня толькі не дае магчымасьці стабілізавацца, але наадварот, спрычыніцца пачатку боя усіх каленіяльных народаў супроць ярма міжнародных імпэрыялістаў.

3. Расклад клясычнае капіталістычнае дзяржавы Англіі. Чым далей, тым яскравей праяўляецца расклад Англіі, які зьяўляецца прычынаю звостраньня клясавых супярэчнасьцяў і вялікіх гаспадарчых боек пралетарыяту, доказам чаго была апошняя забастоўка ангельскіх работнікаў.

Вось-жа бачым, што адначасна з палепшаньнем і збольшаньнем сьвятовае прадукцыі, сьвятовы крызіс капіталізму трывае далей, што сьведчыць пра вялікія супярэчнасьці капіталістычнае прадукцыі. Мірным шляхам гэты крызіс капіталісты ня могуць

зьліквідаваць і шукаюць выхаду ў вайне. Зараз ідзе найбольшая ўзбройная гарачка ў-ва ўсіх капіталістычных дзяржавах. Ім ходзіць галоўнае аб узбройным выступу супроць Саюза Савецкіх Рэспублік, першае дзяржавы працоўных, якая надта ім коле вочы. У гэтым нападзе на Савецкі Саюз першую скрыпку бязумоўна будзе граць Польшча і Румынія. Але Савецкі Саюз карыстаецца сымпатыямі пралетарыяту ўсіх капіталістычных дзяржаў, у клясавых інтарэсах якога будзе зьвярнуць зброю, якую ім дасьць буржуазія, супроць тых, хто выкліча гэтую вайну. Праўда, ўзбройным выступам супроць Савецкага Саюзу міжнародная буржуазія выхаду з крызісу ня знойдзе, а наадварот, яшчэ больш звострыць клясавыя супярэчнасьці і гэтым самым прысьпешыць сусьветную рэвалюцыю.

Вось-жа, канстатуючы стабілізацыю капіталізму, трэба адначасна з гэтым адзначыць і тое, што яна зьяўляецца няпэўнаю і вядзе да звостраньня тых шматлікіх капіталістычных супярэчнасьцяў, якія прайходзяць па клясавай, нацыянальна-каленіяльнай і міжнароднай лініі, а гэтым самым трэба канстатаваць, што аб'ектыўна для пралетарыяту ёсьць рэвалюцыйная сітуацыя. Аднак, калі мы гаворым пра гэтую няпэўнасьць стабілізацыі капіталізму, дык з другога боку мусім заўважыць, што беспасярэдняя рэвалюцыйнае сітуацыі яшчэ няма, што неабходна рахавацца з даўжэйшым або карацейшым разьвіцьцём рэвалюцыйных падзей. Усе, што тычыцца да адносін міжнароднага капіталізму трэба прыстасаваць і да польскіх адносін. У Польшчы ня зьмянілі гэтага апошнія падзеі (пераварот Пілсудзкага). Праўда, трэба канстатаваць, што Польшча зьяўляецца найслабейшым зьвяном у ланцугу капіталістычных дзяржаў і што там хутчэй дойдзе да адкрытых клясавых боек, як у якой-небудзь другой капіталістычнай дзяржаве. Пацьверджаньнем гэтага зьяўляецца тое гаспадарчае і палітычнае становішча Польшчы, да разгляду якога мы і пяройдзем.

### *2. Гаспадарчае становішча Польшчы.*

Крызіс польскае гаспадаркі, які пачаўся аднačасна з сусьветнаю вайною, трывае яшчэ і да сёньняшняга дню. Стараючыся наладзіць сваё гаспадарчае жыцьцё Польшча перажыла некалькі пэрыядаў. Трэба адцеміць тры:

1. Пэрыяд параўнаўчага росту гаспадаркі — 1921—1923 г. 2. Пэрыяд вострага прамысловага крызісу. 3. Пэрыяд часовае стабілізацыі, зьвязаны з рэарганізацыяй краіны ў аграрную калёнію эўрапейскага капіталізму (з паловы 1926 г.).

Польшча, як гаспадарчы арганізм, заўсёды была краінаю аграрна-прамысловаю і буржуазія дужа добра ведае, што яна і ў сучасны гістарычны мамэнт ня можа быць інакшаю. З паўстаньнем сучаснае Польскае дзяржавы, буйная лодзінская і сілеская прамысловасьці страцілі ўнутрашнія рынкі збыту (расейскі, нямецкі), а вонкавыя рынкі збыту ёй будзе цяжка знайсьці з

прычыны сьвятовае канкурэнцыі і адсталасьці польскае тэхнікі. Вось-жа таму Польшча прымушана шукаць іншага выхаду і ў першую чаргу ў падняцьці сельскае гаспадаркі. Гэты працэс аграрызацыі зьяўляецца самым характэрным фактарам стабілізацыі эканамічнае структуры сучаснае Польшчы, але гэты працэс стабілізацыі ў значнай меры ускладняецца, дзякуючы агульна сьвятоваму крызісу, а таксама і фінансавай залежнасьці Польшчы ад чужога капіталу. Разгледзім па чарзе фактары стабілізацыі на полі сельскае гаспадаркі, прамысловасьці і гандлю.

*Рацыяналізацыя сельскае гаспадаркі і аграрызацыя эканамічнае структуры Польшчы.*

Агульна трэба сказаць, што сельская гаспадарка выяўляе тэндэнцыю росту і што ўжо дасягла перадваеннага роўню, а ў некаторых галінах і перагнала перадваенны стан. Незасеяных грунтоў ужо зусім няма. Урода з аднаго гэктара выяўляе тэндэнцыю росту і ў некаторых культурах перагнала ўжо перадваенны стан. Гэта паказвае наступная табліца:

*Урода з 1 гектара ў цэнтэрах:*

| | 1922—23 | 1923—24 | 1924—25 | 1925—26 | да вайны |
|---|---|---|---|---|---|
| Пшаніца | 13,3 | 8,2 | 14,4 | 11,6 | 12,6 |
| Жыта | 12,8 | 8,3 | 13,3 | 10,4 | 11,2 |
| Ячмень | 13,8 | 9,9 | 13,7 | 12,6 | 10,3 |
| Авёс | 14,8 | 9,3 | 12,8 | 11,7 | 11,6 |
| Картопля | 116,0 | 115,0 | 123,0 | 105,0 | 103,0 |

Павялічваецца таксама плошча і ураджайнасьць тэхнічных культур: лён да вайны даваў 41.000 тон пражы і 44,000 тон семя. Цяпер узрос до 60.000 т. пражы і да 71.000 семя. Цукорыя узрасла да 36,800 у 1925 г. Культура найгалаўнейшае тэхнічнае расьліны — цукровага бураку таксама выяўляе тэндэнцыю росту, хоць яшчэ не дасягла даваеннага роўню. Стан жывёлагадоўлі можна ілюстраваць наступнаю табліцаю:

| | Рагатае жывёлы | Коні | Сьвіньні | Авечкі |
|---|---|---|---|---|
| 1910 г. | 8.400.000 | 3.400.000 | 5.200.000 | 4.200.000 |
| 1921 г. | 7.900.000 | 3.200.000 | 5.200.000 | 2.200.000 |
| 1924 г. | 8.800.000 | 4.000.000 | 5.500.000 | 2.500.000 |

Агульна можна сказаць, што сельскае гаспадарка дасягла даваеннага роўню. Але калі возьмем прырост насельніцтва на 3 мільёны (11%), дык пабачым, што тое, што дае сельская гаспадарка хапае толькі на тое, каб насельніцтва Польшчы не магло памерці з голаду. Жывёлагадоўля хоць і выяўляе тэндэнцыю росту, але гэты рост, раўнуючы да росту жыхарства, заслабы і ледзь задавальняе яго патрэбы.

Калі гутарым пра палепшаньне стану сельскае гаспадаркі, дык трэба прааналізаваць за чый кошт і на чыю карысьць гэта палепшаньне адбываецца. Трэба сьцьвердзіць, што агульнае па-

лепшаньне стану сельскае гаспадаркі адбываецца за кошт працоўных слаёў жыхарства і на карысьць вялікіх польскіх уласьнікаў і вось па якім прычынам.

Палепшаньне сельскае гаспадаркі робіцца за кошт зьменьшаньня прадукцыі прамысловасьці. А ў зьвязку з зьменьшаньнем прамысловасьці павялічваецца армія беспрацоўных, а тым самым стан пралетарыяту пагоршваецца. Таксама трэба мець на увазе, што аграрызацыя Польшчы ня зьвязана з перавядзеньнем аграрнае рэформы, якая хоць бы ў чым небудзь пайшла на сустрач вызысканай большасьці вёскі. Пра гэткую рэформу ня думаў ніякі польскі урад і таксама ня думае пра яе і сучасны урад Пілсудзкага, але наадварот, гэты апошні імкнецца да таго, каб не пакрыўдзіць абшарнікаў і кулакоў. Уся палітыка аграрызацыі зводзіцца да падтрымліваньня вялікіх земляўласьнікаў, якім даюцца шчодрыя крэдыты і якія не даюць збожжа на ўнутрашні рынак, чакаючы на добрую кан'юнктуру цэн на збожжа. З гэтае прычыны спэкулятыўна паднімаюцца цэны на хлеб. З аграрызацыяй Польшчы, а тык самым і з рэгрэсыяй у прадукцыі, Польшча робіцца калёніяй эўрапейскага капіталізму, Вось насьледкі крокаў стабілізацыі Польшчы на полі сельскае гаспадаркі.

*Характарыстыка стабілізацыі прамысловасьці і яе прычыны.*

Зусім інакшы выгляд маем у прамысловасьці, дзе рост ідзе паволі і далёка яшчэ не дасяг даваеннага роўню, так што можна сказаць, што яшчэ і дагэтуль польская прамысловасьць перажывае крызіс. Тэндэнцыя росту праявілася ў 1922/23 г., але пасьля перайходу на сталую валюту ў 1924 г. ізноў пачаўся крызіс. Рост зачынаецца толькі тады, калі зачаўся валютны крах (з паловы 1925 г.), але коштам зьменьшаньня заработнае платы. Гэты працэс зьменьшаньня заработнае платы можна ілюстраваць гэтымі лічбамі.

*У злотых* (у золаце).

| | 1914 | з 1. I. 1924 па 1. X. 1925 | Канец 1926 |
|---|---|---|---|
| 1. Заработная плата кваліфік. мэталіста ў Варшаве | 5 71 | 5 25—6 04 | 4 67 |
| 2. Заработ. плата ткача ў Лодзі | 5,31 | 3 60—4 40 | 3 60 |
| 3. Заработ. плата ўглякопа | 5,97 | 5,85—5,98 | 3,75 |

У зьвязку з зьніжэньнем заработнае платы і фактычным павялічэньнем рабочага дню, некаторыя галіны прамысловасьці былі рэарганізаваны да лепшага (цукровая прамысловасьць, мэталюргічныя фабрыкі, хімічная прамысловасьць), а таксама павялічылася прадуктыўнасьць працы. Вось-жа, трэба канстатаваць, што настала дзе-якое палепшаньне і змадэрнізаваньне некаторых галін прамысловасьці (звычайна коштам прыгнечаньня работніцкае клясы). Пры сучасным стане польскае статыстыкі ня можна дакладна адзначыць гэтае палепшаньне, але ўсёткі некаторыя лічбы тут нагадаем.

Сярэдняя дзенная прадукцыя работніка ў Сілезкіх капальнях у 1923 г. — 0,390 тон, у 1924 — 0,720, у 1925 — 1,023, у — 1926 — 1,278.

У стале-ліцейных заводах у Сілезіі ў 1923 — 0,570 тон, у 1925 — 0,750 (пры фактычным 10 гадз. працоўным дню 0,940).

На азотнай фабрыцы ў Хожове ў 1923 г. — 24 тоны, у 1925 — 47 тон.

У аддзеле высокіх печаў на сілезкіх заводах у 1923 — 0,330 тон, у 1924 — 0,730.

Як бачым тэндэнцыя збольшаньня прадуктыўнасьці працы ёсьць. Гэтыя ўспомненыя лічбы ня могуць характарызаваць усю прамысловасць, але ўсёткі яны кажуць пра пэўны поступ у некаторых галінах прамысловасьці. У 1926 г. агульная сітуацыя палепшылася насьледкам ангельскага штрайку, які даў магчымасьць экспартаваць польскі вугаль. Аналізуючы лічбы зьменьшаньня беспрацоўных з лютага 1926 г. (люты — 359,000, красавік — 345,000, травень — 320,000, жнівень — 288,000, верасень — 242,000, лістапад — 197,000) і дзе-якія статыстычныя дазденыя, мусім канстатаваць уплыў ангельскага штрайку на збольшаньне прадукцыі разам з другімі прычынамі пра якія мы ўжо казалі і пра якія яшчэ будзем гутарыць, як напрыклад актыўнасьць гандлёвага балянсу пачынаючы з 1925 г. — які даў ілюзію магчымасьці ліквідацыі крызісу. Запраўды ўсе гэтыя прычыны зрабілі уплыў на тое, што ў другой палове 1926 г. далейшае разьвіцьцё крызісу затрымалася. У шмат якіх галінах прамысловасьці тэндэнцыі разьвіцьця няма. Ніжэйнаведзеныя статыстычныя дадзеныя пакажуць нам наскολькі сталае гэтае часовае ажыўленьне.

*Прадукцыя* (у тысячах тон).

| | 1913 | 1921 | 1923 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вугля ........ | 40.727 | 29.818 | 34.832 | 36.225 | 32.225 | 29.076 | 35.754 |
| Нафты ...... | 1.104 | 705 | 713 | 737 | 771 | 824 | 780 |
| Горны воск .... | 1,353 | 0,260 | 0,414 | 0,710 | 0,732 | 0,744 | — |
| Жалезная руда | 464 | 303 | 405 | 405 | 292 | 210 | 290 |
| Цынкавая руда | 510 | 253 | 252 | 260 | 273 | 373 | — |
| Соль .......... | 189 | 302 | 295 | 363 | 275 | 330 | 336 |
| Поташнае солі.. | 23 | 15,5 | 46 | 61,5 | 81,4 | 178,8 | 202 |
| Сырое жалеза .. | 1.055 | 444 | 480 | 520 | 336 | 315 | 327 |
| Сталі .......... | 1.619 | 855 | 996 | 1.132 | 678 | 792 | 788 |
| Пракатных выр. | 1.224 | 597 | 753 | 778 | 478 | 482 | 570 |
| Цынку ........ | 192 | 69 | 85 | 96 | 93 | 114 | 124 |
| Сьвінцу ...... | 42 | 14 | 15 | 17 | 20 | 27,6 | 25,6 |
| Серабра........ | 7,4 | 1,7 | 3 | 4,2 | 10,6 | 15,9 | — |
| Супэрфасфату .. | 360 | 136 | 146 | 156 | — | 245 | — |
| Цукру ........ | 566 | 160 | 274 | 345 | 440 | 517 | 520 |

Што датычыцца другіх галін прадукцыі, дык няма выстарчаючых статыстычных дадзеных. Агульны выгляд тэкстыльнае прадукцыі дае наступная табліца:

*Апошнімі гадамі было ў руху:* (верхнія лічбы паказваюць колькасьць запраўды працуючых верацён, ніжэйшыя — колькасьць варацён працуючых на тры зьмены).

*I. У баваўнянай прадукцыі:* а) тонкапрадучых верацён (у тысячах):

| 1914 | 1923 | 1924 | 1925-I | 1925-XII | 1926-I | 1926-V | 1926-XI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.154 | 1 059 | 1.204 | 1 167 | 1.014 | 9.67 | 1.165 | 1.172 |
| 1.508 | 2.031 | 1.370 | 1.881 | 1.765 | 1.654 | 1.887 | 2.174 |
| | | | б) адпадкавых верацён: | | | | |
| 90 | 65 | 74 | 67 | 58 | 46 | 49 | 59 |
| 141 | 118 | 140 | 97 | 96 | 71 | 75 | 82 |
| | | | в) Станкоў: | | | | |
| 29 | 25 | 27 | 22 | 16 | 14 | 18 | 23 |
| 32 | 37 | 45 | 31 | 24 | 20 | 27 | 33 |
| | | *II. Ваўняная прадукцыя.* а) часанковых верацён: | | | | | |
| 363 | 251 | 264 | 225 | 214 | 182 | 202 | 304 |
| 593 | 349 | 334 | 358 | 267 | 213 | 245 | 489 |
| | | | б) Іншых верацён: | | | | |
| 175 | 122 | 116 | 114 | 45 | 45 | 50 | 83 |
| 221 | 143 | 130 | 116 | 48 | 60 | 60 | 104 |
| | | | в) Станкоў: | | | | |
| 10 | 3 5 | 2 | 2 | 2.1 | 2 | 2.7 | 2.1 |
| 10 | 3 5 | 3 | 3 | 2.1 | 2.1 | 2.7 | 2.1 |

Гэтыя лічбы нам кажуць, што бавaўняная прадукцыя зьніжаная амаль на 50% у 1925 г., дзякуючы выключнай кан'юнктуры 1926 г. значна ажывілася. У канцы 1926 г. бавaўняная прадукцыя працавала ў разьмеры 90%, ваўняная — 50% у параўнаньні з даваенным часам.

Пэўны выгляд ажыўленьня прадуцыі можа даць і табліца статыстыкі работнікаў, працуючых у паасобных галінах прамысловасьці.

*Колькасьць работнікаў працуючых у прадпрыемствах звыш 20 раб.* (у тысячах):

| | 1923 | 1924 | 1925 | 1926-I | 1926 (канец) |
|---|---|---|---|---|---|
| Горная прамыслов. | 254 | 180 | 150 | 134 | 155 |
| Фабрычная ,, | 76 | 45 | 45 | 43 | 50 |
| Абробліваючая мінэр. | 28 | 25.5 | 33 | 22 | 38 |
| Мэталюргічная і машынная .......... | 81 | 67 | 71 | 57 | 68 |
| Хэмічная ............ | 22 | 21 | 29 | 27 | 32 |
| Тэкстыльная і вопратачная .......... | 158 | 95 | 142 | 93 | 143 |
| Папяровая і паліграф. | 13 | 9 | 17 | 16 | 18 |
| Скурная ............ | 5 | 6 | 5 | 3 | 4 |
| Лясная ............ | 35 | 27 | 44 | 38 | 39 |
| Харчавая ............ | 50 | 33 | 41 | 46 | 71 |
| Будаўнічая ........ | 3.5 | 7 | 10 | 12 | 23 |
| Разам ...... | 757.5 | 512.5 | 497 | 490 | 641 |

Гэтыя лічбы кажуць нам пра тое, што колькасьць работнікаў, працуючых у розных галінах прамысловасьці ў працягу 1926 г. павялічваецца. Але калі возьмем статыстычныя дадзеныя за першую чвэрць 1927 г., дык ізноў пабачым тэндэнцыю павялічэньня арміі беспрацоўных, якая дасягла сёньня да 250.000.

Гэты больш меньш дэтальны аналіз польскае прамысловасьці паказвае нам: 1) што за выняткам толькі некаторых галін прамысловасьці (нафта, горны воск, штучныя гнаі, цукер), якія ў паваенныя гады выяўляюць больш-меньш стала тэндэнцыю павялічэньня, агульнае-ж разьвіцьцё прамысловасьці далёка засталося пазаду ў параўнаньні з 1923 г., а яшчэ больш з 1924 г.; 2) што ў некаторых галінах напр. нафта, ня гледзячы на агульны рост, дзе-калі праяўляецца тэнденцыя зьніжэньня ў параўнаньні з 1925 г.; 3) што агульна лепш разьвіваецца сельская гаспадарка, або вырабы зьвязаныя з ёю; 4) што адна з найбольшых галін прамысловасьці — мэталюргія не перажыла цяжкога крызісу і зараз раўняецца толькі 40% даваеннае прадукцыі; 5) што рост прадукцыі каменнага вугля, які зьяўляецца найбольшым гаспадарчым посьпехам у 1926 г., ня можа быць ацэнены, як адзнака пэўнага палажэньня ў гэтай галіне (што зараз заўважваецца).

Сучасныя аб'ектыўныя умовы ў прадукцыі кажуць за далейшае скарачэньне, як унутрашняга, так і вонкавага рынку. Рост нямецкае, чэскае, італьянскае і др. канкурэнцыяй, стабілізацыя злотага і новы рост цэн не дазваляе збыту польскіх тавараў на вонкавых рынках; рост дарагоўлі, ажабрачаньне працоўных мас — усё гэта зьмяньшае спажывецкую здатнасьць унутрашняга рынку. Мытная вайна з Нямеччынай, вайсковы стан з Літвою, пратэкцыйная мытная палітыка Румыніі, малы экспорт да Савецкіх Рэспублік — усё гэта выклікае спэцыфічныя умовы, які абмежоўваюць разьвіцьцё польскае прамысловасьці. Аднак жа самым важным фактарам нараўне з ангельскім штрайкам, рост прадукцыі ў 1926 г. тлумачыцца зьменьшаньнем заработнае платы рабочым, фактычным прадоўжаньнем працоўнага дню, ліквідацыяй работніцкіх самадапамаговых арганізацый. Усё гэта ня толькі зьменьшвае спажыўчую здатнасьць унутранняга рынку, але адначасна з гэтым звострвае клясавую барацьбу, якая падрывае асновы капіталістычнае прадукцыі.

*Вонкавы гандаль.*

Польскі імпорт і экспорт можна ілюстраваць наступнаю табліцаю:

| Год | Імпорт | | Экспорт | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць у тонах | Цана ў злот. | Кольк. у тон. | Цана ў злот. |
| 1922 ................ | 4.125.922 | 845.355 | 9.141.547 | 655.151 |
| 1923 ................ | 3.194.207 | 1.116.482 | 17.647.758 | 1.195.587 |
| 1924 ................ | 2.413.503 | 1.478.378 | 15.739.829 | 1.265.862 |
| 1925 ................ | 3.410.737 | 1.602.823 | 13.602.708 | 1.272.072 |
| 1926 ................ | 2.438.489 | 896.226 | 22.303.963 | 1.306.0 7 |

Агульна бачым, што імпорт у колькастным адношаньні выяўляе тэндэнцыю да зьніжэньня, але ў адношаньні цаны ён зболь-шваўся да 1925 г. (сакавік месяц), дзе дасягнуў рэкорднае сумы 189,9 мільн. злотых у золаце. З жніўня 1925 г., з прычыны рэглямэнтацыі імпорту і мытнай вайны з Нямеччынай, цана імпорту

зьменьшваецца і пасьля вялікіх хістаньняў у канцы 1925 г. і ў працягу першае паловы 1926 г.; стабілізуецца у працягу другое паловы 1926 г. у межах 90—110 мільн. злотых у золаце ў месяц г. ё. у межах 1923 г. Аналёгічную тэндэнцыю выяўляе экспорт: ён трохі зьменьшваецца ў колькасьці, а адначасна павялічваецца трохі ў адношаньні цаны і толькі ў другой палове 1926 г. выяўляе вялікую тэндэнцыю павялічэньня ў колькастным адношаньні, але не перавышае сярэдняга росту ў параўнаньні з папярэднімі гадамі. Сальдо гандлёвага балянсу ў розныя гады раўнялася (у тысячах злотых у золаце):

| 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 |
|---|---|---|---|---|
| —190.204 | 79.105 | —212.516 | —330.751 | 409.754 |

Агульнае развіцьцё гандлёвага балянсу Польшчы, праўда падтрыманае штучнымі мерамі (рэглямэнтацыя імпорту шляхам абкладаньня шырокіх колаў жыхарства на карысьць экспорту), паказвае ўсёткі на некаторае палепшаньне гаспадарчага палажэньня ў Польшчы. Аднак гэта палепшаньне адбілася выключна на экспорту вугля, а другіх галін прамысловасьці амаль што не закранула.

Калі мы прааналізуем галоўныя разьдзелы гандлёвага балянсу, дык згодна з накрэсьлянай намі тэндэнцыяй і ўсё большай аграрызацыяй гаспадарчае структуры Польшчы, мы пабачым пэўную залежнасьць гандлёвага балянсу ад балянсу хлебнага. У праўдзівасьці гэтага цьверджаньня нас пераконваюць гэткія факты: 1) добрая урода 1923 г. дае нам першы актыўны гандлёвы балянс, 2) неўрода 1924 г. дае нам пасыўны балянс, 3) вельмі добрая урода 1925 г. зараз-жа адбіваецца на гандлёвым балянсу, які з верасьня робіцца актыўным, 4) рэалізацыя уроды 1925 г. дае нам актыўны балянс у першай палове 1926 г. Як уплыло сальдо хлебнага балянсу на агульнае сальдо цэлага гандлёвага балянсу можна ілюстраваць наступнаю табліцаю:

| Год | Імпорт | Экспорт | Сальдо |
|---|---|---|---|
| | (верхнія лічбы — | збожжа, ніжэйшыя | — мука) |
| 1920 | 248.316<br>— | 18.600<br>— | — 229.716<br>— |
| 1921 | 496.065<br>— | 13.546<br>— | — 482.519<br>— |
| 1922 | 64.957<br>15.495 | 67.153<br>14.743 | — 2.196<br>— 752 |
| 1923 | 76.004<br>23.067 | 81.131<br>17.618 | — 5.127<br>— 5.449 |
| 1924 | 186.041<br>68.189 | 327.595<br>60.411 | — 141.554<br>— 7.738 |
| 1925 | 475.087<br>194.254 | 420.367<br>87.193 | — 54.720<br>— 107.061 |
| 1926 | 21.646<br>5.448 | 492.134<br>94.109 | — 470.486<br>— 89.661 |

Ня можна адгадаць, які будзе гандлёвы балянс 1927 г., але можна цьвердзіць, што на яго найбольш уплыве урода 1927 г.

Экспорт вугля не дасягне роўню 1926 г. (што ўжо зараз заўважваецца) і ў лепшым выпадку будзе адпавядаць 70—75% у параўнаньні з 1926 г., што ў гандлёвым балянсу адаб'ецца мінусам 70—80 мільн. злотых. Але будзе далейшае павялічэньне экспорту прадуктаў жавёлагадоўлі, лесу, цукру і некаторых прадуктаў мінэральнае і хэмічнае прамысловасьцяў. Добрае пэрспэктывы для збыту тэкстыльных тавараў няма. Агульна гандлёвы балянс у 1927 г. пэўна будзе актыўным, але з больш нізкім актыўным сальдо ў параўнаньні з 1926 г. Аднак такі высьледак можа быць дасягнены толькі шляхам сыстэматычнага звышэньня цэн на хлеб і мяса, шляхам пратэкцыйнае мытнае палітыкі і нарэшце шляхам абкладаньня шырокіх слаёў жыхарства на карысьць экспортнае прамысловасьці. Парушэньне гэтых прынцыпаў, экстэнфікуючых эканамічную структуру Польшчы, стварылі б небясьпеку краху для гандлёвага балянсу.

### 3. *Палітычная сітуацыя.*

Сучасны фашысцкі урад Пілсудзкага, за які так агітавалі польскія сац. дэмакраты і які яны цяпер падтрымліваюць, трэба ўважаць за урад гаспадарча-палітычнае, культурнае і сацыяльнае рэакцыі. Заданьнем яго зьяўляецца стабілізаваць капіталістычны рэжым за кошт шырокіх працоўных слаёў жыхарства, галоўным чынам работніцтва і сялянства. Сваю палітыку сучасная Польшча не пераводзіць самастойна — яна толькі выконвае волю міжнароднае буржазіі, якой залежыць на тым, каб Польшча была яе верным памоцнікам у яе імпэрыялістычных намерах, галоўным чынам супроць Саюзу Савецкіх Рэспублік — першае дзяржавы работнікаў і сялян, якую яна за кожну цану хоча зьнішчыць. Сучасная польская дзяржава і была створана для таго, каб быў моцны кулак супроць Савецкага Саюзу, які можна было-б, у патрэбны момант для міжнароднае буржуазіі, кінуць на яго. Спэцыяльна для гэтага г. зв. «Ліга Нацый» і далучыла да Польшчы 10 мілн. няпольскага жыхарства, каб гэты кулак быў мацнейшым (гэта ня шкодзіць гэтай самай «Лізе Нацый» казаць пра самаазначэньне народаў). Раней Польшча была пад даглядам Францыі, а цяпер увайшла пад абстрэл ангельскага імпэрыялізму. Сучасны польскі урад за часоў фашысцкае дыктатуры яскрава пацьверджвае, што ён гатовы ў адпаведны мамэнт, па загаду свайх лёнданскіх апякуноў, кінуцца на СССР. Свае «міралюбівыя» тэндэнцыі ён выявіў у нясупынным узброіваньні, павялічэньні вайсковае прамысловасьці, павялічэньні бюджэту на войска, стварэньнем вайскова-фашысцкае аргнанізацыі «Strzelec», заключэньнем вайсковых тайных дагавораў і інш. Зараз, калі 400 мільённы кітайскі народ вядзе бойку з сваімі уціскавачамі — заходнімі імпэрыялістамі, міжнародная буржуазія на чале з Англіяй хоча кінуцца з вайною супроць Савецкага Саюзу. У Пэкіну, сталіцы Кітаю, контр-рэвалюцыйны гэнерал Чан-Со-Лін, у паразуменьні з імпэрыялістымі Англіі, Францыі і Японіі, напаў

на Савецкае прадстаўніцтва і арыштаваў членаў дыплёматычнае місыі. Гэткім спосабам міжнародная буржуазія хоча справакаваць Савецкі Саюз на вайну, бо другое магчымасьці выйсьці з гаспадарча-палітычнага крызісу яна ня можа знайсьці. Найбольш імкнецца першаю кінуцца на Сав. Саюз буржуазна-капіталістычная Польшча Пілсудзкага, якому ўсё марыцца Польшча «od morza do morza». Але ўсе гэтыя захады грабежнікаў-капіталістаў зьвернуцца проці іх саміх, бо работнікі і сяляне цэлага сьвету стануць на абарону Сав. Саюзу. Найлепшая абарона Сав. Саюзу — гэта барацьба за сваё ўласнае вызваленьне, барацьба са сваімі ўласнымі абшарнікамі і капіталістамі, барацьба за работніцка-сялянскі урад у сваіх уласных краінах. Вось-жа, вонкавую палітыку сучаснае Польшчы можна характарызаваць, як палітыку імпэрыялізму, якую яна пераводзіць па загаду заходняе буржуазіі. У сваёй унутрашняй палітыцы ўсе польскія урады, а таксама і сучасны, можна характарызаваць, як урады белага тэрору супроць працуючых слаёў жыхарства, галоўным чынам, работніцтва і сялянства. За хіена-пяста (правіца) крывавыя расправы над беспрацоўнымі, з вынікам — дзясяткі забітых і раненых у Стрыю, Калішы, Варшаве і іншых мяйсцох, за ураду г. зв. «маральнае санацыі» Пілсудзкага таксама такія расправы ў Астроўцы, Гастуніне, Інаўрацлаўску, Надворні і інш. Лічба палітычных вязьняў трымаецца панад 6.000. Толькі ад чэрвеня 1925 г. да лютага 1926 г. засуджана ў Польшчы 1.379 работнікаў і сялян на 2.392 гадоў цяжкае турмы за палітычныя справы. Урад г. зв. «маральнае санацыі» вядзе далей справу сваіх папярэднікаў, ён сьвята хароніць гэтую каштоўную спадчыну, старанна павялічваючы яе сваею ўласнаю «працаю». Сучасны урад разьбіў усе работніцкія і сялянскія арганізацыі, спэцыяльным дэкрэтам ён скоўвае ўсякае рэвалюцыйнае слова. Ён ліквідуе ўсе дацяперашнія здабыткі работніцкае клясы і пхае яе ў абоймы нячуванага вызыску і нуды. У сваей палітыцы на вёсцы, апіраючыся на абшарнікаў і кулакоў, ён разьбівае усялякія ілюзіі пераведзеньня аграрнае рэформы, якая пайшла-б на сустрэч вызыскаванае большасьці сялянства. Але «маральна аздароўленая» улада Пілсудзкага апрача далейшага вядзеньня рэпрэсыі, намагаецца яшчэ баламуціць працуючыя масы пусканьнем усялякіх вестак пра амнэстыю. Але амнэстыя засталася толькі на славох, а фактычна кожны дзень прэса прыносіць усе новыя і новыя весткі пра засуджаньне ды арышты ў розных кутках польскае рэспублікі, але амнэстыі не атрымаў ніхто.

Хіба можна рахаваць за амнэстыю звольненьне Барана за некалькі месяцаў да канца кары, пакінуўшы цяпер яго на мілась і няміласьць паліцыянта. Тэрор Пілсудзкага ськіраваны супроць шырокіх працуючых мас Польшчы, доказам чаго зьяўляецца тое, што барацьба за звальненьне палітычных вязьняў стала цяпер справаю саміх працоўных мас. Выразам гэтага зьяўляецца створаны ў чэрвені 1926 г. міжпартыйны сэкратарыят барацьбы за амнэстыю для палітвязьняў у Варшаве, у склад

якога ўвайшлі: комфракцыя ў сойме, Беларуская Работніцка-Сялянская Грамада, Незалежная хлопская партыя, сацыялістычная партыя працы, Воля Народу, Украінскае сац. об'еднаньне, жыдоўская сац. дэм. партыя Поалей Сіон, лявіца ППС. Ня гледзячы на рэпрэсыі, якія скіраваны на гэты міжпартыйны камітэт, з гэтай мэтай створаны камітэты па ўсіх вялікшых работніцкіх цэнтрах Польшчы, а таксама на Зах. Беларусі і Зах. Украіне. Сярод шырокіх колаў работніцтва і сялянства лунае пратэст супроць царскіх спосабаў урадаваньня Пілсудзкага. Можна было-б прывесьці шмат фактаў, якія-б характарызавалі сучасны польскі урад, як урад крайняе фашысцкае рэакцыі, але за бракам мейсца мы гэта пакінем, а зьвернемся ізноў да гэтага ў наступным аддзеле, дзе будзем казаць пра становішча нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы.

### *4. Становішча нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы.*

Сучасную Польскую рэспубліку, як мы ўжо казалі спачатку гэтага артыкулу, стварыла г. зв. «Ліга Нацый», тая сама Ліга Нацый, якая абвесьціла самаазначэньне народаў. Гэта абвешчаньне ёй зусім не пашкодзіла далучыць да сучаснае Польшчы 10 мільн. чужога насельніцтва, напэўна для таго, каб на практыцы паказаць, як яна гэта самаазначэньне разумее. У Польшчы ёсьць 8% жыдоў, 6% немцаў, але найпаважнейшымі нацыянальнымі меньшасьцямі зьяўляюцца беларусы і украінцы. Тэрыторыя, якую яны засяляюць, як Зах. Беларусь і Зах. Украіна мае 216.602 кв. кілм. (56,67% усяе тэрыторыі сучаснае Польшчы), колькасьць беларускага і украінскага насельніцтва, што жыве пад Польшчаю стаіць звыш 8 мільн., з тага беларусаў каля 2½ мільн. і украінцаў 6 мільн. Гэтыя ўсе лічбы гавораць, што пытаньне нацыянальных меньшасьцяў для Польшчы зьяўляецца вельмі цьвярдым гарэхам, якога яна ня можа раскусіць і які не дае ей магчымасьці скансалідавацца. Калі яшчэ да гэтага дадаць, што Зах. Беларусь і Зах. Украіна мяжуюцца са сваімі братнімі Рэспублікамі БССР і УССР, дзе нацыянальнае пытаньне разьвязана на карысьць працоўных слаёў беларускага і украінскага насельніцтва і якія твораць галоўную аснову для рэвалюцыйнага руху, дык гэта ўжо зьяўляецца галоўнай небясьпекай для сучаснай Польшчы. Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што беларускае і украінскае нацыянальнае пытаньне цесна зьвязана з аграрным пытаньнем. Задавольніць беларускае і украінскае насельніцтва — гэта значыць вырашыць аграрнае пытаньне, што можа зрабіць толькі сацыялістычная рэвалюцыя ў Польшчы. Сучасная буржуазна-шляхоцкая Польшча можа ўтрымаць свае пазыцыі «на крэсах» толькі пры помачы стрэльбы і штыха. Інакш яна бязмоцная вырашыць нацыянальнае пытаньне.

На культурным і эканамічным полі пераводзіцца тая-ж самая палітыка, якая вялася і раней пры ўсіх папярэдніх урадах Польшчы — гэта палітыка цалковага нішчаньня культурных і эканамічных здабыткаў беларускага і украінскага народаў. Ні-

шчаньне школьніцтва ідзе далей. Калёнізацыя польскіх асаднікаў пераводзіцца ячшэ больш пасьлядоўна і плянова — Пілсудзкі проста насаджвае вайсковыя калёніі, якія-б сталі на выпадак патрэбы на абарону сучаснае буржуазна-шляхоцкае Польшчы. Што тычыцца палітычных свабод, дык нагадаем шэраг фактаў, якія будуць яскрава характарызаваць тое, што хоча даць Пілсудзкі беларускаму і украінскаму народу. Вось кароткі сьпіс тых свабод: 1) разгон Беларускае Сялянска — Работніцкае Грамады, арышты бел. паслоў і культурных дзеячоў, 2) зьбіцьцё бел. паслоў Мятлы і Валошына, 3) растрэл Косаўсаке дэманстрацыі, 4) суд над 63 работнікамі і сялянамі ў Горадні за пранадлежнасьць да КПЗБ, 5) у верасьні 1926 г. адбыўся суд над 50 сялянамі з Палесься, якіх абвінавачвалі з дзяржаўнае здрады за пранадлежнасьць да КПЗУ, 6) надяўна ў Тарнопалі засудзілі Белага на кару сьмерці толькі за тое, што быў членам КПЗУ, 7) у Дзьвінячы, Багародчанскага пав. штрайкуючыя работнікі агранізавалі сход, дзе дамагаліся павялічэньня платы. Прыйшла паліцыя, пачала страляць, упалі мерцвякамі тры работнікі, пяць цяжка раненых і шмат лёгка. 8) нядаўна адбыўся працэс 43 работнікаў, абвінавачаных у удзеле ў Стрыйскай дэманстрацыі беспрацоўных, у якой ляглі ад куль паліцыі 9 работнікаў, 9) нядаўна ў Уладзіміру Валынскім закончыўся працэс проці 151 работніку і селяніну, абвінавачаных за галоўную здраду праз праналежнасьць да КПЗУ, які цягнуўся два месяцы і на якім засудзілі агулам усіх да 1000 гадоў турмы. Гэты працэс зьяўляецца найбольшым масавым палітычным працэсам, якога ячшэ ня было ў белай Польшчы за ўвесь час яе незалежнага існаваньня. У зьвязку з гэтай падзеяй малое валынскае мястэчка прыведзена ў стан аблогі. На вуліцах і ў аколіцах яго было поўна паліцыі ўсякага гатунку, коннай і пешай, яўнай і тайнай. Былі прыведзены вялікія аддзелы войска. Каля дзяржаўных будынкаў паставілі кулям ты. Адным словам, пусьцілі у рух усё тое, на чым толькі трымаецца буржуазна-шляхоцкая улада на Зах. Беларускіх і Зах. Украінскіх землях. Самы акт абвінавачаньня заходня-украінскіх рэвалюцыянэраў быў пабудаваны на такім самым матэрыялу «доказаў», як і ўсе падобныя акты буржуазна-шляхоцкае юстыцыі. Тое самае тэрорызаваньне сьведкаў, пры дапамозе сярэднявяковых інквізыцыяу, той самы падбор сьведкаў з лягэру яўнае і тайнае дэфэнзывы.

Мы можам нагадаць яшчэ сотні такіх прыкладаў, але думаем, што і гэтых выстарчыць, каб сьцьвердзіць, што такіх рэпрэсый, такога тэрору, як цяпер, за фашысцкае дыктатуры Пілсудзкага, на Зах. Беларусі і Зах. Украіне ня было. І вось, калі ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне стогнуць пад фашысцкім рэжымам Пілсудзкага, работнікі, калі сяляне мруць з голаду, а на іх землях селяць вайсковых асаднікаў, калі работніцтва растрэліваецца і сотнямі засуджываецца на тысячы гадоў турмы — у гэты час беларускія і украінскія дробна-мяшчанскія партыі, як Сялянскі Саюз, Хрышчоныя дэмакраты, УНДО, узялі курс арыентацыі на

белую Варшаву — доказам чаго зьяўляецца іх кампанія ў прэсе і агулам усе іх палітычныя акцыі.

У сваім намаганьні стварыць «вялікую Польшчу», Пілсудзкі ідзе двума шляхамі — 1) шляхам падрыхтоўваньня вайсковае авантуры, зьверненае супрць Саюзу Савецкіх Рэспублік і 2) шляхам падтрымліваньня антысавецкіх напрамкаў сярод беларускага і украінскага насельніцтва. І якраз толькі гэта зьяўляецца «новым», што намагаецца ўвесьці урад фашысцкае дыктатуры ў сваю палітыку адносна беларускай і украінскай нацыянальнай меньшасьці. У працілежнасьць да эндэкаў, ён хоча стабілізаваць свае пазыцыі на «Усходніх Крэсах» не шляхам абміганьня партыі беларускага і украінскага нацыянальнага лягэру, але разам з імі, пры іхняй дапамозе. Ен стараецца перацягнуць на свой бок вярхі беларуска-украінскае дробнае буржуазіі, каб гэткім чынам стварыць базу для пасьпешнага пераводжаньня свайх фэдэрацыйна-анэксыйных плянаў. І трэба сказаць, што ён гэтага амаль што дасяг. Беларускія дробна-мяшчанскія партыі, як Сельсаюз, Хадэкі, ня ўспамінаючы ўжо аб яўных агэнтах польскае дэфэнзывы (Беларускі Дзень і інш.) — у барацьбе беларускага працоўнага народу за свае правы — становяцца на бок польскае шляхты. Украінскае УНДО ўжо адкрыта пайшло на угоду і ўсю сваю увагу на апошнім зьезду зьвярнула на барацьбу супроць СССР.

З недахопу мейсца ня можам прывесьці факты, якія сьведчаць аб угадовасьці сучаснага дробна-мяшчанскага лягэру, але радзім зьвярнуцца да іх прэсы і да іх палітычных выступаў, дзе кожны крытычна думаючы чалавек пераканаецца ў іх угодзе. Аднак было-б памылкай думаць, што угода ёсьць масавым зьявішчам. Калі польская буржуазія можа падкупіць і падкупіла вярхі беларускае і украінскае дробнае буржуазіі, дык яна ня можа схіліць на свой бок беларускія і украінскія працоўныя масы. Апошнія, пазбаўленыя зямлі, варштатаў працы, душацца ў беспрацоўʼі, нудзе і голадзе і па прыкладу сваіх братоў па той бок кардону, чым далей, тым ляпей пачынаюць разумець, што адзінай пераконываючай мовай з уладаю капіталістаў і абшарнікаў зьяўляецца супольная барацьба разам з пралетарыятам Польшчы — гэта сацыльная рэвалюцыя.

***

Разабраўшы гаспадарча-палітычную сітуацыю Польшчы можам зрабіць гэткія выснаўкі: 1) з палітычнага пункту гледжаньня сучасны фашысцкі урад Польшчы можна характарызаваць, як урад гаспадарчае, культурнае і сацыяльнае рэакцыі; 2) што сваю палітыку і гаспадарку сучасная буржуазна-шляхоцкая Польшча пераводзіць не самастойна, але па загаду і пляну міжнароднае буржуазіі; 3) што рацыяналізацыя сельскае гаспадаркі, якая адбываецца на карысьць вялікіх польскіх абшарнікаў, створыць з Польшчы аграрную калёнію для збыту прамысловых тавараў

зах. эўрапейскіх капіталістаў; 4) што рацыяналізацыя і стабілізацыя прамысловасьці і гандлю адбываецца за кошт ажабрачаньня работніцкае клясы і шляхам абкладаньня шырокіх слаёў насельніцтва на карысьць экспортнае прамысловасьці; 5) што стабілізацыя нацыянальных адносін адбываецца шляхам угоды з вяршкамі дробна-мяшчанскае буржуазіі за кошт працуючых мас нацыянальных меньшасьцяў.

Вось-жа, як бачым, палітыка сучаснае улады Польшчы ўяўляе нішто іншае, як далейшае згоршаньне становішча работніцкае клясы, далейшы зямельны голад сялян, далейшы уціск нацыянальных меньшасьцяў, усё большае закабаліваньне Польшчы ў кандалы капіталізму. Усё гэта даказвае працуючым масам, што адзіна пасьпешнаю мовaю з уладай буржуазіі і абшарнікаў можа быць толькі супольная барацьба работнікаў і сялян усяе Польшчы за стварэньне работніцка-сялянскага ураду.

---

*Галынец.*

## Белы тэрор у Польшчы.

Фашысцкая Польшча сяньня зьяўляецца краем шалёнага белага тэрору. Рацыяналізацыя польскай прамысловасьці, якая пераводзіцца на шкоду працоўных мас, выклікае рэвалюцыяна-



Абразок, які сам за сябе гаворыць. Фатаграфічны здымак зьбітага да паўсьмерці беларускага селяніна з вёскі Старая-Бяроза, у хаце якога адбываўся 10. XII. 26 г. павятовы зьезд «Грамады».

ваньне гэтых апошніх. Заработная плата ўпала насьледкам дарагоўлі на 50% і боляй, скасаваны 8-х гадзіновы рабочы дзень.

Для сялянства — скасавана фактычна нават папяровая зямельная рэформа і звышаны падаткі. Каб паставіць працоўныя масы на калені, накінуць ім пакорнасьць рабоў, фашысцкі урад Пілсудзкага карыстаецца тыповымі, якраз для фашызму, сродкамі: нябачанай дэмагогіяй і масавым белым тэрорам. Сягоньняшні пануючы ў Польшчы рэжым буржуазна-шляхоцкай дыктатуры стараецца зьнішчыць кожную апазыцыйную думку, кожны апазыцыйны рух. Галодныя дэманструючыя работнікі і сяляне, якія



Пабітыя польскай паліцыяй пaслы «Грамады» ў Польскім Сойму Мятла і Валошын, якія зараз сядзяць у Вронках каля Пазнані. У Мятлы (з левага боку) абвязена галава і абедзьве рукі. У Валошына (з правага боку) абвязана галава, а капялюш прабіты ў двох мя..сцох ад удараў у галаву.

вымагаюць працы і хлеба дастаюць у адказ сьвінцовыя кулі, дэманстрацыі безбаронных, мірных людзей затапліваюцца крывёй.

Брутальна зьнішчываюцца правы беларускіх і украінскіх нацыянальных меньшасьцяў, якіх ёсьць у Польшчы больш 8 мільёнаў чалавек.

Хопіць толькі зарэгістраваць тэрарыстычныя акты польскага ураду за апошніх некалькі месяцаў, каб кожны аб'ектыўна думаючы чалавек прыйшоў у жах ад гэткай крывавай «дэмакратыі» капіталізму XX стагодзьдзя.

Разьбіта легальная, узнаная урадам арганізацыя беларускіх работнікаў і сялян «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада»,

якая нарахоўвала ў сваіх шэрагах больш 100.000 сьвядомых работнікаў і сялян.

Арыштоўваюцца 4 паслы «Бел. Сял.-Работ. Грамады» і адзін з «Незалежнае Сялянскае Партыі» бяз папярэдняй згоды Сойму, што зьяўляецца парушэньнем афіцыяльнае Канстытуцыі і ўжо блізу поўгода гнояцця ў катаржнай турме «Вронкі» каля Пазнані бяз суду і сьледзтва. Заарыштавана некалькі сотняў беларускіх работнікаў і сялян і трымаюцца ў нялюдзкіх варунках у турмах.

Зьнішчана клясавая арганізацыя польскіх сялян — «Незалежная Сялянская Партыя».

У Дзьвінячы і Варшаве былі пазабіваны бастуючыя работнікі.

У Пінску забіты сэкратар «Грамады» Іголка, а ў Пружанскім павеце — старшыня арганізацыі «Грамады» — Скарына.

На пявятовы зьезд «Грамады» у вёсцы Старая-Бяроза ў Бельскім павеце 10.XII.1926 г. зроблены быў бандыцкі напад, прычым было цяжка ранена каля 50 сялян, у тым ліку і паслы — Мятла і Валошын, якія зараз сядзяць у Вронках. Напад быў праведзяны тайнай і уніфармаванай паліцыяй, якая прыехала ў адлеглую вёску на аўтамабілях.

У Косаве на Палесьсі 3. II. 27 г. у мірную некалькітысячную дэмонстрацыю беларускіх сялян, якія пратэставалі супроць разгону «Громады» і арышту яе паслоў, паліцыя дала некалькі залпаў і забіла 4 сялян, 3-х цяжка зраніла і лёгка — 4.

У Берасьці на 1 мая 1927 г. паліцыя страляла ў дэманстрацыю работнікаў і сялян і забіла аднаго і некалькіх цяжка зраніла.

Ва Уладзіміры-Валынскім адбыўся вялічэзны працэс з украінскімі работнікамі і сялянамі, на якім 9 чалавек было засуджана аж да сьмерці на катаргу, а іншыя атрымалі таксама вялікія кары, усяго разам на 925 гадоў турмы.

У Горадні ў гэтак званым «Працэсу 65» беларускіх работнікаў і сялян 13. IV. 27 г. былі засуджены 44 чалавекі ад шасьці да аднаго году катаржнай турмы — разам на 112½ гадоў.

У Горадні вайсковы суд прыгаварыў на 6 гадоў турмы жаўнера, які хацеў купіць легальную газэту «Грамады» ў часе яе разгрому.

У Вільні адбыўся працэс «33» беларускіх сялян з Наваградчыны, у якім было засуджана 19 чалавек ад 12 да 1½ гадоў катаржнай турмы, а разам на 109½ гадоў.

Польскія турмы перапоўнены зараз больш як 6.000 палітычных вязьняў, якіх нялюдзка катуюць. Амаль ў-ва ўсёй Польшчы адбываюцца у знак пратэсту у турмах галадоўкі палітычных вязьняў, якія трываюць па 6—10 дзён. Нячуваныя сцэны адаграюцца пры гэтым. Людзі мруць з голаду, пухнуць, а улада ўводзіць у сярэдзіну турмы войска і паліцыю, вязьняў бязьлітасна б'юць, выносяць сілай на сьнег, штучна аджыўляюць...

Усе беларускія пачаткавыя школы пазачыняны, а новых урад не дазваляе адчыняць.

Зараз намагаецца улада зьнішчыць і сярэднія школы, якія

фактычна існуюць толькі дзякуючы ахвярнасьці беларускіх працоўных і працўючага ў іх пэдагагічнага пэрсаналу. Апошні тэрорызуецца арыштамі, як напрыклад арышт вядомага беларускага




Здымак вучняў Радашкаўскае беларускае гімназіі, аднаго з якіх, Мазаля, польская паліцыя так нялюдзка скатавала.

пэдагога, дырэктара Віленскай Беларускай Гімназіі, Астроўскага, ці вучыцялём проста не даюць права публічна выкладаць у гімназіях. Вучні, амаль што дзеці, арыштоўваюцца бяз усякае віны і зьбіваюцца паліцыяй да паўсьмерці.

Яскравым прыкладам гэткага тэрору зьяўляецца арышт вучня Радашкоўскай беларускай гімназіі Мазаля 3. IV. 1927 г. Мазаля завезлі ў будынак староства ў Маладэчыне, дзе няшчаснага хлапца ў працягу амаль што 5 гадзін нялюдзка катавалі 8 паліцэйскіх. Пасьля гэтага катаваньня Мазоль быў завезяны ў Ліду, дзе сьледчы судзьдзя не знайшоў за ім жаднае віны і звольніў яго.

Б'юць зараз у Польшчы нават за тое, што людзі гавораць між сабой на беларускай мове. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца пабіцьцё студэнта Віленскага Унівэрсытэту — беларуса Тулейку, якога паліцыя ў Баранавічах 27. IV. 27 г. на «пастэрунку» «збадала» за тое, што гаварыў у вагоне па беларуску, так, што ён чуць жывы даехаў да Вільні.



Украінскія сяляне перад польскім судом у Львове. З выразу іх твараў відаць рашучасьць і нязломнасьць у барацьбе з польскім фашызмам.

Мы маглі-б яшчэ прывесьці цэлы шэраг зьдзекаў фашысцкае улады ў Польшчы над безбароннымі работнікамі і сялянамі, але нам бы не хапіла мейсца, часу і паперы. Прыведзяных намі прыкладаў аж за надта хопіць для таго, каб паказаць якімі жорсткімі і нялюдзкімі мэтадамі змагаецца польскі фашызм з рухам работнікаў і сялян і паняволеных народаў Польшчы.

Трэба пры гэтым адзначыць тую агідную, брудную ролю, якую зараз адыгравають здраднікі сацыялізму — P.P.S.. P.P.S. зараз зраслася з фашызмам, стаўшы фактычна вартавым яго псом сярод работніцкае клясы Польшчы.

Пэпээсаўскія «баёўкі» зьяўляюцца нічым іншым, як тэрорыстычнымі органамі ураду. Ад рук пэпээсаўскіх бандытаў ляглі на вуліцах Варшавы касьцямі найлепшыя сыны работніцкае клясы.

Ня лепшую ролю іграюць і беларускія здраднікі розных коля-



раў і масьцей. Гэтак званыя «беларускія эс-эры» у асобе Мамонькі супрацоўнічаюць яўна ў польскай дэфэнзыве. Сялянскі Саюз і Хрышчоная Дэмакратыя на чале з Ярэмічам, Рагуляй і кс. Станкевічам зараз адкрыта перайшлі на службу да польскага фашызму. З тону і спосабу пісаньня іх прэсы найлепш усяго можна пераканацца ў гэтым. Іх хоча Пілсудзкі выкарыстаць для стварэньня ілюзіі сярод беларускіх працоўных мас і падрыхтоўкі новай вайсковай авантуры супроць С.С.С.Р.

Наагул, сярэднявяковая інквізіцыя пануе зараз бязьмежна ў фашысцкай Польшчы.

Цераз некалькі стагодзьдзяў ажыла ізноў у «найдэмакратычнейшай» Польшчы. Але, як каталіцкая інквізыцыя нічога не зрабіла проці зьмены фэадальнага парадку ў капіталістычны, гэтак сама і дагніваючы капіталізм з яго інквізыцыйнаю дэмакратыяй не забароніць прыходу новага, лепшага парадку — сацыялізму.

---

## Гэнры Барбюс аб фашызму.

У сувязі з усё ўзрастаючым наступам фашызму і яго імпэрыялістычнай палітыкі ў Італіі, Польшчы, Румыніі, Літве і іншых странах, знаёмім чытачоў з паглядамі на фашызм вядомага францускага пісьменьніка і публіцыста Гэнры Барбюса, — з яго прамовай, сказанай на судзе ў расправе проці Клэрка і Бэрнарда, яшчэ ў мінулым годзе:

«...Сапраўды дзейнымі сіламі фашызму зьяўляюцца фінансавыя магнаты, якія прапагандыстычнай дзейнасьцю друку, які заўсёды бывае ў руках багатых, імкнуцца сьціраваць на шлях рэакцыі незадаволенасьць, цярпеньне сярэдняга і дробнага жыхарства.

Ня так даўно адна вялікая амэрыканская часопісь зьмясьціла гэты зусім правідловы артыкул.

«Кіраваў-лі капіталізм людзкімі зьявішчамі ў большай або меньшай меры, то трэба адзначыць, што гэтая моц капіталізму мае сёньня найбольшы ўчынак. А капіталізм г. зн. панаваньне фінансавага зладзейства над усім грамадзкім жыцьцём, ідзе рука аб руку з фашызмам. Ня ёсьць тайнай, што міжнародны фашызм узрос дзякуючы грашовай дапамозе буйнай буржуазіі, цяжкай індустрыі і банкаў. Фашызм узьнікаў з капіталізму. Ёсьць яго лёгічным насьледкам, арганічным плодам. Ёсьць найвысшай, наймацнейшай рэакцыяй, дасягшай найбольшай крайнасьці, рэакцыяй старага парадка проці парадка новага.»

Фашызм мае дзьве мэты. Мэту палітычную, захапленьне ўлады ў дзяржаве і мэту гаспадарчую, выкарастаньне працы. Выкарыстаньне працы зьяўляецца варункам яго існаваньня. Хоча, згодна шаблённай фразеалёгіі якую стала ужывае, дапяць таго, каб магутныя масы вырабцоў, працоўных горада і вёскі — якія зьяўляюцца ў сапраўднасьці асновай і жыцьцёвай сілай грама-

дзянства, — прывесьці да парадку. Толькі ў нашыя часы пачалі масы расчыняць вочы, пачалі задумывацца над тым нячуваным гвалтам, што тыя, якія-б мелі быць усім зьяўляюцца нічым, што маса працуе, намагаецца, ідзе на вайну, якая вядзецца ў інтарэсах меньшасьці, і якая зусім варожа тым, якія працуюць. І таму, што працоўным пачалі расчыняцца вочы, то найбліжэйшым вынікам гэтага было, што працоўныя пачалі арганізоўвацца, каб проціставіцца гвалту. У сапраўднасьці сацыяльныя адносіны выяўляюцца вось як: стагодзьдзямі існаваў эксплёатаваны і несьвядомы пралетарыят. Зараз ён робіцца ўсё больш сьвядомым, навучыўся пазнаваць і разумець. Клясавая барацьба ў сапраўднасьці існавала заўсёды, бо была вынікам прыгнечаньня большасьці прывілееванай меньшасьцю. У сапраўднасьці была работніцкая кляса аж да цяпер стараной пераможанай. Але ня гледзячы на гэта заўсёды вялося змаганьне.

Проці гэтай руйнуючай вайны ставіць арганізаваны пралетарыят парадак пабудаваны на справядлівым панаваньні працы, на пачуцьці еднасьць розных народаў. Клясавая барацьба, як казаў Ленін, мусіць павесьці да зьніштажэньня клясаў, — тым, што пралетарыят набудзе перевагі і пераможа. Павядзе да зьніштажэньня войнаў паміж паасобнымі народамі, бо гэтая перамога пралетарыяту створыць у людзей іншае, глыбейшае, праўдзівейшае і рэальнейшае падзяленьне, чым гэта могуць зрабіць гэаграфічныя граніцы, і мацнейшую еднасьць, чым гэта могуць зрабіць дыплёматычныя дагаворы.

Мэтай фашызму ёсьць заўладаньне дзяржаўным апаратам. Ідзе яму аб тое, каб стары бяспраўны парадак быў захаваны і вузка зьвязаны з нацыялізмам і імпэрыялізмам, быў яшчэ звостран. Як калісь у мінуўшчыне, хоча яшчэ і цяпер захаваць у грамадзянстве закон вайны і зьніштажэньня, прынцып найвострэйшай канкурэнцыі і барацьбу з лезунгам «Кожны для сябе», барацьбу, якая мае весьціся, як паміж паасобнымі адзінкамі так і паміж народамі.

Фашызм мае ўсюды аднолькавы характар. Кіруецца ўсюды аднолькавай мэтай прыдушыць вызвольныя імкненьні працоўнага люду. Ня гледзячы на тое, што фашысцкія ўгрупаваньні ў розных странах розьняцца паміж сабой сваімі нацыянальнымі імкненьнямі, — яны захоўваюць узаемна прыяцельскія адносіны і падтрымліваюць адзін другога сваімі аналёгічнымі заданьнямі. Надмерныя вымаганьні вэнгэрскіх фашыстаў у справе Сэдміградзьдзя, ніякім чынам не перашкодзілі румынскім фашыстам аднэй сьцяной бараніць у румынскай прэсе будапэшцкіх фальшывамanэтчыкаў. А проці Францыі сьціраваныя абражаючыя выпады Мусаліні, не перашкаджаюць францускім фашыстам хваліць Мусаліні і браць яго за прыклад.

Фашызм, гледзячы ад таго, у якой старане ён працуё, ёсьць мацнейшы або слабейшы, а ў выніку гэтага больш або меньш безаглядны. Згодна сваім сапраўдным пасьпехам карыстаецца дапамогай або ахватным папушчэньням улады. Выступае ўсюды,

прынамсі на пачатку, з аднолькавай фразай. Ня кажа: «Я фашызм». Кажа «я старана парадку» што ёсьць найвыгаднейшай ілжой, якая вядзе за нос народы.

Паўсюды, дзе замацаваўся фашызм, пануе сыстэма бандытызму, варожага работніцкай клясе, — сыстэма забойстваў і гвалтаў, трымаючая ўсіх работнікаў у паняволеньні. На ўласныя вочы бачыў гвалты, якія пераможны фашызм нарабіў у гарадох і вёсках. Перад некалькімі месяцамі я падарожыў па Эўрапейскаму Ўсходу. Блізка стыкаўся з няшчаснымі народамі Баўгарыі, Румыніі, Вэнгрыі над якімі пануе белы тэрор і забойства. Зусім немагчыма падлічыць і пераказаць аб паасобных і групавых забойствах, бязпраў'і і мардаваньні засуджаных, аб «загаворах», якія ў сапраўднасьці павыдумлены, ці знарок выкліканы тымі, якія зьяўляюцца безадказнымі панамі палажэньня. Немагчыма — бо іх занатта вялікая лічба. Усе гэтыя зладзейства сьціраваны ня толькі проці прыхільнікаў найкрайнейшай лявіцы, але проці ўсіх, якія выказваюць нават найменьшы дэмакратызм. На ўласныя вочы бачыў я гэтыя злачынства, насеньне якога мае быць пасеяна і ў нас. З балканскага пекла вынес я уражаньне ганьбы і згрызоты суменьня. І сёньня па перш пачуваю нейкае палягчэньне, што магу перад судом паказаць на страшны прыклад фашысцкага рэжыму.»

---

*Гамма.*

## Новыя саюзьнікі польскага фашызму.

Разгром польскай фашысцкай уладай масавай арганізацыі беларускіх работнікаў і сялян «Грамада» і амаль што ўсіх культурных, гаспадарчых і грамадзкіх устаноў у Зах. Беларусі, нячшчысьляныя арышты культурных і грамадзкіх дзеячоў выклікала хвалю абурэньня і пратэстаў, як у Зах. Беларусі, так і заграніцай. Увесь культурны сьвет, бяз рожніцы пераконаньяў, узьняў голас пратэсту супроць нячуванай пэрсэкуцыі беларускага сацыяльнага і нацыянальнага руху. Не гаворачы ўжо аб Савецкай Беларусі і Савецкім Саюзу, амаль у-ва ўсіх дзяржавах Зах. Эўропы гэты шалёны тэрор польскага азьвярэлага панства выклікаў цэлы шэраг пратэстаў, асабліва-ж сярод работнікаў і паступовае інтэлігэнцыі.

Як-жа захавалася да гэтага дзікага разгулу польскіх фашысцкіх гіенаў беларуская эміграцыя ў Празе? Ці яна рэагавала ў адпаведны спосаб на апошнія падзеі ў Зах. Беларусі? Мусім сьцьвердзіць факт, што не. Толькі паступовае студэнцтва, разам з паступовым украінскім студэнцтвам горача пратэставала супроць фашыцкага тэрору, кіраванага здраднікам сацыялізму — Пілсудзкім. Яно ўрачыста заявіла аб сваей нязломнай волі ўсімі спосабамі змагацца з магільшчыкамі беларускага сацыяльнага і нацыянальнага адраджэньня. Паступовае студэнцтва стараецца і будзе старацца інфармаваць увесь культурны сьвет, асабліва-ж

работнікаў і сялян Зах. Эўропы, аб зьдзеках і гвалтах белапанскіх катаў над безбаронным насяленьням Зах. Беларусі.

Але апошнія падзеі пад Польшчай, якія скалыхнулі паступовае студэнцтва, прайшлі міма беларускае эміграцыі. Яна іх пасталася наўмысьля ня заўважыць. Тут толькі выявілася запраўднае аблічча эміграцыі, яе нізкае шкурніцтва, ўся яе прадажнасьць. Іначай ня можна назваць тое ганебнае паступаваньне, якое практыкуюць розныя эмігранцкія ўгруповаваньні ў адносінах да пагрому беларускага руху ў Зах. Беларусі. Яны моўчкі згаджаюцца з гэтым. Мала таго, нават радуюцца і пасьмехаюцца ў кулак, кажучы: «Так ім і трэба!» Трэба было бачыць п. Грыба, якога аблічча расплывалася ад радасьці пры вестцы, што разьбіта «Грамада» — найзлосьнейшы вораг усякага сацыял-здрадніцтва. Дзякуючы Пілсудзкаму, справаджаны са сьвету небясьпечны канкурэнт! Акцыі невялічкай эс-эраўскай кумпаніі пойдуць у гору! Але, як відаць з часопісаў, і Пілсудзкі з цэлым сваім дэфэнзыўным апаратам не памагае. Нават прысутнасьць у Зах. Беларусі вядомага эс-эраўскага «дзеяча» — спэца па мардабойнаму дзелу — п. Мамонькі, справу нічуць не пасунула ўперад. «А воз и ныне там», як сказаў калісь нябожчык Крылоў.

Застаўся толькі адзін шлях для п.п. Грыба, Мамонькі і Ко, гэта — шлях супрацоўніцтва з польскай дэфэнзывай. І на яго яны-та зараз і ўзыйшлі. Мамонька адкрыта супрацоўнічае ў польскай дэфэнзыве і дэфэнзыўна-брукавай газэтцы «Беларускі Дзень» за Іудавы грашы. Грыб, служачы для зьвязку, стараецца абрабляць нявыробленае яшчэ беларускае студэнцтва ў Празе ў напрамку згоды з Польшчай. І трэба канстатаваць, што яму гэта да пэўнай меры ўдаецца. Зараз беларуская эміграцыя, стоячы вострa супроць Сав. Беларусі, дакацілася пасьлядоўна на сваім контр-рэвалюцыйным шляху да прымірэньня з сучаснай фашысцкай Польшчай.

У той час, калі нават самыя згодніцкія і рэакцыйныя партыі ў Зах. Беларусі, як Сялянскі Саюз і Хадэцыя, пратэставалі (ведама, для вока) супроць арыштаў, эміграцыя ані пальцам не кранула ў абарону бязьвінна арыштаваных людзей і бясправўна зачыненых арганізацыяў. На першы плян выступаюць якраз шкурніцкія інтарэсы. Паступовае студэнцтва прапануе ўсім угрупаваньням эміграцкага студэнцтва арганізаваць супольны пратэст проці дзікага разгулу польскага фашызму. Як і трэба было чакаць, эс-эры адразу катэгарычна адмаўляюцца. Адгэтуль толькі можна бачыць іх выразнае дэфэнзыўнае аблічча. Ня лепш зрабілі і іншыя ўгрупаваньні. Так, сельсаюзнікі і хадэкі нібы-та далі сваю згоду на удзел у супольным пратэсту. Але, калі прыйшло да справы, то яны чыста па езуіцкі пастараліся выкруціцца, ўмыўшы рукі, як той Пілат. Пры тым паадзінокія студэнты, асабліва-ж кіраўнікі А.Б.С.А., адмаўляліся ад удзелу ў пратэсьце, кажучы, што ім трэба варочацца ў Польшчу і што польская улада ня дасьць ім права на ўезд у Польшчу, калі яны будуць пратэставаць. Хіба-ж то ня самае нізкае шкурніцтва, ды яшчэ з боку правадыроў

А.Б.С.А., якое мае нагласьць прэтэндаваць на назву арганізацыі амаль што ўсяго беларускага студэнцтва!

У рэшце рэшт, вялікая пратэстная акцыя ў зьвязку з разгромам беларускага руху пад Польшчай, змушвае нязначную частку эміграцкага студэнцтва, якая саромяецца яшчэ адкрыта нацягнуць на сябе здрадніцкую маску, падаць у грамадзкую арганізацыю бел. эміграцыі, гэтак званую «Беларускую Раду» заяву аб тым, каб Прэзыдыум Рады склікаў агульны сход, які-б заняў тое ці іншае становішча да апошніх падзей у Зах. Беларусі. Ня гледзячы на тое, што заява была падпісана большасьцью членаў Рады, прэзыдыум, на чале з вядомым абаронцам «дэмакратычнай» канстытуцыі Б.Н.Р. п. Захарко, сход адмовіўся склікаць. Вось вам і дэмакратыя! Аб ёй, беднай, гаворыцца толькі тады, калі трэба выступаць супроць Савецкай Беларусі, але для свайго ўнутранага ўжытку яна ўжо не гадзіцца.

З такім становішчам пагадзіліся і самы ініцыятары скліканьня сходу, якія замест таго, каб рашуча пратэставаць перад прадажнымі узурпатарамі з прэзыдыуму Рады і прымусіць іх склікаць сход, маючы большасьць Рады за сабою, зараз праступна маўчаць.

Адсюль відаць, што з-за чыста шкурніцкіх, сусьлікаўскіх інтарэсаў беларуская эміграцыя прадала сябе і з патрахамі польскаму фашызму і служыць яму лепш, чым у Вільні служыла і служыць валэйшаўска-паўлюкевічаўска-мамонькаўская зграя.

Але, як кажа расейская прыказка, адначасна, «чтобы невинность соблюсти и капитал приобрести», некатарыя эміграцкія правадары, хоць для вока рашыліся «пусьціць сьлязу»! Верхаводы нібыта апалітычнага, чыста-культурніцкага (згодна атэстацыі «Голасу Беларуса» і «Сялянскай Нівы») «Крывіцкага Т-ва ім. Фр. Скарыны» ў Празе і патэнтованыя палітыканы на беларускім сьметніку, зыйшліся сарамліва, хаваючыся, як зладзеі, каб ніхто ня чуў, пагутарыць «укосна» («Сялянская Ніва» № 25 -27 г.) аб «культурным і гаспадарчым становішчы Зах. Беларусі». І толькі! Якая скромнасьць!

У канцы рэфэрату, на які прыйшло толькі 10 (!) чалавек, адбылася дыскусія, ў якой некаторыя студэнты выказаліся за рашучы пратэст супроць гвалтаў у Зах. Беларусі. Але такіх студэнтаў, на жаль, знайшлося ўсяго адзін ці два. Усе іншыя выказаліся ці проціў пратэсту, ці аставіць усю справу адкрытаю. Цікава пры гэтым адзначыць становішча праскіх сельсаюзьнікаў. Адзін з іх, напрыклад, выказаўся, што пратэставаць проці фашысцкага тэрору ў Зах. Беларусі ня трэба, бо такі пратэст можа пашкодзіць «нам» (эмігрантам) на міжнародным форуме. Так хіба могуць гаварыць альбо поўныя крэтыны, альбо платныя агэнты польскае дэфэнзывы!

Пасьля доўгіх гутарак была прынята надзвычайна плятанічная рэзалюцыя, нібы-та пратэстуючая «ў імя людзкасьці і справядлівасьці» проці перасьледаваньня беларускага руху польскай уладай. І гэта цераз паўтара месяцы пасьля разгрому! Адразу

відаць фразэалёгія і тактыка паноў эс-эраў, якія сваім славаблудзьдзем памагаюць толькі Пілсудзкім і Мэйштовічам душыць і далей беларускіх работнікаў і сялян.

Жменя прыведзяных фактаў яскрава сьведчыць аб тым маральным і духоўным маразму, ў якім знайходзіцца беларуская эміграцыя ў Чэхіі, будучы адарванаю ад свайго краю.

Характэрна адмеціць, што гэтую ўбогасьць, гэты ганебны ўпадак, эмігранцкія «карэспандэнты» намагаюцца разьдзімаць у некаторых беларускіх часопісах, як «Беларускі Дзень», «Сялянская Ніва», «Бел. Крыніца» і «Голас Беларуса», ў якую-та творчую працу, шуканьне новых шляхоў і г. д.

Усе гэта — няпраўда, чыстая мана!

Эміграцыя духова і маральна згніла і разлажылася, яна ня здольна зараз абсалютна на жадную барацьбу ні за сацыяльнае, ні за нацыянальнае адраджэньне беларускага народу. Гэтыя папяровыя гэроі здольны толькі на самае нізкае і подлае, як выслугоўваньне польскім панам, што яны якраз зараз яскрава задэманстравалі!

---

*Рыгор Кудаса.*

## ОЙ ЗІРНІ...

Ой, зірні на мяне хоць узрокам
Сваіх чорных гіпнозных вачэй.
Прыгалуб, прытулі ненарокам,
На кіпучыя хвалі грудзей.

Абаві шоўка-прадзьваю мне скроні,
Кучарамі распушчаных кос,
Няхай сэрца пачуе сягоньня
Твой дзявочы электра-гіпноз.

Ой удар, ой удар звонам песьні,
Мне па струнах маркотнай душы, —
Хай сьмяюцца бы сонца ў прадве сьні
Іх акорды і ў сумнай глушы.

Ў ласкавеньні салодкім каханьня
Твайго, сэрца маё акуні,
Хай надзея ў грудзёх не завяне.
Прытулі-жа, хутчэй прыгарні.

Ой зірні! ой зірні хоць узрокам!
Сэрца ў вір іх жывы акуні.
Прыгалуб, прытулі ненарокам,
Хоць узрокам адзіным зірні.

---

*Рыгор Кудаса.*

## ДЗЕНЬ НА УСХОДЗЕ.

Вось і сонейка! Дзень на усходзе,
Лье румянец на твар небасхілу.
Ах! Як весела й міла ў прыродзе,
Дзень даўно загнаў ноч у магілу.
Дзень умыўся халоднай расою,
У праменьнявай выцерся грыве,
І на струнах праменьняў рукою
Заграў нежна ў яе пераліве.
Эх і ночка была, ночка цёмная!
Сколькі сьлёз праліў вечар над ёю.
Мы блудзілі калісь напрытомныя,
Сёньня шчасьце куем грамадою.

А ці думаў, ці сьніў хто на сьвеце,
Што пан будзе жыцьцё праклінаць.
Ці хто думаў, ці сьніў, што ў савеце
Будзе «Лапаць» законы пісаць.
Але годзе, ўжо годзе аб гэтым,
Бо «наш» захад к таму ня прывык,
Бо цяперашнім спужаным сьветам
Скажуць зразу, што я бальшавік.
Дзень гудзіць, дзень зьвініць у пераліве,
Адназьмерна вялікіх клапот.
У праменявай, сонечнай грыве
Віцірае чарвоны свой пот.

19. II. 27.

---

D.

* * *

Захад полымям пылае,
Сонца нізенька саусім,
Яго хмара абнімае,
Цалавацца хоча з ім.

Але сонца поўна ў твары,
Ніто суму, ніто сьлёз,
Унікаючы ад хмары
Ухіляецца за лес.

А зардзёўшаяся хмара,
Ці ад сораму, ці зла,
Як бы дума або мара
Ўверх па небу папаўзла.

Сталі грудзі уздымацца,
Моцна дыхаць пачала,
Стала сэрцам падрывацца,
Горкі сьлезы паліла.

Тыя сьлёзы аж віліся,
Як падалі на зямлю,
Аж руччамі разліліся
Так і чутна: «плю-плю-плю».

1926

*Вільня-Лукішкі.*

---

*Бэхэр.*

## «Казьнены».*)

Быў прыгожы, цёплы, веснавы дзень.

Як срэбная павуціна блішчэлі ў далі рэйкі вулічнае жалезнае дарогі. Пад пралётамі маста вялічава каціласяя рака. Мільёнавокая зелянь. Сьмехам зялёным сьмяяліся пупынкі дрэваў.

Драўляныя будкі і крамкі былі раскінуты па абох бакох вуліцы. На вазох і ручных каламажках стаялі выклікальшчыкі. Іх зчырванеўшыя галавы калыхаліся як ветракі. Выкрыквалі густым голасам свае сцэны, прапаноўвалі новы патэнтованы кіт, які ўсё клеіў і кітаваў і які неабходны ў кожнай гаспадарскай хаце. «Гумовыя падноскі «Pertinax» наладжваюцца да кожных чаравік у працягу найбольш трох мінут! Гумовыя падноскі «Pertinax» гарантуюць абсалютна бязгучную, эластычную паходку, заведзяны нават нью-йоркскай паліцыяй, — і паважаным купцом, для добрага сканчэньня ўсіх іх спраў вельмі рэкамэндуюцца».

Нападабляч голасу жывёлаў пачаў з арла, караля паветра, і засьпяваў, пры гарманічным шчабятаньні ўсіх птушак і птушынага ўменьня, гімн «Хваліце Пана...», і адна цудоўная карова важна і цьвёрда мычэла «А хто цябе прыгожы лес...»

---

*) Гэтае апавяданьне прыслана па просьбе рэдакцыі, вядомым нямецкім пралетарскім пісьменьнікам Бэхэрам з Бэрліну.

Кружыліся каруселі, гучэлі дрыжучы званы і ізноў зьнікалі. «Размалёваныя прыгожасьці, карлікі, вяліканы, куток сьмеху, баксёры, барцы, гіены, дэльфіны, канібалы, падарожжа праддвечным лесам».

З тузін прамоўцаў крычалі разам і чрэваявшчацель, што стаяў у сярэдзіне таўпы, якая ўсё яшчэ нерашуча хвалявалася, прабурнуў ветліва «Увайходзьце, мае паны. Прэдстаўленьне пачынаецца».

Мужчыны з плякатамі на плячох, адзін за другім, бязконцая чарга, рухаліся, з мёртва-сур'ёзнымі абліччамі ў гору, як нейкая працэсія, на чале з высокім чалавекам на хадулёх, які меў крыклі-ва-чырвоную маску, а на галаве старамодны, як вежа цыліндр.

Чалавек на хадулёх, абкружаны насільшчыкамі плякатаў, казаў кароткую прамову.

Публіка ўжо з газэт ведала ў чым справа. Атракцыі асаблівага характару прадбачаліся на пасьляпалудня і на вечар.

Чатыры сьпіны насільшчыкаў плякатаў выступілі ўперад, нагіналіся, выпроствоваліся, ізноў нагіналіся, як пры паклону. Кожны меў з заду адну літару. Разам яны складалі імя: Удэт.

Раздаўся бурлівы сьмех.

Жывы плякат зыйшоў.

І ўсё крычала, цешылася.

«Удэт! Удэт! Удэт!»

«Удэт ёсьць адзіны і неперапаможны! Імя аматара-лятуна азначае сэнсацыю. Усюды, дзе ён свае ўменьне так дасканальна паказваў, яму былі запэўнены рукаплясканьні статысячоў гледачоў, захопленых яго палётам. Удэт уладае сваёй машынай ў-ва ўсіх магчымых палажэньнях у паветры. Палёт Удэта здаецца гульнёй, лёгкім, яго рухі плаўныя і зьвязныя. Бачыць яго ёсьць найвялікшай прыемнасьцю. Ён то разаб'е дзіцячы балён сваім прапэлерам, альбо злове яго пры дапамозе сеткі паміж свае крыльля, або перакруціцца наўкол шнура паміж двумя аэрастатамі, як гімнаст робячы мертвае кола на турніку, і застаецца ў паветры, як мага доўга, лежачы на сьпіне, як муха на столі.»

Група гэрольдаў ў сярэднявяковай вопратцы, якія трубячы ў фанфары, ўздымаліся на цяжкіх балагольскіх конях уверх вуліцы, былі ўзварушанымі гледачамі прывітаны выкрыкамі «Ура» і «Браво».

Галоўнай часткай ўсяго гэтага народнага фэсту бяссумліву мусіла быць, — згодна апавешчаньню гэрольдаў, — пастаноўка боя-попуры, або ў «родных малюнках» «сьвятовае вайны», якая мелася адбыцца ў даправодзе вялічэзных брыльянтавых фэйерверкаў. Громы пушак, тарахценьне стрэлаў, пражэктары і нарэшце абраз захопленага пажэжай варожага места, зусім з духам часу, мусілі дапоўніць праграму. Барабанны бой, сігналы, пяяньне жаўнераў, ура пераможцаў: ўсё гэта ізноў узбудзіць успамін на цяжкі час бяды і жалеза.

Дражнячы пах піва і каўбасы несся з парку для забаў, наведаць які запрашалі два грэнадзеры з часоў Фрыдрыха, з сло-

вамі «Заходзьце, заходзьце мае паночкі. Тут вы можаце найвыгадней пазбыць свае грошы».

Даправожаная старымі і маладымі абыйшла групка гэрольдаў пляц, напроці якога мясьцілася турма. Шэры камплект муроў. Муры адзін над другім, муры з пераду і з заду, муры, ў якіх людзі на ўсё жыцьцё былі замураваны.

---

Аўта для нябошчыкаў загучэла.
Яно ледзь прабівалася скрозь людзкі натоўп.

* *
*

Шофэр, па сканчэньні такога транспарту звычайна моцна выпіваў. Ішло аб перавозцы казьнёных з мейсца казьні да галоўнага мястовага могільніку.

Таксама і ў гэты вечар сядзеў шофэр у піўной проці пляцу, дзе адбываўся фэст.

Вогнены надпіс «Залаты ягнёнак» мігацеў ў паветры і здалёка кідаў сьвятло.

Узварушаныя дэбаты ўзьняліся наконта «выпадку». Пры прадстаўленьні палёту пасьляпалудня, пры саскакваньні парашутам, разьбіўся на сьмерць малады артыста.

Было жудасна, згодна, бязумоўна праўдзівым і аднагалосным весткам усіх паказчыкаў, глядзець, як парашут усё і ўсё не расчыняўся, не рачыняўся 200 мэтраў высока над зямлёй, ізноў не расчыняўся 100 мэтраў ніжэй — тут ускрыкнула публіка адзіным крыкам жаху — пачулася глухое падзеньне і каароткі стогн — хвіліна — і няшчасьце сталася.

Некаторыя нават хацелі, дзесяць дваццаць мэтраў яшчэ над зямлёй, улавіць страх сьмерці на твары артысты, які з пенай на губах, з нярухома адчыненымі вачыма падаў у вымашчаную пропасьць.

Цяпер усе ўсталі ў сярэдзіне гутаркі і пасьпяшалі навонак.

Абраз у «родных малюнках» якраз канчаўся надзвычайна моцным выбухам. Каманда загадвала: «Зьняць каскі на малітву». Поўныя пабожнасьці сьпевы. Языкі полымя прабіваліся скрозь цемру ночы. Варожы горад гарэў.

Шофэр піў, ён ня ведаў чаму ў гэты вечар ня ў сілах стрымаць сябе.

Ён зусім адзін застаўся ў пакоі.

Скрыпеў бляшаны грамафон.

П'яны акунуўся ў красачна размалёваную трубу грамафона, аж па корань гукаў.

Быццам з пад кучы чарапкоў данасіўся сьпеў.

Нейкі надорваны голас сьпяваў.

Шофэр піў далей.

Ён чуў як нехта пытаўся паліцыянта:

«Што тут уласьне сталася?»
Паліцыянт не адказваў больш.
Ён зьнік, быццам праваліўся скрозь зямлю.
Людзі ішлі да дому, утапаючы па калені ў гразі. Асфальт каціўся насустрэч, як прарваўшыйся паток. Дамы ссоўваліся, улазілі адзін на другі. Граза з жудасна расчыненай пасьцю налящела на места. Зялёныя лужыцы сьцякалі з двароў прадмесцкае чвэрці. Ізноў гралі шарманкі, якія перад тым заціхлі. На пляцу скрыпелі глуха і рэзка карусэлі, арэлі з лодкамі раскачываліся высокай дугой ў гору ў начной цьме. Вецяр пакачываў фанары. Яны хісталіся і мяталі залаты сьвятляны дождж.
П'яны піў.
Людзі ізноў сядзелі ў шынку ля драўляных сталоў, пакрытых жоўтымі абрусамі, якія раптам пачалі сьвяціцца. Сталы запрожаныя сьвецячай вясной. Ігракам зрабіліся нярухомымі карты у руцэ, распадаліся паміж пальцамі, як гарачыя вугольлі. Страшны крывавы чэрап чалавека вісеў над сталом. Пазбаўлены тулава, якое сядзела ніжэй здалёк ад яго ў накрухмаленай маніжцы і ў стракатым галстуху, яно з крывавай, унутр уцягненай шыяй углядалася ў сваю ўласную галаву, — думкі якой кружыліся, якія былі кашмарным успамінам таго мінулага часу, калі гэты чалавек яшчэ з высунутым языком, як гончы сабака лётаў па сьвеце.
Шофэр кранууся свайго калена. Абедзьвума рукамі моцна трымаў сваю галаву.
Галава п'янога цяжка гуталася з аднаго боку ў другі. Сьлізкае было памешканьне ў якім сядзеў п'яны, быццам нейкая сьцюдзеная маса. Вонку бурліла места. Шэрыя каменныя грамады прадмесцкае чвэрці ўбегалі да цэнтру места.
П'яны ўсё піў.
Некалькі чалавек, якія ў гэтую пару сядзелі з ім ля стала, ізноў паўставалі, скакалі на ўсіх чатырох, кружыліся ў пылу і сьмяцьці, рохкалі, таўкліся, ўсаджвалі адзін другому нажы ў сьпіну, плакалі. Твары раптам зьмяніліся ў маскі.
І зямля наскольки яна была чорнай зрабілася празрыстай.

* *
*

Рука, якая з рашуча вымаўленым загадам «паліцэйская гадзіна» апусьцілася п'яному на плячо, адразу магнэтам падняла яго ў гору.
Тулава п'янага адчыніла дзьверы і ветліва нахіліўшыся прапусьціла ўперад галаву на вуліцу.
Як велічэзны сьмерч мусіла выпадаць некалі, калі нутро зямлі прыйшло ў рух і выкінула ў гору тысячу казьнёных і яны магутным бязбаражным патокам панясьліся па паверхні зямлі, — які зьмяніў увесь сьвет у адно трупнае балота. Паток, які з усіх

патокаў зямлі мог-бы раўняцца хіба Амазонцы, — вадзяная пустыня, адбіваючае неба вадзяная неканечнасьць.

* *
*

Трупаў людзей, якія памерлі натуральнай сьмерцьцю ўжо даўно ня было. І натуральная сьмерць ня была натуральнай. Бо калі каму небудзь і ўдавалася адзінока памерці ў сваім ложку, ў старане ад магутнай масавай барацьбы сьвету, то ўсё-ж мусіла быць прынята пад увагу тое, што гэтая апошняя, быццам зусім мірная падзея, была ў працягу некалькіх гадоў, ужо з дзяцінства, прымусова прыгатавана і праведзена. Гэтая, быццам спакойная сьмерць, у запраўднасьці было забойчае скананьне, сухое забойства. Бо шляхі жыцьця ўсіх людзей былі вымашчаны кроу'ю. І тое, што паволі перасьледаваны сьмерцю, пры сваім апошнім уздыханьні быў пакінуты сам сабе і яшчэ меў час скрыжаваць рукі на грудзёх, нічога не зьмяняла ў сутнасьці на тым, што і яго жыцьцё прыняло гвалтоўны канец.

«І толькі ў гэтым розьніца» разважаў далей шофэр па дарозе да дому, — «і гэтая розьніца бязумоўна не здарма. Такі напрыклад прызначаны сьмерці, якога я сёньня вёз, мусіць адразу сплаціць увесь цяжар цярпеньняў чыстай манэтай, ў той час, як мы, іншыя, можам сплачываць па ратам. Усё страшное напружаньне ўсіх цярпеньняў жыцьця грмадзіцца на некалькі хвілін у адно цэлае. Такога цяжару ня вытрымае ні водзін чалавек. Ламаецца пад ім і падае... Гром і маланка! Толькі раз сабе ўявіць. Адразу адным ударам настае канец...»

Тут ён увайшоў на сходку «безгаловых тулаваў». Сходка адбывалася на рыначным пляцу, дзе кожную суботы адбываўся тыднёвы торг.

Нястраўныя адпадкі зяляні, лісьцьця ад капусты — падлога была сьлізкая.

Цяжкі пах мяса.

Спёртае паветра.

* *
*

Было бяз тлумачэньняў ясна, што ў «безгаловых» іншыя часьці цела пераняла функцыі галавы, — якія поўнасьцю замянялі яе. І такім чынам выяўлялася, што часам рукі звыклі да таго, што яны моргалі і ўглядаліся, каленіківалі часта спрыючча і сьмяяліся, тупы абрубак шыі мог зваць або гаварыць, зрабіўся варонкай з якой часта бязупынна вырываліся зблытаныя гукі мовы. Цэнтр думаньня, што зьмяшчаўся ў мазгох, ужо даўно знайшоў сабе мейсца ў «безгаловых тулавах» у брусе, — з другога боку-ж »галавы бяз тулава», якія таксама лічна былі заступлены на сходцы, пастараліся каб і яны ня былі пазбаўлены неабходных

жыцьцёвых органаў і гэтак можна было заўважыць, як у «бязтулавых галоў» лантухі зьвісалі з вушэй.

Нейкае тулава, якое п'янаму здалося нейкім дурным, пачало ў поце свайго цела прыкладаць найбольшае стараньне, каб ізноў злавіць сваю галаву. Яно круцілася, як ашалелае сярод іншых такіх самых тулаваў, якія спагадна сьмяяліся сваімі складкамі на брусе, бегала наўкола з сеткай для казурак і ў канцы свайго паляваньня злавіла на пацеху ўсіх «безгаловых тулаваў» і «бязтулавых галоў», чырвоны дзіцячы балён, як здабычу.

П'яны ўцягнуў глыбака голаву паміж плеч, сьціснуў яе высока скрыжаванымі рукамі, бо яна толькі мелася быць некаторымі таварышамі адшрубавана шрубавым ключом.

У гэты мамэнт ён ізноў ясна пабачыў перад сабой, што ён ужо цэлую хвіліну бег уздоўж ракі, якая плывучаю істужкай вілася ў далі.

Сходка казьнёных так-жа хутка скончылася, як была ськлікана.

* *
*

І само жыцьцё людзей здавалася п'янаму аднэй плывучай істужкай. Плывучая істужка жыцьця, паганяная патаемнымі сіламі, кацілася скрозь процьму часу. Недаробленыя кавалкі чалавека чапляліся за яе і кавалак за кавалкам дабаўляўся. Дзіўна: гэтая істужка плыла, плыла разам з іншымі, проці іх, зьлівалася з імі і ізноў мільёны іншых стужак уцягвала ў сябе гэтая плывучая істужка. Яна абрывалася, кружылася, ператваралася раптам у вір, быццам зблытаны вузел і ізноў расплякалася і дужэла. Часта здаралася, што паасобныя кавалкі людзей знайходзіліся ў жорсткай, няўмольнай барацьбе. Біліся крывава, перакрыкваючы адзін аднаго, перамагалі, і тады асобныя істужкі плылі ізноў разрознена і тады бачна было: высака і горда плылі чалавечыя кавалкі, ўкалыханыя, чыста і добра паліраваныя, сапраўдны твор мастацтва і ўменьня. Яны плылі ў сонечна-празрыстай сіняве, плылі цераз горы, па над морам, усё далей, лёгка пакачываючыся. Была гэта залатая істужка, якой яны былі заабавязаны лёсу і гэтая залатая істужка несла іх, даправоджаная мягка-лятуцьцёвай мэлёдыяй, высака над зямлёй, у даль, куды яны толькі хацелі, няўтомныя, бесклапотныя. Кожнае ўдыханьне, якое рабілі гэтыя шчасьлівыя, было глыбокім уздохам з паўнаты сьветаадчуваньня. Плывучая залатая істужка жыцьця несла іх да хараства і прыгожасьці сьвету. Яны ніколі ім ня былі недаступны. Яны вольна, лёгкай марай віселі ў усясьвету, якога сьнежна-прамяністы купал сьпяваў ім спакойную і неканечную песьню вечнасьці. Рытм машын, якія паганялі залатую істужку жыцьця, быў у гэтай блажэннай, далёкай ад зямлі вышыне, ня чутны.

Іншыя істужкі жыцьця плылі.

У глыбыні жалезная істужка, якая раптам агалялася, імкнулася ўперад, кідала супраць друг друга людзей, якія сюды належалі, раптам уздымала іх ізноў і кідала ўніз. Затым ізноў паволі і нядбала цераз горы топкае гразі і балота, як грамучая зьмяя рухалася ўперад. І істужка цягнулася і цягнулася далей. Адпадалі кавалачкі ад кавалкаў людзей, людзі самі корчыліся і стагналі, бо жалезны паток плыў зараз праз краіну ў якой віхрылі вогненыя ветры і дзе паветра была пратраўлена страшным смуродам. Людзі плавіліся. Але ня было сьлёз, якія-б яны пралівалі, і сьляды тых, якія гэтыя кавалкі людзей пралілі, ляжалі ў безбярэжнай, недасяжнай далі, далёка па заду іх, у мінуўшчыне, якая для кожнага з іх так мінула, быццам і не належала больш уласнаму жыцьцю. Гэта была кроў, што ішла з сэрца, якая тут у жаласьлівых кропках сьцякала з кавалкаў людзей на зямлю. Кроў, якая крычала, якая цякла, куча крыві, — а істужка цягнулася, цягнулася далей, пад гучлівы і стогнучы такт, праз смуродны пах падалі і сталых чалавечых адпадкаў, прыманку вялічэзнай стаі воранаў і хіжакоў; косьці чалавечных кавалкаў грухацелі, і ізноў стужка неслася ў шалёным тэмпу ўперад.

Уплывала заўсёды некалькі гадоў, пакуль чалавечыя кавалкі жалезнае плыні былі так далёка, што можна было сказаць, што яны грунтоўна дасьпелі да магілы. Паганяныя прызракам яны ўсёж імкнуліся ўперад, бястварыя брадзягі, з рукамі і каленямі, як пустыя ветраныя шлаўхі, рукі якіх незграбна баўталіся ад найменьшага падыху ветра пры змарадаваным з прасьвечываючымі робрамі, целе.

І істужка цякла далей, набірала ўсё новыя кавалкі людзей, з года ў год, каб іх усіх весьці аднолькавым шляхам праклянцьця.

Жах пекла даўно ўжо ня быў дзівам для чалавечага кавалка з жалезнае істужкі; пекла было яго жыцьцё, сама сапраўднасьць. Але краявіды пекла, якія былі яго айчызнай былі шмат страшнейшымі і больш жорсткай мукай, чым гэта песьняры і прарокі даўніх часоў намалёўвалі.

Гэта было пекла, дзе ўсё рабілася ў парадку, дзелавіта. Бязмежныя пыткі, якія тут панавалі, панавалі па праву, панавалі згодна сіле закона. Многія жыхары пекла ўжо звыклі да свайго пякельнага жыцьця. Гэтая звыкласьць унасьледавалася з роду ў род, паралізавала сілу розума чалавечых кавалкаў, засуджаных на ўсё жыцьцёвае пекла, і так яны пакідалі думку аб уваскрошаньні, падаўшыся свайму пякельнаму лёсу, цярпліва і бяз волі ізноў устаць. Нават пытаньне «Чаму?» і «Навошта?» было даўно штучна выключана з разумовае чыннасьці бедных ахвяраў абыймаў пекла. Бяссэнсовасьць і шаленства такога пякельнага існаваньня была тымі, якія залатой ісужкай плылі жыцьцём, так дасканальна замазаны, што беднаму работніку пекла часта з гордасьцю ўздымаліся вузкія грудзі, калі ён чуў аб тым, якую сьветапатрасаючую місыю мае выканаць для ўселюдзкага дабра ідучы гэтым пеклам. «Бедны, паршывы сабака пекла» пэўна думаў пра сябе поп, калі ён сярод малітвы і курэньняў, прэдаваў зямле няшчасны труп

жыхара пекла, і апавядаў адкрыта і громка, як у сьвята з мёртвых устаньня да гэтага прагорклага цела, абкружанага сонмам ангелаў, сьветлымі божымі вестнікамі і духам Хрыста, зробіцца пахучым, цьвятуча белым і сьветлым зьзяньнем пераляціць з даліны праклцьцяў, на другі бок божага рая.

П'яны пачуў у канцы гэтага развражаньня моцны металёвы звон, які ўсё яго цела праціяў элтктрычным токам. Сталёвая істужка каціласяўперад і панесла і яго кавалак дарогі далей.

П'яны яшче шлындаўся па месьце, калі ўзыйшло сонца.

Быў крывава чырвоны ўзыход сонца...

* *
*

Труп казьнёнага вырастаў панад места.

Быў ён густа чырвоны, быццам мясістая хмара, якая пылала і асьвечвалася маланкай. Чырванаватыя галіны распаўзаліся па нібасхілу і павуцінай абчаплялі яго. Жывая сетка з трапечучых праменьняў крыві.

Труп казьнёнага крычаў з тысячы ранаў.

Прарэзьліва крычаў, як гудок сірэны на фабрыках. Гэта было рытмічнае грухаценьне костак высака ў паветры, як ад нябачнага джаз-банду.

Стада пацукоў выпаўзла з нораў зямлі, выцягваліся стоючы проста на дзьвух нагах, з сваімі тлустымі каркамі процi неба і крычалі

«Укрыжуйце яго»

Але агульны гул і крыкі, якія цяпер уздыймаліся па ўсім сьвеце, былі так магутныя, што затлумлівалі ўсе крыкі пацукоў.

Лясы крычалі —

Палі крычалі —

Мора крычала —

Гэтыя магутна уздыймаючыся крыкі затлумлівалі званы, якія пачалі гудзець у гарадох і вёсках.

Званы ўздыймаліся, дужэлі, чым боляй вырастаў труп казьнёнага.

Плынам узьняўшаяся цела казьненага раскінулася глуха і цяжка над зямлёй, аграмадным цяжарам гігіанцкага трупа, які пякучым пахам гнільля сьціскаў лёгкія людзей, якія суха кашляючы і ахопленыя ўдушшам, сьхіліўшыся ішлі паасобку, каб затым вандраваць грамадой.

Труп казьнёнага ўсё глыбей урастаў у зямлю.

Неба пазаду — адна адкрытая магіла.

Адзін з тых, што былі ў нізе на зямлі.падня ў рукі, да якіх прыліпла кроў, кроў з крывавага цела, якое шчыльнай масай вісела над ім.

Другі падняў рукі.

Трэці —

Чацьверты —

Яшчэ адзін...

Усе рукі былі падняты. Яны ішлі з паднятымі рукамі.

З усіх рук капала кроў.

Яны ішлі пад булькаючы такт крыві, крыві сэрца, якая ліла-ся, разьлівалася, гарачая выцякала з глыбінь сэрца і, чырвона і сьвежа ахварбоўвала ідучыя целы.

Рукі ўчапіліся моцна ў язвы ран, пагрузіліся ў ліпкую кроў аграмаднага цела казнёнага.

Гэтак несьлі мільёны людзей труп казьнёнага праз зямлю. Іхнія твары, асьвечаныя дзікім, крывавым агнём, згаралі самі ў пажары крыві, якая з гары патокам лілася на іх. Паток крыві агкутаны мігцеючым крывавым сьветам віўся над зямлёй. Хадзячыя балячкі, мільёны голых, крывавых постацей. Быў гэта страшны паход гола-крывавых. Яны ішлі праз зямлю ўсё далей і далей ад крававых палей, аж пакуль труп казьнёнага не пагрузілі ў белацьвятучым прасторы ўсесьвету.

Пераклаў *А. Д.*

---

# Хроніка.

## САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ.

### У ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

**Падарожжы па БССР.** Алесін і Азбукін уклалі маршруты падарожжаў
па БССР. Гэтыя маршруты разьлічаны так, каб даць магчымасьць падарож-
ніку пазнаёміцца з рознымі пунктамі БССР, цікавымі з боку гісторыі і гаспа-
даркі, а таксама пазнаёміць вандроўніка з прыгожымі краявідамі Беларусі.

**Зборнік «Магілеўшчына».** Магілеўскае Краезнаўчае т-ва рыхтуецца да
выданьня зборніку «Магілеўшчына». У зборніку будзе зьмешчаны матэрыял
па пытаньню прыроды Магілеўшчыны, эканомікі, фольклёру, мастацтва,
гісторыі, краязнаўства і бібліаграфіі.

**Навуковыя экспэдыцыі у 1927 г.** Сэкратарыятам Інбелкульту зацьверд-
жаны плян навуковых дасьледчых экспэдыцый, якія маюць быць праведзяны
гэтым летам.

*Аддзел мовы і літэратуры* ладзіць дзьве вялікія экспэдыцыі ў раён Сма-
ленска, Вяліжа, Суража і Старадуба дзяля вывучэньня дыялектычных асаблі-
васьцяў і этнаграфічных матарыялаў успомненых раёнаў.

*Мастацкая Сэкцыя* ладзіць тры экспэдыцыі у Слуцак, Верхняе Пад-
дзьвіньне і Паддняпроу, е і ў Лепельшчыну.

Апрача таго, адбудзецца навуковая камандыроўка на Украіну дзяля
вывучэньня экспанатаў вядомага беларускага урэччанскага шкла.

*Сельска-гаспадарчая экспэдыцыя* мае дасьледваць сельска-гаспадарчую
тэхніку сялянскага ральніцтва.

*Гісторыка-археалёгічныя экспэдыцыі* маюць перавесьці буйныя раскопкі
на р. Сож каля вёскі Бэрдыж, Гомельскай акругі па дасьледваньню першай
на Беларусі стаянкі ледніковага пэрыяду.

*Ц. Б. Краязнаўства* наладзіць узорна-мэтодалёгічную экспэдыцыю
дзяля дасьледаваньня фаўны і флёры Асіпавіцкага раёну.

**Рэарганізацыя Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук.**

Назва Інбелкульт, прынятая ў той час, калі Інбелкульт зьяўляўся на-
вукова-культурнай арганізацыяй з практычным ухілам, не адпавядае яго
сучаснай дзейнасьці. Насьледкам гэтага Навуковая Рада зрабіла пастанову
ўзняць пытаньне перад Урадам БССР аб тым, каб Інбелкульт да 10-цігодзьдзя
Кастрычнікавае Рэвалюцыі рэарганізаваць у Беларускую Акадэмію Навук.

## СЯЛЯНСКІ УНІВЭРСЫТЭТ У БССР.

Пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горы-Горках арганізаваны Сялянскі Унівэрсытэт. Галоўная мэта яго — навучыць сялян культурна весьці сваю гаспадарку. Дзеля гэтага ў Унівэрсытэт будуць прыймацца выключна сяляне — беднякі, батракі, серадняки, дэмабілізованыя чырвонаармейцы і работнікі савецкіх гаспадарак. Цікава адзначыць, што унівэрсытэту такога тыпу ў СССР яшчэ няма.

Заняткі ў Унівэрсытэце будуць пераводзіцца раз у тыдзень па нядзелях у працягу 6 гадзін. Курс навучаньня ў Унівэрсытэце будзе двухгадовы. Праўленьне Сельска-Гаспадарчай Акадэміі дае Унівэрсытэту ў карыстаньне свае лябараторыі і памешканьне. Навуковы пэрсанал Акадэміі будзе дарэмна праводзіць заняткі з слухачамі Унівэрсытэту.

## БЕЛАРУСКІ ВЭТЭРЫНАРНЫ ІНСТЫТУТ У ВІЦЕБСКУ.

З прычыны недахопу вэтэрынарных дактароў сялянства Сав. Беларусі штогод мае страты ад здыханьня жывёлы ад 3 да 5 мільн. руб.

У Інстытуце дзейнічаюць ужо 2 клінікі. Маюць быць пабудаваны яшчэ 4. Усяго навучаецца ў Інстытуце 310 студэнтаў, з якіх — 65% — бяднейшых сялян, 8% — работнікаў і 28% — нізавых працаўнікоў вёскі. У 1926—27 г. пры Інстытуту адчыніўся вячэрні рабфак з біолёга-вэтэрынарным ухілам.

Інстытут выдаё навукова-практычную часопісь «Беларуская Вэтэрынарыя».

## ЯК АЖЫЦЬЦЕЎЛЯЕЦЦА ЎСЕАГУЛЬНАЕ НАВУЧАНЬНЕ Ў САВ. БЕЛАРУСІ.

30 сакавіка г.г. скончыла сваю працу Ўсебеларуская Нарада па ўсеагульнаму навучаньню. Нарада выявіла значныя дасягненьні ў выкананьні пляну ўсеагульнага навучаньня.

Так, у 12 акругох БССР у 1926—27 г. адчынілася 621 новых школьных камплектаў супроць 546 камплектаў згодна пляну. Такім чынам, плян выкананы з перавышэньнем на 75 камплектаў, ці на 13.7%.

Процант ахопу школай дзяцей школьнага ўзросту (8—11 год) павялічыўся з 66.2% у мінулым годзе да 71.6% сёлета, перавысіўшы плянавы процант (69.2) на 2.4%.

Новыя школы адчыніліся, галоўным чынам, у вёсках (87,6%). Па нацыянальнаму прынцыпу новыя камплекты падзяляюцца так: беларускіх — 456 (73.4%), расейскіх — 70 (11.2%, у тым ліку ў Гомельскай і Рэчыцкай акругах 55 камплектаў), жыдоўскіх — 55 (8.8%), польскіх — 28 (4.5%), латыскіх — 5, літоўскіх — 3, украінскіх — 3 і нямецкіх — 1.

Зьмяншаецца лік аднакамплектных школаў і павялічваецца 2-х камплектных, больш нармальных. Наплыў дзяцей ў школы надзвычайна вялікі. Найбольш цяжкая праца настаўніка ў Аршанскай акрузе, дзе на настаўніка прыйходзіцца ў сярэднім 57 вучняў.

Аб імкненьнях насельніцтва да школы сьведчыць і другі факт — утрыманьне жыхарамі на ўласныя сродкі так званых «дагаворных» школ. Такіх школ сёлета было 95 з 2311 вучнямі.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНАЯ ПРАЦА НА СМАЛЕНШЧЫНЕ.

У 1926—27 г. на Смаленшчыне значна пашырылася беларуская школьная сетка. Зараз ёсьць там 20 беларускіх школаў. У трох школах павышанага тыпу ўведзена выкладаньне беларусазнаўства, а таксама ёсьць беларускія аддзяленьні ў Смаленскім рабфаку і ў партыйнай школе. З наступнага году праэктуецца дзьве школы павышанага тыпу зрабіць канчаткова беларускімі.

## ЗБУДАВАНЬНЕ АСІНАЎСКАЙ ЭЛЕКТРАРНІ.

З сёлетняга году распачалося ў Сав. Беларусі будаваньне вялікай электрарні на Асінаўскім тарпяным балоце каля Оршы. Праэктуецца пабудаваць гэтую электрарню на моцнасьць у 30.000 кілёват з такім разрахункам, каб потым, у разе патрэбы, яе можна было пашырыць на 80.000 КВ.

Вырахавана, што торпу на Асінаускім балоце плашчынёй у 3.500 гэктараў хопіць прыблізна на 100 гадоў.

Кошт першапачаткавых прац на Асінаўскай электрарні вызначана на
13 ½ мільён. руб. Нядаўна Бел. Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі ад-
пусьціў на падрыхтоўчыя працы ў сёлетнім годзе 800.000 руб.; працы ўжо
распачаліся.
Галоўным інжынерам па збудаваньні электрарні зьяўляецца Алейнікаў.
Усе працы мусяць быць скончаны ў працягу 3 гадоў.
Плян пабудавання электрарні складзены найлепшымі інжынерамі Ма-
скоўскага Электратэхнічнага Інстытуту.
Цікава пры гэтым адзначыць тое, што Дзяржаўная Плянавая Камісія
СССР унесла Савецкую Беларусь у агульны плян электрафікацыі на блі-
жэйшых 15 гадоў. Па гэтаму гэнеральнаму пляну разьвіцьця народнае гаспа-
даркі прадугледжваецца пабудаваць у Сав. Беларусі вялікія раённыя эле-
ктрарні моцнасьцю ў 150.000 КВ.
Гэта бязумоўна зьяўляецца базай для далейшага разьвіцьця ўсяе бела-
рускае народнае гаспадаркі. Пабудаваньне Асінаўскай электрарні ёсьць
толькі першы к ок да правядзеньня ў жыцьцё гэтага вялічэзнага пляну эле-
кт офікацыі Сав. Беларусі.

## ПРАЦА БЕЛАРУСКАГА 2-га ДЗЯРЖАЎНАГА ТЕАТРУ.

За зімовы сэзон да 15 красавіка г.г. Б.Д.Т.2 паставіў 6 п'ес: «Цар Максы-
мільян», «Астап», «У мінулы час», «Сон у летнюю ноч», «Вечар студыйных
практыковак» і «Эрос і Псыхэя» даўшы 66 пастановак.
З гэтых п'ес найбольшым пасьпехам карысталіся: «Астап» — сучасная
камэдыя у 3-х актах і «Сон у летнюю ноч» — Шэкспіра.
Чарговай пастаноўкай БДТ2 пойдзе драма Эўрыпіда «Бакханкі» пера-
кладзеная на беларускую мову Юльянам Дрэйзіным.
БДТ2 прыймае ўдзел у выстаўцы тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва
ў Ленінградзе.

## КАМПАЗЫТАР М. І. АЛАДАЎ.

Над гарманізацыяй і мастацкай апрацоўкай беларускіх народных мэле-
дый і ўтварэньнем беларускай мастацкай музыкі працуе найбольш вядомы
кампазытар М. І. Аладаў. Дзякуючы яму беларуская музыка можа пахва-
ліцца ўжо творамі, што маюць агульна-эўрапейскае значаньне. Над белfavorite
кай музыкай Аладаў працуе амаль 3 гады. За гэты час ён даў 5 рамансаў на
словы Я. Купалы (Сасонка, Лета, 3 асеньніх напеваў, Лісты валяцца, Бяс-
путнасьць). Апрача таго, Аладаў гарманізава; 25 беларускіх народных
песьняў.
У цяперашні час Аладаў заняты думкаю аб утварэньні беларускай ар-
кестравай сымофніі і накідвае ўжо экскізы для яе.

## ДАСЯГНЕНЬНІ БЕЛАРУСКАГА МОПР-у.

Праца МОПР-у ў Сав. Беларусі за апошні час дасягнула вялікага пасьпе-
ху. Зараз Беларускі МОПР налічвае ў сваім складзе звыш 30.000 работнікаў,
26.000 сялян, 25.000 служачых і каля 13.000 вучняў. Аграмадную працу пра-
вёў МОПР у сэнсе дапамогі пацярпеўшым ад польскага тэрору. Зараз МОПР
пераводзіць кампанію па растлумачэньню апошніх падзей ў Кітаі.

### Хроніка беларускага літэратурнага жыцьця.

Я. Купала здаў у Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва чацьвёрты том
сваіх твораў у якія ўвашлі драматычныя паэмы. Зараз Я. Купала працуе
над перакладамі з украінскае поэзіі.
Якуб Колас працуе над аповесьцю «У глыбі Палесься» (2-я частка «У
Палескай глушы») і над паэмаю «На шляхох волі». Выходзяць другім вы-
даньнем яго творы «Новая зямля» і «Ў ціхай вадзе».
Хутка выходзіць з друку першы том твораў М. Багдановіча. (Акадэ-
мічнае выданьне Інстытуту Беларускай культуры).
У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве на гэтых днёх выходзіць з друку
зборнік апавяданьняў Зьмітрака Бядулі «На зачарованых гонях» (другое
выданьне). Цяпер З. Бядуля закончвае аповесьць «Салавей», якая друкуецца
ў часопісе «Узвышша».
Выходзіць з друку зборнік вершаў і паэм Ўл. Дубоўкі — «Наля».

У Бел. Дзярж. Выдавецтве друкуецца зборнік вершаў. Я. Пушчы «Дні вясны».

Крапіва падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў. Зборнік будзе друкавацца ў кніжніцы «Узвышша». У выдавецтве выходзіць з друку зборнік баек Крапівы.

М. Лужанін зараз працуе над мастацкаю прозаю.

У кніжніцы «Узвышша» друкуецца зборнік вершаў П. Глебкі — «Шыпшына».

С. Дарожны рыхтуе да друку зборнік вершаў.

В. Шашалевіч закончвае новую п'есу. П'еса яго «Змрок» ідзе ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага 1-га театру ў Менску.

Раман Кузьмы Чорнага «Сястра» друкуецца ў часопісе «Узвышша».

Раман М. Зарэцкага «Сьцежкі Дарожкі» друкуецца ў часопісе «Полымя». Выходзіць другім выданьнем зборнік апавяданьняў Зарэцкага «У віры жыцьця».

---

## ЧЭХАСЛАВАКІЯ.

**З жыцьця паступовага студэнцтва ў Празе.** У сёлетнім годзе паступовае студэнцтва вядзе над сабой сталую працу. Многія таварышы ўжо ў хуткім часе канчаюць вышэйшую школу, пасьля чаго паедуць у край для таго, каб сваей працай прынесьці карысьць працоўнаму народу.

Культурна-асьветная праца вядзецца ў тым самым напрамку, як і раней. Чытаюцца рэфэраты на палітычныя, эканамічныя, сыцыяльныя, культурныя і інш. тэмы, якія выклікаюць вялікую зацікаўленасьць сярод студэнцтва.

Асаблівую зацікаўленасьць сярод студэнцтва выклікаў дыскусыйны вечар аб «Новым Прамені», ураджаны рэдакцыяй 8. І. г. г. Зыйшлося шмат, як беларускіх студэнтаў розных палітычных кірункаў, так і зацікаўленых студэнтаў іншых народнасьцяў. Рэфэрат прадстаўніка рэдакцыі аб мэтах «Новага Праменя» выклікаў гарачы абмен думак, які працягнуўся некалькі гадзін. З дыскусіі можна было заўважаць, што нават праціўнікі «Праменя» змушаны канстатаваць паважнасьць нашага журналу, хоць прынцыпова з ім і не згадзіліся.

У зьвязку з разгромам «Грамады» фашыстам Пілсудзкім паступовае студэнцтва ўжыла ўсе магчымыя захады, каб чэскае грамадзянства даведалася як можна падрабней аб нячуваных зьдзеках Пілсудзкага над беларускім працоўным народам.

Паступовае студэнцтва пастаралася правесьці сярод чэскага грамадзянства пратэстную акцыю, як на сходах, гэтак і ў пэрыядычнай прэсе, і зрабіла ў гэтым адношаньні ўсе, што было ў яго сілах і магчымасьцях.

**Прыезд у Прагу рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту праф. У. І. Пічэты.**

11 чэрвеня г.г. у Прагу прыехаў вядомы беларускі вучоны праф. У. І. Пічэта, які зьяўляецца адным з галоўных арганізатараў і будаўнікоў беларускае вышэйшае школы. Зараз У. І. Пічэта адбывае навуковую падарож па Заходняй Эуропе, каб пазнаеміць заходня эурапейскае грамадзянства і навуковыя колы з сучасным становішчам беларускае вышэйшае школы і з дасягненьнямі маладое беларускае навукі, а таксама навязаць больш цесныя ўзаемаадносіны паміж беларускімі навуковымі установамі з аднаго боку, і навуковымі установамі і коламі Заходняй Эуропы з другога.

Як інфармаваў нас праф. У. І. Пічэта, яму ўжо зараз удалося навязаць кантакт з рознымі чэскімі навуковымі і грамадзкімі установамі, якія з надзвычайнай зацікаўленасьцю аднясьліся да яго прыезду ў Прагу. Насьледкам гэтага магчымы прыезд у Прагу праф. У. І. Пічэты восеньню г.г. для больш падробнага абзнаямленьня чэскага грамадзянства шляхам публічных лекцыяў з сучасным культурным становішчам Савецкай Беларусі. Праф. Пічэта думае стрымацца ў Празе да 10 ліпня г.г., потым паехаць з такімі-ж самымі мэтамі яшчэ ў Паўднева — Славію і Францыю. 18 чэрвеня У. І. Пічэта зрабіў для беларускай савецкай калёніі ў Празе інформацыйны даклад аб сучасным

культурным становішчы Савецкай Беларусі. Даклад выклікаў вялікую зацікаўленасьць сярод беларускага студэнцтва, якое было захоплена тым абразом вялічэзнага культурнага будаўніцтва ў Сав. Беларусі, што на падставе фактаў намаляваў праф. Пічэта перад слухачамі. У канцы гэтага месяца праф. Пічэта зьбіраецца зрабіць яшче даклад для чэскага грамадзянства, каб пазнаёміць яго з дасягненьнямі маладой беларускай культуры.

Гэтая падарож праф. Пічэты мае вялікую карысьць для культурнага зьвязку Савецкай Беларусі з Зах. Эўропай. Трэба толькі, каб такія падарожы вызначных беларускіх вучоных і пісьменьнікаў адбываліся часьцей, таксама, як ня шкодзіла-б, каб больш здольныя беларускія студэнты маглі вучыцца ў вышэйшых школах Зах. Эўропы.

**У саюзе студ.-грамадзян Б.С.С.Р.** Саюз студэнтаў-грамадзян БССР зараз існуе ў Чэхіі, як афіцыяльная арганізацыя. У лістападзе 1926 г. адбыўся устаноўчы сход Саюзу, які выбраў Праўленьне ў складзе 5 чалавек і рэвізыйную Камісію ў складзе 3 чалавек.

Саюз працуе ў цесным кантакту з іншымі савецкімі студэнцкімі арганізацыямі, ладзіць з імі рэфэраты, таварыскія вечерыны, канцэрты і г. д.

9. IV. 27. адбыўся другі сход Саюзу, які выбраў на летні сэмэстр новае праўленьне і рэвізкамісію.

Праца Саюзу паступова робіць ўплыу і на іншае беларускае студэнцтва, якое гачынае пераконвацца, што толькі ў Савецкай Беларусі мачыма зьдзейсьняньне ідэалаў беларускіх працоўных мас. Больш чэсныя адзінкі з эмігранцкага студэнцтва перайходзяць на бок Саветаў. Доказам гэнага ёсьць тое, што за апошнія два месяцы ў Саюз пададзена аб прыняцьці ў члены 5 заяў, што для агульнага ліку беларускай правай эміграцыі ў пару дзясяткаў чалавек зьяўляецца вялікім ударам.

**У Праскім «Маладняку».** Сябры праскага «Маладняка» стала працуюць над сваім літэратурным разьвіцьцём. Шкада толькі, што за апошні год менскія літэратурныя колы не пасталаліся перасылаць у Прагу апошнія навіны з беларускае літэратуры. Асабліва востра адчуваецца недахоп беларускіх літэратурных часопісаў: «Полымя», «Маладняк», «Узвышша» і інш.

Асабліва энэргічна працуе зараз «Маладняк» ў напрамку інфармацыі чэскага грамадзянства, літэратурных і мастацкіх колаў аб культурных і нацыянальных дасягненьнях Савецкае Беларусі.

З гэтай мэтай была уладжана 13. I. 27 г. вялікая акадэмія-канцэрт на аславу 20-ці гадовай мастацкай творчасьці беларускага народнага поэта Якуба Коласа.

«Маладняк» таксама прыняў актыўны удзел у ладжаным 21 сакавіка г. г. «Славянскім Сэмінарам» Карловага Унівэрсытэту вялікім «Славянскім Вечары». Па просьбе «Маладняка» выступіў перад цэлай саляй слухачоў розных нацыянальнасьцяў вядомы «Бакулавы Хор», які прыгожа засьпяваў некалькіх беларускіх песняў з цікавасьцю выслуханых прысутнымі.

**У студэнцкім Клюбу.** Зараз у адзіным беларускім Клюбу ў Празе атрымліваюцца амаль усе беларускія часопісі. Пры Клюбе справўна працуе бібліатэка, якая зараз зьяўляецца адзінаю крыніцаю, адкуль можна дастаць усе інфармацыі аб Беларусі. Дзякуючы гэтаму, Клюбам і бібліатэкай карыстаецца ня толькі паступовае і савецкае студэнцтва, але і наагул усе праскія беларускія студэнты, якія цікавяцца грамадзкім і культурным жыцьцём.

**Пратэст беларускага і украінскага паступовага і сацыялістычнага студэнцтва супроць белага тэрору ў Польшчы. 21. I. 1927 г. ў Празе.** «Паступовае і сацыялістычнае студэнцтва беларускай і ўкраінскай нацыянальнасьці, якое сабралася на сходзе пратэсту ў Празе 21. I. 27 г., заслухаўшы рэфэраты аб прасьледаваньні рабочага руху і аб тэрору ў адносінах да вызваленчага руху беларускіх і украінскіх сялян і работнікаў, пратэстуе перад усім культурным сьветам супроць:

1. Правакацыйных мэтадаў польскае паліцыі.

2. Дамаганьня паказаньняў шляхам гвалту і прымусовага вымаганьня подпісаў пад выдуманымі паліцыяй паказаньнямі ад арыштаваных пры дапамозе зьдзекаў і забойства арыштаваных бяз суду, шляхам інквізіцыйных катаваньняў.

3. арыштаў і пабояў, якія ўжываліся ў адносінах дэпутатаў Мятлы і Валошына, у той час, калі яны соймам яшчэ ня былі пазбаўлены імунітэта,

4. Трактоўкі палітычных зьняволеных нароўні з крымінальнымі злачынцамі.

5. Забойства «баюўкай» ППС работнікаў-камуністых (у Варшаве) і супроць таго, што польская паліцыя ня хоча гэтых забойцаў нават арыштаваць у той час, як дэпутаты ў сойме называюць імя забойцаў.

6. Зачыненьня паліцыяй «Беларускай Сялянска-Работніцкае Грамады» і масавых арыштаў усіх сьвядомых беларускіх работнікаў і сялян, беларускіх культурных і грамадзкіх дзеячоў.

7. Прысуду над 151 абвінавачваемымі ў працэсе ва Уладзімеры-Валынскім, дзе на аснове наказаньняў паліцэйскіх агэнтаў падсудныя былі засуджаны больш, чымся на 900 гадоў турмы, ў тым ліку 9 пазбаўлены свабоды на ўсе жыцьцё

8. Зачыненьня беларускіх і ўкраінскіх школ і забароны адчыняць і ўтрымліваць нават прыватныя беларускія і ўкраінскія школы

9 Супроць растрэлаў і забойстваў польскай паліцыяй галадуючых беспрацоўных, якія патрабуюць хлеба і працы.

Усе прысутныя на сходзе пратэстуюць супроць фашысцкага рэжыму і гвалту над работніцкім і вызваленчым рухам беларусаў і украінцаў у Польшчы і заяўляюць, што будуць змагацца ўсімі сродкамі супроць гэтага рэжыму і зробяць усё магчымае, каб увесь культурны сьвет і ў асаблівасьці работнікі і сяляне ўсіх краін Эўропы даведаліся аб фактах тэрору і гвалту польскага фашысцкага ўраду над усімі праявамі апазыцыйнага руху».

**Мітынг пратэсту супроць каленіяльнага і нацыянальнага уціску, ўлаштованы «Інтэрнацыянальным Камітэтам Сацыялістычнага Студэнцтва» ў Празе 4 сакавіка 1927 г.** На мітынгу выступала некалькі прамоўцаў, між імі Д-р Шмэраль і праф. Д-р Нэедлы. Гэты апошні быў на Брусэльскім Кангрэсу паняволеных народаў, які адбыўся 10—14 лютага 1927 г.

У сваёй прамове праф. Нэедлы падкрэсьліў значаньне адбыўшагася кангрэсу ў вызваленчай барацьбе паняволеных народаў. Вялікай памылкай, па яго пагляду, было тое, што на гэты Кангрэс ня выслалі свайх прадстаўнікоў прыгнечаныя польскім фашызмам славянскія народы, як беларусы і украінцы.

Пры гэтым праф. Нэедлы ня мог абыйсьці маўчаньнем апошнія падзеі ў Польшчы і горача пратэставаў супроць разгрому беларускага сацыяльнага і нацыянальнага руху, разгону «Грамады» і іншых беларускіх культурных, грамадзкіх і гаспадарчых устаноў.

**Мітынг-пратэст супроць белага тэрору, які адбыўся ў Празе 31 сакавіка 1927 г. па ініцыятыве МОПР-а.** Ня гледзячы на тое, што праская паліцыя не дала дазволу расклеіць у месьце афішы, усё праскае сьведамае работніцтва і паступовае грамадзянства зьявілася ў магутным ліку пратэставаць проці апошняга разгулу белага тэрору. Вялізарныя заля «Жофіну» была перапоўнена.

З дакладамі выступалі: вядомы пралетарскі пісьменьнік Язэп Гора і паслы чэскага парлямэнту — Крэйбіх і Сьліўка.

Пісьменьнік Гора ў сваёй прамове досыць падрабязна і яскрава намаляваў прысутным той абраз нялюдзкіх зьдзекаў і ўціску, які асабліва беларускія і украінскія работнікі і сяляне церпяць пад шляхоцка-фашысцкай уладай.

Пасьля прамовы пісьм. Горы быў прачытаны ліст ад беларускага, украінскага і бесарабскага паступовага студэнцтва, якое, знайходзячыся ў Празе, ня можа прыняць актыўнага ўдзелу ў пратэсьце і паінфармаваць прысутных аб разгулу рэакцыі, дзеля вядомых палітычных абмеркаваньняў.

Вялікую буру пратэстаў і абураньня выклікалі факты тэрору, пададзеныя паслом Сьліўкай, які праводзіцца польскім фашызмам над безбароннымі беларускімі і украінскімі работнікамі і сялянамі.

У канцы была пададзена рэзалюцыя, пратэстючая супроць разгулу фашысцкага тэрору ў Польшчы, Баўгарыі, Вэнгрыі і Румыніі, але паліцэйскі камісар не дазволіў нават яе прачытаць, ня то што прыняць.

Сход быў закончаны сьпяваньнем «Інтэрнацыяналу» і прагалошаньнем «ганьба» фашысцкім катам і іх памоцнікам.

**Пратэст культўрных працаўнікоў Чэхаславакіі проці тэрорыстычных мэтадаў сьвятовае рэакцыі.** «Культурная Эўропа за апошнія часы бязупынна хвалюецца справамі аб крутым тэрору, якім сьвятовая рэакцыя хоча зьнішчыць усіх сваіх праціўнікаў бяз агляду на іх мэты і мэтады змагання. Усюды перасьледуюцца палітычныя праціўнікі самым брутальным спосабам.

Найгорш паводзіцца зараз рэакцыя ў Вэнгрыі, а асбліва-ж у Баўгарыі, дзе ідеалёгчныя праціўнікі зьнішчваюцца фізычна ці катаргай, ці засуджаньнем на сьмерць.

Гэтымі-ж мэтадамі хоча сяньня і рэакцыя ў Польшчы зьнішчыць нацыянальны рух беларускага і украінскага народаў.

Пратэстуем рашуча проці такога барбарства. Калі рэакцыя зьяўляецца такой моцнай, як яна хваліцца, маючы яшчэ ў сваіх руках дзяржаўны апарат, то тым меней яна мае права ўжываць тэрор супроць тых, якія выступацюь проці грубага фізычнага гвалту думкай, ахвярнасьцю і натхненьнем.

Усё гэта канстатуе толькі трусьлівасьць і брутальнасць рэакцыі, якія мусяць абурыць кожнага чалавека, у каторага хоць трохі засталося сьвядомасьці аб элемэнтарных людзкіх правох.

Пратэстуем яшчэ раз проці такога барбарства, ня гледзячы на свае перакананьні, бо тут знайходзяцца ў небясьпецы самыя элямэнтарныя падваліны людзкае культуры і цывілізацыі».

Пад пратэстам падпісана каля 100 вызначных культурных працаўнікоў Чэхаславакіі: прафэсары вышэйшых школ, пісьменьнікі і паэты, мастакі, рэдактары газэт, артысты, паслы і сэнатары чэхаславацкага парляманту, выдатныя адвакаты і інш.

Пратэст быў зьмешчаны ў розных часопісях Чэхаславакіі за 3. IV. 27 г.

**Урачысты вечар-канцэрт з прычыны 20-цігадовага юбілею мастацкай творчасьці Якуба Коласа.**

13 студзеня 1927 г. беларуская савецкая калёнія ў Чэхіі сьвяткавала 20-ёхгодзьдзе літаратурна-мастацкай творчасьці Якуба Коласа. Як калісь, у 1925 г., пры сьвяткаваньні юбілею Я. Купалы, арганізатарам сьвяткаваньня ізноў стаў праскі «Маладняк».

Шмат часу і энэргіі прышлося затраціць на тое, каб вядомы ня толькі ў Чэхіі, але і за яе межамі, чэскі «Хор Бакулы» вывучыў да юбілею некаторыя беларускія народныя песьні.

Зацікаўленасьць колаў чэскага грамадзянства павялічылася тым, што рэфэрат на вечары аб творчасьці Я. Коласа ўзяўся прачытаць вядомы чэскі вучоны, прафэсар Др. Нэедлы.

Той посьпех, які меў вечар-канцэрт сярод грамадзянства, быў саўсім нечаканы. Вялікая «Жоўтая Заля» Акадэмічнага Дому ў Празе літаральна не магла зьмясьціць у сабе ўсіх прысутных. Не хапала месца ня толькі сядзець, але нават і стаяць. Былі прысутнымі, апрача амаль усіх беларускіх студэнтаў розных палітычных кірункаў, прадстаўнікі студэнцтва чэскага, баўг рскага, літоўскага, яўрэйскага, бэсарабскага, расейскага, украінскага, грузінскага і інш. У значным ліку прышлі прадстаўнікі розных чэскіх літаратурных групаваньняў, часопісаў, грамадзкіх арганізацый, супрацоўнікі савецкіх замежных прадстаўніцтваў у Чэхіі і г. д.

Вечар-канцэрт адчыніўся пяяньнем «Інтэрнацыяналу» — першы раз у Чэхіі на беларускай мове. Гымн працоўных быў надзвычайна прыгожа выкананы «Інтэрнацыянальным студэнцкім хорам» пад кіраўніцтвам маладога чэскага кампазытара Крэйчі'го. Пасьля гэтага старшыня акадэміі ў кароткім уступным слове ад імя «Маладняка» і ўсяго беларускага савецкага студэнцтва ў Чэхіі падкрэсьліў значэньне творчасьці Я. Коласа для бел. культуры, якая мае магчымасьць так пышна расквітаць толькі пры ўладзе працоўных — уладзе савецкай.

У сваёй прамове наступны прамоўца — раднік паўнаважнага прадстаўніцтва СССР у Чэхіі Калюжны казаў, што наймалодшы са ўсіх славянскіх народаў, які да рэвалюцыі ня меў яшчэ свайго ўстале-

нага правапісу, зараз, дзякуючы сав. уладзе, сямімільнымі крокамі ідзе наперад да агульна-людзкай культуры і дабрабыту, нага ў ногу з іншымі народамі, членамі аднэй вялікай сям'і працоўных — СССР. Прыкладам гэтага росту бел. культуры і ёсьць творчасьць Якуба Коласа, якога юбілей мы сьвяткуем.

Потым прачытаў свой надзвычайна каштоўны рэфэрат аб творчасьці Я. Коласа праф. Д-р Нэедлы на чэскай мове, які з вялікім зацікаўленьнем слухала цэлая заля, асабліва чэская яе частка. Праф. Нэедлы раўняе творчасьць Я. Коласа з творчасьцю Я. Купалы. Я. Купалу Нэедлы называе народным трыбунам, арганізатарам.

Аснова паэзіі Коласа — родная зямля — Беларусь, якая гаворыць да яго рознымі мовамі. Не абы якія людзі жывуць у Беларусі: жывуць там беларусы. Але дужа памыліўся-б той, хто парахаваў-бы Коласа ідэалістам. Ён — чысты рэалісты, які дае ў сваіх творах Беларусь такою, якою яна ёсьць, не падкрашываючы яе.

Колас мае вялічэзную энэргію, клічучы беларусаў, каб яны змагаліся за лепшую будучыню, асабліва ў сваіх «Песьнях Жальбы».

Мы зараз на пачатку сацыяльна-рэвалюцыйных баёў, а ўсё тое, што кліча да змаганьня, што рэвалюцыйна, — мы вітаем! На гэтым канчае свой рэфэрат аб Коласе праф. Нэедлы.

Пасьля рэфэрату праф. Нэедлага адбыўся вялікі канцэрт з дэклямацыямі твора ў Я. Коласа. Асабліва добрае ўражаньне зрабіла калектыўная дэклямацыя, якую з рэвалюцыйным запалам выканалі маладыя беларускія студэнты.

Два хоры: «Хор Бакулы» і «Інтэрнайыянальны Студэнцкі Хор» выканалі шмат беларускіх народных песьняў. Выкананьне абодвых хораў было такое мастацкае, што пасьля насупянных «біс'ау» прысутных, некаторыя песьні сьпявалі па некалькі разоў.

Ад імя прысутных юбіляру была паслана гарачая прывітальная тэлеграма. Наогул, вечар-канцэрт зрабіў вялізарнае ўражаньне на прысутных і многіх зацікавіў, асабліва чэскае грамадзянства, шляхамі разьвіцьця маладой беларускай літаратуры і культуры.

**Вечар беларускай народнай песьні 3. VI. 1927 г. у Празе.**

3 чэрвеня 1927 г. у Празе у гэтак званай «Мастацкай Бяседзе» («Umělecká Beseda») адбыўся, ладжаны вядомым чэскім «Бакулавым Хорам», «Вечар беларускае народнае песьні». У арганізацыі вечару актыўны удзел прыняў праскі «Маладняк», а таксама і «Цэнтральны Саюз Чэхаславацкага Студэнцтва».

З мастацкага боку вечар быў праведзяны надзвычайна добра.

У пачтаку выступіў вядомы чэскі музыкальны крытык праф. Д-р. Нэедлы, які даў кароткую характарыстыку беларускай народнай песьні, параўныcваючы яе з чэскай, расейскай і украінскай, падкрэсьліўшы яе асаблівую мэланхалічнасьць. Як сьцьверджаньне яго вывадаў, вядомая украінская сьпявачка Д'ячэнко прыгожа засьпявала некалькі беларускіх песьняў. Пасьля гэтага выступіў з вялікай праграмай «Хор Бакулы», які надзвычайна прыгожа выканаў каля 15 беларускіх народных песьняў, характарызуючыя розныя староньі быту беларускага народу.

Вечар зрабіў на прысутных вельмі добрае мастацкае уражаньне.

**Да зьезду А.Б.С.А. у Празе.** У летку 1927 г. мае ў Рыме адбыцца народны Кангрэс С.І.Е. (Міжнароднай Студэнцкай Канфэдэрацыі). Пастаўлены намі у «Новым Прамені» № 1 дыгноз аб А. Б. С. А., якое вылазіць на сьвет божы толькі ў часе Кангрэсаў С.І.Е., цалком апраўдаўся. Амаль цэлы год (ад жніўня 1926 г.) аб АБСА ня было чуваць ні слуху ні духу. Аж раптам у «Сялянскай Ніве» і «Беларускай Крыніцы» прыблізна з красавіка г.г. пачынаюцца салаў'ныя сьпевы аб тым, што АБСА — надзвычайна «карысная арганізацыя», толькі для каго?

Нейкі «Студэнт» з шкуры вылазіць, каб перацягнуць у АБСА студэнцтва з Зах. Беларусі і потым спэкуляваць ад яго імя сярод рознае міжнароднае чорнае сотні. Але студэнцтва з Зах. Беларусі не такое ўжо наіўнае, каб пайсьці на вудачку прыгожа сьпяваючых эміграцкіх сырэнаў і паставіць сябе

ў табар контр-рэвалюцыі. Яно добра ведае, што такое за АБСА. Мейсца беларускага студэнцтва, выйшаўшага з працоўных мас, разам з гэтымі масамі ў барацьбе проці польскага фашызму і яго прыслужнікаў — розных беларускіх угадоўцаў і контр-рэвалюцыянэраў, якбы яны не называліся: «Сялянскі Саюз», ці «Хрышчоная Дэмакратыя», ці «АБСА», ці «Рада БНР» і г. д.

З гэткай падрыхтоўкай гатаваны «зьезд» АБСА на чэрвень г.г. у Празе, як відаць, ня дасьць яго ініцыятарам чаканых імі вынікаў.

Так, як і раней, сойдзецца пара эмігранцкіх «дэлегатаў», з якіх кожны будзе зьяўляцца адначасна і цэлай арганізацыяй. Бо ранейшыя «зьезды» АБСА былі звычайнымі сабе агульнымі сходамі больш актыўных эмігранцкіх студэнтаў, якіх усіх ёсьць зараз у Празе ня больш двух дзясяткаў чалавек. Гэткі студэнцкі сход выбіраў сабе ўсіх функцыянэраў, пры чым, кожны прысутны звычайна атрымаў сабе нейкую «высокую» пасаду ў АБСА, а яго прозьвішча потым было разам з іншымі надрукавана ў «Сялянскай Ніве», як «вядомага» грамадзкага «дзеяча», які ў будучыне падае вялікія надзеі на вікіраваньне ў «людзі», накшталт «высланьнікаў БНР» у Зах. Эўропе і г. д. Пасьля гэтага АБСА здавалася на схаваньне ў эмігранцкі архіў, пакуль ізноў не знайходзілася потрэба ў ім.

Гэтыя самая працэдура адбудзецца і сёлета. Толькі дарэмная трата часу, якая не дае карысьці нават самім эмігрантам. Але — «чым-бы дзіцё ня цешылася, толькі-б ня плакала!»

---

## У ФАШЫСЦКАЙ ЛІТВЕ.

За апошнія часы сфашызаваная літоўская кабылка закусіла цуглі і, задраўшы хвост, нясецца да пропасьці. На чале Літвы стаіць зараз банда галаварэзаў, за фунты прадаўшая сябе і з патрахамі ангельскаму капіталу, які імкнецца справакаваць СССР на вайсковую авантуру. Нацыянальная фразэалёгія закінута ў барахло, пытаньне Вільні зьнята з парадку дзеннага, а польскі сфашызаваны пеўнік і літоўская кабылка, пад наглядам «вярхоўнага эўрапейскага арбітра» — Чэмбэрлена, пацiху пачынаюць згаварывацца аб адзіным фронту супроць СССР. Дзеля таго, каб зьнішчыць у масах адпор процi гэтай авантуры, як у Польшчы, гэтак і ў Літве пераводзіцца шалёны тэрор. Зараз Літва ў гэтым напрамку нават перагнала Польшчу. Пасьля вядомых растрэлаў літоўскімі фашысцкімі бандытамі бязьвінных работнікаў-сацыялістаў, прыходзяць на чаргу нават мяшчанскія дэмакраты і розныя сацыялзгоднікі, якія калісь скрозь пальцы глядзелі на сваіх цяперашніх катаў. За гэта яны іх цяпер не гладзяць па галоўцы, а прысуджваюць да растрэлу, як нядаўна зроблена гэта было з правадырамі літоўскіх людоўцаў на чале з паслом Сойму — Паюісам.

Толькі мы спадзяёмся, што літоўскія працоўныя масы ў рэшце рэшт скруцяць карак гэтым наймітам ангельскага капіталу, які за грошы хоча зьнішчыць не сваімі рукамі цытадэль міжнароднага будуваньня сацыялізму — СССР.

---

# Рознае.

## ЭМІГРАНЦКАЕ САМАХВАЛЬСТВА.

Беларускія эмігранты, седзячы ў Чэхіі і нічога ня робячы, у краёвай прэсе самі сабе падкурваюць фіміамам. Але, як кажа народная прыказка, што «мерцвяку і кадзіла не паможа». Так і тут. Толькі шкада бедных рэдактароў, якіх так спрытна абуваюць у лапці праскія «карэспандэнты». Хоць-бы ўзяць для прыкладу карэспандэнцыю з Прагі, зьмешчаную ў рыскай газэце «Голас Беларуса» № 47 (29) — «У Праскім Культурным Т-ве імя Фр. Скарыны». У гэтым легендарным Таварыстве фактычна нічога ня робіцца. З карэспандэнцыі мы-ж бачым, што там за 1926 г. адбылося аж 9 (?) рэфэратаў і некалькі Акадэміяў. Відаць, карэспандэнт, калі пісау, то меў на носе акуляры, якія павялічвалі ня меней, як у 5 разоў.

Што-ж тычыцца закладаньня пчалярскіх гурткоў і пісаньня кніжак у чэскай мове, дык відаць, што ўсё гэта проста прысьнілася карэспандэнту.

А што тады трэба думаць аб рэдактары, які, замест высьвятляць у сваей часопісі патрэбы і жаданьні беларускіх работнікаў і сялян, псуе паперу для зьмяшчэньня розных эміграцкіх нябыліц?

## А УСЁ ДАЛЕЙ ПІШУЦЬ...

Характернаю, неадпавядаючай праўдзе карэспандэнцыяй, зьяўляецца іншая заметка, зьмешчаная ізноў у «Сялянскай Ніве» за 5.I.27 г. № 2 (53) пад назовам «Сьвяткаваньне Коласаўскага Юбілею Скарынінскім Т-вам у Празе» 21.XII.26 г. «Сялянская Ніва» набіла ўжо руку на пісаньні рэляцый аб «урачыстых» эміграцкіх акадэміях у Празе.

Як-жа ў запраўднасьці выпадала толькі што ўспомненая «акадэмія»?

Трэба адзначыць, што гэтак званая «урачыстая акадэмія» адбывалася не ў вялікай салі «Студ. Дому», а толькі ўсяго ў найменьшым пакойчыку № 19, бо ўжо загадзя яе арганізатары не спадзяваліся на вялікі лік прысутных. П. Прысутны сьвядома перакручывае запраўднасьць, калі кажа, што «прысутных было дужа многа». Як раз наадварот. Хіба можна казаць «многа» прысутных, калі ўсіх было ня больш, як 15 чалавек?

Пры тым, калі на эміграцкім Скарынінскім сьвяткаваньні ў 1925 г. былі усёткі прадстаўнікі контр-рэвалюцыйных украінскіх і грузінскіх угрупованьняў, дык тут ня было абсалютна нікога. Праўда, пеўна па абмылцы забрыў на «Акадэмію» адзін сыяністы, але і той пабачыўшы, што нікога няма, у самым-жа пачатку ўцёк.

«Навуковасьць» рэфэратаў, прычатных на «Акадэміі», як відаць, заўважыў толькі адзін п. карэспандэнт, таксама як у яго фантазіі «канцэртным» аддзелам зьявілася ня вельмі што здавальняючая дэклямацыя некалькіх вершаў Я. Коласа.

Наагул, «Урачыстая Акадэмія» пакінула на ўсіх прысутных дужа сумнае уражаньне, і толькі трэба быць вялікім аптымістым, як п. Прысутны, каб атрымаць «дужа сымпатычнае уражаньне»...

Ці пасьля гэткага ашуканства можна верыць эміграцкім карэспандэнцыям і наагул тым газэтам, якія іх зьмяшчаюць? Як відаць — «абое — рабое»!

## НОВЫЯ ПАДВАЛІНЫ ПАД БУДЫНАК Б.Н.Р.

У № 5 дэфэнзыўна-бульварнай газэткі на беларускай мове «Беларускі Дзень» зьявілася новая па форме і старая па зьместу «Адозва да беларускага грамадзянства», падпісаная беларускім палітычным Арлекінам — Пятруком Крэчэўскім. Новая па форме таму, што ў ёй беспасярэдня зьмешчаны данос у польскую дэфэнзыву і адначасна жалаба, што беларускае паступовае студэнцтва ў Празе змагаецца цьвёрда і рашуча з падобнымі афэрыстымі накшталт «шаноўнага маршалка». Але за кароткія рукі, п. Маршалку, польскай дэфэнзывы, каб яна магла памагчы вам у вашай дэнунцыяцыі і заткнуць нам рот.

Старая па зьместу таму, што ў ёй знайходзіцца вядомая ўжо зьвяга старога, ня ў добрым гумору і недалёкага па думцы чалавека, незадаволенага сваім колькігадовым сядзеньнем у аднэй і тэй самай праскай піўной.

Цікава пры гэтым адзначыць толькі адзін маленячкі факцік: гэта тое, што зараз у працы за здабыцьцё незалежнасьці Б.Н.Р. як пан «Маршалак», гэтак і так званыя беларускія эс-эры, карыстаюцца аднэй і тэй самай мэтодай. Адкрыты новы спосаб падняцьця з мертвых Б.Н.Р., праўда, трэба канстатаваць, п. п. Валэйшай і Паулюкевічам: польская дэфэнзыва. Польскі жандар і шпік здабудзе Б.Н.Р.!

І зараз бачым сымпатычны абразок, як разам «працуюць» на карысьць толькі не Беларусі, а фашысты Пілсудзкага, п. п. Валэйша, Паулюкевіч, Мамонька і Крэчэўскі. Надзвычайна прыгожае ўражаньне! «Ад вялікага да сьмешнага — адзін толькі крок». Ці ня праўда, пане Маршалку?

## ЯШЧЭ АДНЫМ АРХІЎНЫМ ДАКУМЭНТАМ БОЛЕЙ.

«У часе Усясьветнай вайны ў Лёндане, Парыжы, Вене, Петраградзе, Бэрліне і Вашынгтоне кіраўнікі дзяржаў і палітычныя дзеячы urbi et orbi

казалі, што іх дзяржавы вядуць вайну галоўна, і амаль выключна, дзеля
вызваленьня паняволеных народаў. Гэта новая для імперыялістычных дзяр-
жаў вызваленчая ідэалёгія была сфармулявана ў славетных 14-ці пунктах
Вільсона, якія мелі легчы ў аснову мірнай канфэрэнцыі.

Няшчырасьць выступленьня вялікіх дзяржаў у абарону паняволен-
ных імі-ж самімі народаў, добра была відаць ужо ў тыя часы з таго, што гэтае
«вызваленьне» правадзілася на рахунак сваіх праціўнікаў, у той час, як у
сябе «вызваленцы» пакідалі ўсё па даўнаму, або агранічаліся туманнымі
абяцаньнямі.

«Усясьветная» Вэрсальская мірная канфэрэнцыя магла, але непала-
годзіла «нацыянальных» пытаньняў. Яна прайшла пад сьцягам старых на-
цыянал-імперыялістычных ідэалаў дзяржаў пераможніц. Дадзенае Антан-
тай вызваленьне некаторым народам ня мела пад сабою, у сваей аснове,
шырэйшай ідэйнай падставы, згоднай з вымогамі часу.

Цёмныя сілы старай Эўропы ўтварылі з вызволеных народаў дзяр-
жавы на ўласны абраз і падоб'бе г. зн. кшталтавалі хіжацкія арганізмы на
капіталістычна-імпэрыялістычнай аснове. У выніку — версальскае вызва-
леньне сталася запраўдным данайскім дарам для вызваленых народаў.
Вайсковыя даўгі зруйнавалі іх эканамічна, а ўключаныя ў новыя дзяр-
жавы на анэксным праве чужыя народы і тэрыторыі разьядаюць іх унутры
і аслабляюць на-зьне.

Гэткім чынам Вэрсальскі мір заместа міру, даў балканізацыю Эўропы.

Арганізаваная Антантай Ліга Нацый, гэтак сама абапёрлася на старым
нацыянал-імпэрыалізме. У склад Лігі Нацый могуць уваходзіць толькі
дзяржавы, але не народы. Паложаны ў аснову яе арганізацыі прынцып су-
вэрэннасьці нацый пазбавіў паняволеныя народы ня толькі права голасу
перад гэтым міжнародным форумам, але нават права жаліцца перад ім на
крыўды, якія ім дзеюцца ад нацый-паноў.

Жалабы паняволенага народу на свайго сувэрэна могуць быць раз-
гледжаны пленумам Лігі Нацый толькі са згоды таго-ж сувэрэна. Прыкладам,
— жалабы беларусаў на гвалты і злачыны, якія ім дзеюцца пад польскай
акупацыяй, Ліга Нацый не разглядала таму, што яны былі падаваны ей не
цераз польскую дэлегацыю!

Усясьветная вайна, гэта вялікая крывавая жэртва народаў, ня пры-
несла ўсеагульнага вызваленьня, якога ад яе спадзяваліся ўсе тыя, като-
рыя стагналі ў путах нацыянальнай і сацыяльнай няволі, каторыя прыду-
шаны былі цяжарам палітычнага ярма.

Недзяржаўныя народы чулі з вуст зах.-эўропэйскіх палітыкаў многа
аздобнай фразэалёгіі ўсякага стылю і зьместу: часам шчыра наіўнай або
плятонічнай, часам фарызэйска-дэмагагічнай, або рафінавана-ашуканскай,
але па-за ёй заўсёды правадзілася права кулака і адкрытая народафагія.

Безкарнае і цынічнае зьдзекаваньне Польшчы над беларускім народам
на вочах усей «культурнай» Эўропы, як вядома, ня выклікала з боку апошняй
пратэсту. «Гуманнае» зах.-эўропэйскае грамадзянства моўчкі санкцыянуе
дэнацыяналізацыю ў Польшчы народных меньшасьцяў, калёнізацыю белару-
скіх зямель, сярэднявяковыя тартуры вязьняў у турмах і дзяцей у накіну-
тых беларусам польскіх школах.

Чаму? — Бо Польшча стасуе да беларусаў мэтады дзяржаўнага кіра-
ўніцтва асьвячоныя гісторыяй, традыцыямі і правам саміх капіталістычна-ім-
пэрыялістычных дзяржаў. Сіла вышэй права! Гора слабым і паняволеным!

У апошнія часы Беларускі Народ выказаў многа суб'ектыўнай волі
да нацыянальнай еднасьці ў сваей уласнай дзяржаве.

У бягучы гістарычны мамэнт існуюць два тыпы дзяржаўных аргані-
зацый: капіталістычна-буржуазны і савецкі. Першы тып ідзе ад буржуаз-
нага Захаду, другі ад пралетарскага Усходу.

Апіраючыся на Захад магчыма будаваньне толькі буржуазна-дэма-
кратычнай дзяржаўнасьці, абапёртай на капіталістых і буржуазію.

Беларускіх капіталістых няма, як няма ў нас свайго грашавітага мяш-
чанства (буржуазіі). Цэлых сто працэнтаў нашага народу складаюцца з ма-

лазямельнага сялянства, гарадзкога і вясковага пралетарыяту, ды стасункова невялікай групы працоўнай інтэлігенцыі.

Дзеля гэтага, пры адбудаваньні нашай дзяржаўнасьці з Захаду, мейсца няіснуючай у нас капіталістычнай клясы займуць вярнуўшыяся польскія і расейскія памешчыкі і чужанародныя капіталісты. Беларускі Народ апынецца ў апошнім здарэньні на палажэньні паняволеннага, як эканамічна эксплёатаваная кляса грамадзянства ў краю. Чужы хіжацкі капітал будзе сыстэматычна высмактываць натуральныя багацьці краю ды пот і кроў працоўных мас.

Чужая буржуазія і капіталісты прыдуць са сваей уласнай «вышэйшай» культурай. Наша адраджаючаяся «мужыцкая» культура, наша мінуўшчына і будучына ў вачох самаздаваленага і надутага зах.-эўропейскага мяшчанства — рэч сьмешная, таксама, як у вачох калішняга сярэднявяковага феодала было сьмешным імкненьне яго прыгоннага хлапца да граматнасьці.

Не, ў буржуазна-капіталістычных пэрспэктывах няма будучыны заняпаўшаму эканамічна работніцка-сялянскаму Беларускаму Народу.

Падыймаючая галаву Зах. Эўрапейская рэакцыя ня будзе павітухаю нашага фізычнага і духовага вызваленьня.

Якія-ж пэрспэктывы маюцца для Беларускага Народу ў паслярэвалюцыйнай Усходняй Эўропе?

Пад націскам рэвалюцыйнага vox populi, там цяпер пралетарыат, працоўныя масы, трымаюць у сваіх руках стырно дзяржаўнага кіраўніцтва. Замест Расійскай Імпэрыі ўтворана Саюз Сацыялістычных Савецкі Рэспублік на аснове раўнапраўнасьці. Ажываюць чароўныя клічы самаазначэньня народаў.

Ня ўсё яшчэ там ідзе лёгка і гладка, бо вялікая пасьляваенная руіна; засьвежы яшчэ, як вынік гістарычнай спадчыны, уплывы русіфікацыі, але ёсьць ужо праўная аснова для незалежнага народна-дзяржаўнага жыцьця; ёсьць свабода і матэрыяльныя магчымасьці культурнага разьвіцьця на сваёй уласнай беларускай аснове.

Савецкая Беларусь сабрала ўжо тры чацьвёртых сваёй народна-этнаграфічнай тэрыторыі ад Усходу і ў працэсе росту народнай сьвядомасьці жыхарства будзе далучана рэшта этнаграфічна-беларускіх зямель Смаленшчыны, б. Віцебшчыны і Чарнігаўшчыны.

Савецкая Беларусь цяпер мае 125.000 кв. кілёмэтраў абшару і каля 5.000.000 жыхарства.

На чале Савецкай Беларусі стаяць беларускія сілы, якія выйшлі з радоў беларускага працоўнага народу. Падгатаўляюцца кадры маладой беларускай інтэлігенцыі. Адбудовуецца зруйнаванае вайной і доўгай няволяй культурнае і гаспадарчае жыцьцё.

Савецкі Менск становіцца асяродкам беларускага культурнага жыцьця, а Савецкая Беларусь сталася адзіным палітычным цэнтрам каля каторага, дзякуючы аб'ектыўным варункам, будуць аб'еднавацца ўсе беларускія землі.

І хоць яшчэ многа можна пажадаць Савецкай Беларусі, але тое, што на ролю пануючай клясы ў дзяржаве высовуюцца працоўныя, работніцка-сялянскія масы, надае пэўнасьць, што лепшая сьвятлейшая будучына беларускага народу фактычна будуецца на Савецкім Усходзе.

Савецкім Работніцка-Сялянскім Урадам правільна разьвязуюцца нацыянальныя і сацыяльныя пытаньні ў карысьць працоўных мас прыгнечаных народаў.

Прэтэнзіі Польшчы стацца канкурэнтным чыньнікам Менску ў справе зьбіраньня беларускіх зямель ня маюць пад сабою ніякога грунту. Апошнія арышты членаў Грамады і ўся папярэдняя імпэрыялістычна-шавіністычная палітыка Польшчы суліць Беларускаму Народу, як ужо вышэй было сказана, акром палітычнай і эканамічнай няволі, яшчэ старое фэодальнае ярмо.

Сьмешна працістаўляць беларускаму Менску феодальную Варшаву.

Дзеля гэтага, як беларускаму адражэнчаму руху у цэлым, так і паасобным беларускім дзеячам нельга вясьці такой палітыкі, якая-бы йшла на шкоду Беларускаму народу.

Беларуская працоўная інтэлігенцыя, якая змагалася за адраджэньне свайго народу і яго дзяржаўна-вызваленскія ідэалы, мела на відоку акурат тыя сацыялістычныя ідэалы, якія цяпер рукамі Савецкай улады праводзяцца ў жыцьцё.

Беларускім культурным і палітычным дзеячом няма патрэбы туляцца ад працы, якая перад імі ляжыць адкрытай.

У свой час лепшыя адзінкі нашага Народу, ідучы на эміграцыю, хацелі прынесьці пажытак сваей бацькаўшчыне, але гэтыя спадзяваньні іх не спраўдзіліся.

Заграніца ня помач суліць нашай эміграцыі, а спэкуляцыю народнай крывёю. Дык годзе гэтага!

Дзякуючы дамаганьням злучанага ўсясьветнага капіталу Беларусь можа стацца тэатрам аружнага змаганьня, дык еднасьць беларускага народнага палітычнага фронту цяпер асабліва патрэбна нам, каб не даць магчымасьці чужынцам выкарыстаць нескансалідаваныя каля свайго цэнтру палітычныя групы, і ў першы чарод, эміграцыю, на шкоду беларускіх працоўных мас. Элямэнтам духова здаровым і здольным да працы, замест мадзеньня на чужыне, трэба вяртаць дамоў, дзе іх «сустрэнуць лясамі, палямі грамады працоўных людзёў».

**В. Ластоўскі.**

*Ад рэдакцыі.* Зьмешчваемая «споведзь» старшыні былога папяровага ураду Б.Н.Р. зьяўляецца фактам поўнага і аканчальнага банкруцтва БНР-аўскай эміграншчыны, якая, ня глядзячы на сваю поўную адарванасьць ад шырокіх беларускіх працоўных мас, да апошняга часу старалася сьцягнуць вызвольны рух працоўных Беларусі на рэйкі контр-рэвалюцыі і гэткім чынам адраджэньне беларускага народу падпарадкаваць зах. эўрапейскай буржуазіі. Наведзяны архіўны дакумэнт у тысячны раз падкрэсьлівае, што беларускія працоўныя масы, пайшоўшы шляхам сацыяльнай рэвалюцыі, на дзеле паказалі ўсім авантурнікам беларускага вызвольнага руху, у тым ліку і БНР-аўшчыне, што адзінай уладай, якая можа вырашыць беларускае пытаньне, зьяўляецца Савецкая. Апошняе змушана прызнаць нават і тая частка беларускае народніцкае інтэлігэнцыі, якая, бадзяючыся па «дэмакратычных» дзяржавах, на сваей ўласнай скуры пазнала, што іх ідэал — «дэмакратыя» не дае магчымасьці вясьці нат' мінімальнай беларускай культурнай працы, ня кажучы ўжо аб палітычнай. Пераход Ластоўскага азначае поўную ліквідацыю астатняй часткі г. зв. адраджэнскай інтэлігэнцыі, якая аж да гэтага часу варожа ставілася да будаваньня беларускай дзяржаўнасьці рукамі працоўных.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**М. Тарасюк.** Зах. Беларусь. Прысланы матэрыял добры, але зараз за стары. Пішыце далей.

**А. Баркоўскі.** Латвія. Вершаў ня друкуем, бо слабыя.

**Сьлёзка.** Зах. Беларусь. Матэрыял, як музычны, для нашае часопісі не падыйходзіць. Прысылайце іншы.

**А. Сальцэвіч.** Латвія. Дзякуем за прывітаньне. Працуйце над сабой.

**М. Навіцкаў.** Зах. Беларусь. Прысланы артыкул не падыйходзіць.

**Ян з Капачэўкі.** Прага. Вашыя «Думкі Эмігранта» ня друкуюцца, бо занадта яны эміграцкія.

# Зьмест.

Ст.

1. *Д.* Тэстамэнт ........................ 1
2. *М. Віленскі.* Сусьветнае «разбраеньне»........ 2
3. *О.* Палітычнае жыцьцё ў Зах. Беларусі .......... 5
4. *А.* Аб справаздачы Ураду БССР на сэсіі ЦВК СССР.... 16
5. *Л.* Народная гаспадарка БССР ............ 19
6. *Т. Г.* Зямельныя адносіны на Беларусі.......... 30
7. *К.* Сучасны стан Польшчы.................. 37
8. *Галынец.* Белы тэрор...................... 52
9. *Гэнры Барбюс* аб фашызьме ................. 57
10. *Гамма.* Новыя саюзьнікі польскага фашызму......... 59
11. *Рыгор Кудаса.* Ой зірні ................. 62
12. *Рыгор Кудаса.* Дзень на усходзе ............. 62
13. *Д.* *** ............................ 63
14. *Бэхэр.* Казьнёны ....................... 63

Хроніка.

1. Савецкая Беларусь ..................... 71
2. Чэхаславакія: а) Студэнцкае жыцьцё.
   б) Пратэст бел. і украін. ст.
   в) Пратэст чэскага Сац. С-тва.
   г) Пратэст МОПР-а.
   д) Пратэст ческіх інтэлектуалаў.
   е) Аб АБСА.
3. Літва.

Рознае ................................ 79

Эмігранцкае самахвальства.
А усё далей пішуць.
Новыя падваліны БНР.
Яшчэ адным архіўным дакумэнтам боляй.
Паштовая скрынка.

---

## Ад рэдакцыі.

Рэдакцыя зьвяртаецца да усіх прыхільнікаў журналу «Наш Прамень», каб яны падтрымлівалі яе ў выданьні адзінае студэнцкае часопісі,выходзя.-чае за межамі Беларусі, пісаньнем для яе артыкулаў і карэспандэнцыяў Толькі супольнымі сіламі мы зможам стварыць друкаваны орган паступовае думкі, вядучы барацьбу за лепшую долю працоўных.

---

ЦАНА 5 Kč.

---

Адказны рэдактар — выдавец Д-р Іван Сэкапіна. Друкуе „Legiografie" Praha-Vršovice 665
Адрэса рэдакцыі: Tchécoslovaquie. Praha, Vinohrady, poštovní přihrádka 70.

